


Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 51 (4749) 27 снежня 2013 г.




### Езус прыходзіць — прымем яго

**Глыбокапаважаная рэдакцыя і чытачы газеты «Літаратура і мастацтва»!**

Ізноў, як штогод, Божы Провід дазваляе нам адзначаць радаснае і збаўчае свята Божага Нараджэння, калі дома мы ладзім ялінкі, купляем падарункі дзецям і спяшаемся да касцёла, каб у роздуме стаць каля ясляў, дзе знаходзіцца фігурка Немаўляткі Езуса. Менавіта гэтае слабое фізічна Дзіця стала мацнейшым за магутных гэтага свету і адыграла непаўторную ролю ў жыцці чалавецтва, бо Яно — гэта доўгачаканы Збаўца.

Мы становімся каля ясляў, каб падзякаваць Богу за гэты вялікі дар Яго любові і ад Яго вучыцца такой любові, якая павінна абняць сучасны свет.

Дзве тысячы гадоў таму сярод цёмнай ночы граху апоўначы раздаўся стук. Гэта быў стук Марыі і Юзафа ў дзверы гасцініцы, каб знайсці месца, дзе мог бы нарадзіцца Збаўца свету. На самай справе гэта быў стук Бога ў дзверы чалавечага сэрца.

Ноч была халодная фізічна і маральна, бо сэрцы людзей на просьбу прыняць цяжарную жанчыну ў свой дом адказалі ёй рашучае «не» і Марыі з Юзафам трэба было шукаць цяпла сярод жывёл каб, нягледзячы на цемру і холад, у свет увайшло святло і цяпло Божай любові.

Сёння, ужо ў XXI стагоддзі, Бог ізноў стукае ў дзверы нашых сэрцаў. Але ці мы чуем гэты стук? Ці ў нашых сэрцах ёсць месца для Божага права, для духу Евангелля, для бедных і церпячых? Ці маем месца і час для Бога? Ці не праганяем Яго?

На жаль, сучасны чалавек вельмі часта не мае месца і часу для Бога. А калі няма месца для Бога, то няма месца і для іншых — для дзяцей, для бедных, хворых, церпячых і г. д.

Свята Божага Нараджэння заклікае нас духоўна паімкнуцца ў Бэтлеем. Гэта азначае выйсці з нашых грэшных звычак і задавальненняў, каб звярнуцца да Бога, які праз паслугу Касцёла прыходзіць да нас. Езус стукае ў нашы сэрцы і хоча, каб мы пачулі Ягоны стук і знайшлі Яму месца, бо толькі ў Ім чалавек будзе шчаслівым і стане будаваць шчаслівае грамадства.

Ад усяго сэрца віншую рэдакцыю і чытачоў газеты «Літаратура і мастацтва» са святам Божага Нараджэння! Няхай гэтая папулярная газета стане стукам Бога ў сэрца сучаснага чалавека, каб ён Яго прыняў! Няхай спрыяе духоўнаму адраджэнню нашай Бацькаўшчыны, каб яна будавала сваю будучыню на маральных каштоўнасцях! Няхай у ёй запануе Божы спакой, узаемная згода і паразуменне!

Радасных, шчаслівых, поўных Божай ласкі і прысутнасці Хрыста ў нашых сэрцах свят Божага Нараджэння і шчаслівага надыходзячага Новага года.

**З блаславеннем**
**арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч,**
**Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі**

# 2013. Асобы



6



14



2



15



16



5



13



16



7



3



9



12

*Фота Кастуся Дробава*

**Уладзімір Гніламёдаў,**
**акадэмік НАН Беларусі, літаратуразнаўца:**

— У 2013-м часопіс «Полымя» надрукаваў на сваіх старонках заканчэнне майго рамана «Ліхалецце» — пра вайну на тэрыторыі Берасцейшчыны. З'явіліся водгукі на яго, пытанні, цікавасць. Асабліва з боку маіх землякоў, якія кажуць: «Так, гэта сапраўды пра нас!» І для мяне самае важнае тое, што нейкім чынам я спыніў час і гэта застанецца. Сваю задачу я бачу найперш у тым, каб не сышла ў нябыт чалавечая энергетыка, перажыванні, памяць цэлага пакалення…

Нехта мяркуе, што пра вайну ўжо ўсё сказана творцамі-папярэднікамі, але ж на ўзроўні жыцця, побыту, чалавечых думак і разваг яшчэ вельмі шмат засталося неадкрытага ў гэтай тэме. Я наогул апошнім часам прыйшоў да простай думкі: кожны пісьменнік стварае Сваю Літаратуру! Кожны чалавек — індывідуальнасць, і гэта адбіваецца на ўсёй мастацкай сістэме творцы. Наколькі пісьменнік цікавы як асоба, настолькі цікавым становіцца і тое, пра што ён піша. Мне падаецца, пра гэта трэба ведаць і не баяцца быць не падобным да іншых. Прасцей, канечне, быць як усе: вопратка, манеры, выгляд, а вось каб адрозніваць, паказваць сваё «Я» — для гэтага патрэбна вялікая смеласць. Канечне, трэба не толькі паказваць, але і адказваць за ўласныя ўчынкі!

Увогуле пісьменнік заўжды знаходзіцца ў групе рызыкі, у канфлікце з самім сабой. Я добра падумаў бы перад тым, каб пажадаць некаму гэткай долі. Але, з другога боку, творчасць узбагачае чалавека, прымушае глыбей глядзець на жыццё, цаніць яго каштоўнасці, заўважаць фарбы, супяражываць і разумець іншых.

Спадзяюся, што ў 2014-м у выдавецтве «Мастацкая літаратура» нарэшце пабачыць свет мой раман «Валошкі на мяжы». А самае галоўнае, каб здароўе трывала, — тады будуць і новыя творы, і новыя планы!

*За падзеяй*

# А пачалося з «ЛіМа»

Святочнае пасяджэнне літаратурнага аб'яднання «Рунь», прысвечанае 80-гадоваму юбілею выдатнага педагога, журналіста, краязнаўцы, збіральніка мясцовага фальклору Віктара Несцяровіча, прайшло ў Лагойскай цэнтральнай раённай бібліятэцы.

Падчас вучобы ў Белдзяржуніверсітэце Віктар Антонавіч паспрабаваў сябе ў журналістыцы і даслаў артыкул у штотыднёвік «Літаратура і мастацтва». Надрукавалі! Гэта і стала добрым стартам для будучай творчасці. Потым былі артыкулы ў іншых рэспубліканскіх выданнях: газеце «Чырвоная змена», часопісах «Маладосць», «Вясёлка» і «Бярозка». Падборка вершаў увайшла ў калектыўны зборнік студэнтаў БДУ «Падарунак». Дарэчы, на адзін з твораў Віктара Несцяровіча кампазітар Мікалай Аладаў напісаў раманс «Сняжынка».

Пасля заканчэння ўніверсітэта быў размеркаваны на працу ў Бяларуцкую школу. Адразу ж па прыездзе на Лагойшчыну пачаў супрацоўнічаць з раённай газетай, але прафесійна заняўся журналістыкай толькі ў 1980 годзе, калі тагачасны рэдактар «раёнкі» М. Якімчык запрасіў яго на пасаду адказнага сакратара. Потым Віктар Несцяровіч сам дапамагаў многім творцам-пачаткоўцам.

Дзякуючы яго артыкулам газета не раз уваходзіла ў лік пераможцаў рэспубліканскіх конкурсаў. Пра цяжкія ваенныя і пасляваенныя гады распавёў у кнізе ўспамінаў, якая пабачыла свет у 1994-м.

У пачатку 2000-х Віктар Антонавіч захапіўся зборам твораў традыцыйнай песеннай культуры Лагойшчыны. Вынік шматгадовай карпатлівай працы — зборнік «Песні Лагойшчыны», які атрымаў станоўчы водгук вядомых у краіне этнамузыказнаўцаў. Вялікі ўнёсак Віктар Антонавіч зрабіў у стварэнне кнігі «Памяць. Лагойскі раён»: рыхтаваў матэрыялы і фотаілюстрацыі, займаўся карэктурай двух тамоў гэтага выдання.

Менавіта Віктар Несцяровіч ініцыяваў стварэнне ў Лагойску раённага гісторыка-краязнаўчага музея братоў Тышкевічаў. Актыўна ўдзельнічаў у пошуку экспанатаў і некаторы час быў галоўным захавальнікам фондаў музея.

У 2009 годзе Віктар Антонавіч быў абраны старшынёй Лагойскага раённага Савета ветэранаў. Апошнім часам творца плённа працуе над падрыхтоўкай калектыўнага зборніка вершаў паэтаў Лагойшчыны «Пад Купалаўскай зоркай».

**Анастасія СІНЮКОВІЧ**

*З нагоды*

# Дарогамі лёсу

Творчая сустрэча з членам Саюза пісьменнікаў Беларусі Яўгенам Соцікавым прайшла ў Быхаўскім раённым Цэнтры культуры. Імпрэзу, прысвечаную 80-годдзю аўтара некалькіх кніг, арганізавалі супрацоўнікі цэнтральнай раённай бібліятэкі г. Быхава.

Яўген Анатольевіч нарадзіўся на Быхаўшчыне ў сям'і настаўніка. Паўстагоддзя адпрацаваў на Магілёўскім металургічным заводзе, на заслужаны адпачынак сышоў з пасады галоўнага энергетыка прадпрыемства.

Пра тое, што давялося перажыць разам з маленькай сястрой і маці на прымусовых работах у Францыі і Германіі падчас Вялікай Айчыннай вайны, пісьменнік распавёў у кнізе «Страшна ўспамінаць». Юбіляр падарыў бібліятэцы сваю кнігу — «Райскі куток». Іншыя кнігі пісьменніка былі прадстаўлены на выстаўцы «Дарогамі лёсу».

У вечарыне таксама браў удзел член Саюза пісьменнікаў Беларусі, намеснік старшыні Магілёўскага аддзялення СПБ Мікалай Хобатаў.

**Аксана ДРОЗД**

Рэдакцыя газеты «Літаратура і мастацтва» шчыра віншуе мастака і паэта **Рыгора Сітніцу** з абраннем на пасаду старшыні Беларускага саюза мастакоў і зычыць яму натхнення і плёну.



# Крымінал у лістах

*Фота Юліі Гергалавай*

Сёння мы амаль не вядзём перапіску на паперы, карыстаючыся ці эсэмэскамі, ці электроннай поштай, ці сэрвісам паведамленняў у сацыяльных сетках. Імпрэза «Атрасіны-2013: Эпісталярны дэтэктыў» Народнага Літаратурнага Тэатра «Жывое слова», што адбылася днямі ў Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка, якраз і ўвасабляе альтэрнатыву нашай камунікатыўнай сітуацыі.

Эпісталярная літаратура (ад лацінскага *epistola* — ліст, пасланне) — гэта перапіска паміж рэальнымі людзьмі, апублікаваныя лісты дзеячаў навукі, культуры, мастацтва да калег і сяброў. Эпісталярная форма, ці эпістала (не блытаць з эпісталярнай літаратурай!), — мастацкі твор у форме ліста або пасланне: апавяданне, аповесць, раман у лістах (прыкладам, «Бедныя людзі» Ф. Дастаеўскага). У лістах персанажаў адлюстроўваюцца іх настроі, светапогляд, жыццёвыя ідэалы.

Слова «атрасіны» ўтворана ад дзеяслова «атрасаць». Менавіта так удзельнікі тэатра акрэсліваюць падвядзенне вынікаў зробленага за год. Гэтым разам на сцэне адбывалася дзейства, цікавейшае нават за «эфект прысутнасці»: галоўны герой тут — сам пісьменнік, які і сапраўды апынаецца цалкам уцягнутым у сюжэт! Дарэчы, акцёр «Жывога слова» Алесь Мойскі (а ён з'яўляецца і аўтарам сцэнарыя, і — разам з удзельніцай калектыву Марынай Булавой — рэжысёрам пастаноўкі) выдатна справіўся з гэтай роляй. Увогуле, «Жывое слова» аб'ядноўвае студэнтаў розных навучальных устаноў. Напрыклад, Уладзіслава Баталка, выканаўца ролі следчай, і Аляксандра Рыбак — студэнткі 4-га курса БДЭУ, а Марына Булава вучыцца ў магістратуры БДУІР. На роднай сцэне БДПУ ў гэты вечар радавалі гледачоў Карына Пацко, Юлія Гергалава, Ганна Суша і Алена Чэпік, а таксама мастацкі кіраўнік тэатра — Алеся Сівохіна.

Імпрэза сталася своеасаблівым міксам жанраў сцэнічнага мастацтва. Тут мелі месца і спевы пад акампанемент гітары, і пантаміма, і дэкламаванне вершаў класікаў айчыннага слова (У. Караткевіча, Я. Янішчыц, С. Грахоўскага, Р. Барадуліна). Але «разынка» праграмы — безумоўна, лісты з асабістай перапіскі вядомых дзеячаў айчыннай літаратуры (Францішка Багушэвіча і Элізы Ажэшкі, Уладзіміра Жылкі і Антона Луцкевіча, Зоські Верас і Міхася Вераціла), тэксты якіх гучалі са сцэны. Інтэртэкстуальна ў п'есу было закладзена таксама апавяданне Цёткі «Асеннія лісты».

Яшчэ адна адметнасць пастаноўкі — складаны сюжэт дэтэктыва, які стварае (на друкарскай машынцы!) сам пісьменнік. Гвалтоўная смерць святара ў мястэчку N, куды выпраўляецца аўтар, а за гэтым злачынствам — яшчэ цэлая серыя забойстваў, ахвярамі якіх становяцца выключна жанчыны. Пасля пісьменнік чуе галасы — гэта няшчасныя кабеты зачытваюць яму свае перадсмяротныя лісты. А ў фінале следчая, якая прыязджае сюды, знаходзіць рукапіс. Тут падрабязна апісваюцца забойствы. І яна прыходзіць да высновы, што ва ўсім вінаваты… сам пісьменнік!

«Эпісталярны дэтэктыў» — несумненная творчая ўдача «Жывога слова». А «атрасіны» набыткаў адыходзячага года — добры стымул да таго, каб працаваць далей, рэалізоўваючы новыя арыгінальныя праекты.

**P. S.** Народны Літаратурны Тэатр «Жывое слова» працягвае набор новых акцёраў у свой калектыў кожны аўторак і чацвер а 19-й гадзіне па адрасе: вул. Савецкая, 18, 2-і корпус БДПУ, аўдыторыя 500.

**Яна ЯВІЧ**

# Дзе ты, шчаслівае дзяцінства?

Адказ на гэтае пытанне шукаюць артысты Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа ў прэм'ерным спектаклі, пастаўленым мастацкім кіраўніком Валерыем Анісенкам па аднайменнай аповесці Паўла Санаева «Пахавайце мяне за плінтусам».

Вельмі ўдалы пераклад на беларускую мову зрабіў артыст і паэт Пятро Ламан. У спектаклі дэбютавалі сцэнограф і мастак па касцюмах Андрэй Жыгур, аўтар мультымедыйнай партытуры Міхаіл Лавіцкі. Першыя гледачы ўжо ацанілі прапанаваную сцэнаграфію і відэарад, атрымалі асалоду ад сустрэчы з галоўным героем Сашам Савельевым у выкананні выпускніка Віцебскага дзяржаўнага каледжа мастацтваў Рамана Салаўёва.

Рэжысёр Валерый Анісенка марыў пра пастаноўку на працягу двух гадоў, з таго самага часу, як прыйшоў у Коласаўскі тэатр у якасці дырэктара і мастацкага кіраўніка. У цэнтры спектакля васьмігадовы хлопчык Саша Савельеў — аўтар аўтабіяграфічнай аповесці Павел Санаеў, які, па ўласным сведчанні, і цяпер добра памятае тое, што адбывалася з ім на той час. Але ў кожнага чалавека свая эмацыянальная памяць. Раману Салаўёву 22 гады, ён не мае падобнага доследу ва ўзаемаадносінах з бабуляй і дзядулем. Больш за тое, артысту даводзілася прыстасоўвацца на сцэне да некаторых калег.

Тамара Скварцова ў ролі Бабулі — звычайная жанчына ва ўзросце, са сваёй асаблівай любоўю да ўнука, няўрымслівая домаправіцельніца. Яна ўсюды! Нават калі сыходзіць у іншы пакой, цень яе абавязкова адбіваецца на шкле раскалатага люстэрка. У другім акцёрскім складзе Бабуля (Валянціна Багданава) падаецца больш стрыманай. І мамы ў нашага Сашы вельмі розныя. Анжаліка Баркоўская — вельмі кранальная, пяшчотная. Калі яна спявае для сына калыханку на малдаўскай мове, здаецца, увесь сусвет хоча дапамагчы ёй вярнуць уласнае дзіця. Ніна Обухава — больш нервовая, маці-сяброўка для свайго любімага сына. І Дзядулі таксама розныя. Калі Валянцін Цвяткоў з тых, хто стараецца вырашыць любы канфлікт: «абы ціха», то Пятро Ламан — то стрыманы, то ўзрыўны. Не даруе Бабулі абразы, некампетэнтных выказванняў і папрокаў.

Хлопчыка Сашу кожны з гэтых персанажаў любіць сваёй непаўторнай любоўю. Толькі як дагадзіць усім? У Рамана Салаўёва гэта атрымалася. Гаварыць пра сакрэты творчага майстэрства пакуль, напэўна, яшчэ рана, а вось пра шчырасць, абаяльнасць і адкрытую душу гэтага маладога артыста — самая пара!

У прэм'ерным спектаклі артысты разам з рэжысёрам распавялі праўдзівую гісторыю хлопчыка, які трапіў у няпростую жыццёвую сітуацыю. Саша Савельеў вымушаны жыць з Бабуляй і Дзядулем, таму што «Мама прамяняла яго на карліка-крывасмока і павесіла на бабуліну шыю крыжам цяжкім». У хлопчыка няпросты характар. А як быць малому, калі Бабуля пры ім зневажае Маму, скандаліць з Дзядулем, крывіць душою перад медсястрой Тоняй і доктарам Галінай Сяргееўнай, абражае адзінага сябра Дзядулі Лёшу. У сцэне, калі Саша не можа стрымаць слёз і скардзіцца матулінай фатаграфіі: «А падарунак твой Бабуля выкінула… Прасіў, маліў, а яна выкінула… Дзе ты цяпер? Колькі цябе яшчэ чакаць?» — глядач плача разам з артыстам. Ёсць у спектаклі і вельмі вясёлыя моманты: Сашавы розыгрышы, Дзядулевы анекдоты, Бабуліны нечаканыя рэакцыі… Працуючы над спектаклем, коласаўцы добра памяталі, як вобразна Павел Санаеў ацаніў адмыслены фільм са Святланай Кручковай у галоўнай ролі: «Мне падаецца, гэты фільм як птушка з адным крылом: засталася толькі драма, а хацелася б і гумару, які ў аповесці, безумоўна, ёсць».

Рэжысёр Валерый Анісенка задаволены тым, што яго пяты спектакль на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа атрымаўся ансамблевым, дзе кожны артыст не іграе, а жыве на сцэне, уважліва ставіцца да партнёраў і прапанаванага матэрыялу. У праграмцы з нагоды прэм'еры Валерый Данілавіч напісаў: «Мы «выстаялі» вельмі годны спектакль».

**Святлана ДАШКЕВІЧ,**
**асістэнт рэжысёра НАДТ імя Я. Коласа**

# Падарожжа па айчыннай гісторыі

20 снежня бібліятэка імя Талстога ў Мінску прымала гасцей — паэта Уладзіміра Мазго і мастака-афарміцеля яго новай кнігі «Адвечныя скарбы Радзімы» Ігара Гардзіёнка. На сустрэчу з творцамі завіталі навучэнцы Мінскага прафесійна-тэхнічнага каледжа імя М. А. Кедышкі разам з выкладчыцай рускай мовы Тамарай Зайцавай.

Уладзімір Мазго распавёў сакрэт, як стваралася кніга «Адвечныя скарбы Радзімы». Пачаў аповед з адной дэталі сваёй біяграфіі…

Калі ў 1981 г. ён прыйшоў з войска і хацеў уладкавацца на працу, выпадкова звярнуўся на Беларускае радыё. Як пазаштатнага карэспандэнта яго камандзіравалі ў Брэст, дзе пашчасціла трапіць на раскопкі старажытнага горада. Гэтая падзея ў творчай душы пісьменніка пакінула яркі і незабыўны след. Пра яе — апавяданне «Таямніцы Бярэсця».

Потым былі камандзіроўкі ў іншыя гарады нашай краіны — Дрыбін, Полацк, Навагрудак і г. д. А ў выніку атрымалася кніга!

Пра горад Дрыбін расказвае апавяданне «Сталіца шапавалаў». Адкуль такая назва? «Мясцовыя жыхары займаліся земляробствам, рознымі промысламі — сталярным, бандарным, ганчарным, кавальскім, пашывам адзення і абутку, выраблялі пячную кафлю. Але найбольш знакамітым быў валяльны промысел, альбо шапавальства… З воўны выраблялі галаўныя ўборы, валёнкі, лямец для конскай вупражы…»



Фота Кастуся Дробава

Мастак Ігар Гардзіёнак з аўтарам кнігі Уладзімірам Мазго.

Невялічкае апавяданне «Паясы беларускай красы» пераносіць чытача ў сярэдзіну XVIII стагоддзя, калі князі Радзівілы заснавалі ў Слуцку мануфактуру шаўковых паясоў. Гэты твор нарадзіўся таксама пасля адной з камандзіровак.

Пісаліся, канечне ж, і вершы — «Францыск Скарына», «Каля помніка Сафіі Слуцкай», «З варагаў у грэкі», «Барысаў камень», «Руіны Навагрудскага замка», «Гароднá», «Аўгустоўскі канал»… Нарэшце гістарычных твораў назбіралася столькі, што пісьменнік вырашыў сабраць іх у кнігу. І вось калі ўжо быў створаны рукапіс будучага зборніка, Уладзімір Мінавіч задумаўся, хто б з мастакоў мог найбольш яскрава перадаць яго каларыт і настрой.

Калісьці вершы паэта друкаваліся ў часопісе «Бярозка». І да некаторых з іх выконваў ілюстрацыі Ігар Гардзіёнак. Таму з'явілася думка прапанаваць гэту работу яму. Але спачатку аўтар вырашыў параіцца са сваім земляком Уладзімірам Ягоўдзікам, які адразу назваў тое ж прозвішча.

Супрацоўніцтва паэта і мастака мела вялікі поспех. Як заўважыў Уладзімір Мазго, у ілюстрацыях з неверагоднай дакладнасцю адлюстраваны сэнс кожнага радка.

Каб крыху заінтрыгаваць моладзь, Ігар Гардзіёнак падчас свайго выступлення прапанаваў адгадаць, у якой тэхніцы і пры дапамозе якіх матэрыялаў ён працаваў, ствараючы кнігу. У якасці падарунка пераможца атрымаў каляндар мастака, дзе прадстаўлены яго работы.

Мерапрыемства, наладжанае ў бібліятэцы, спадабалася прысутным, пра што сведчаць шчырыя словы падзякі ў адрас Уладзіміра Мазго і Ігара Гардзіёнка.

**Вольга КУХАРСКАЯ**

# Мовай казкі



Наталля Махавікова ў атачэнні сваіх работ.

Спыніліся імгненні лета на фотаздымках Маргарыты Козінай, у непаўторныя і дзіўныя выявы ператварыліся каляровыя пялёсткі кветак на карцінах фларыста Людмілы Швед. А наведвальнікі студыі «Анюта» з вялікім натхненнем і майстэрствам стварылі адмысловыя вышыўкі. Усё гэтыя работы — вынік творчага праекта, які быў рэалізаваны ў Віцебскай цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя М. Горкага.

Сёння жыхары горада могуць не толькі пазнаёміцца з творчасцю чытачоў бібліятэкі, але і даведацца пра сакрэты фларыстыкі, дэкору, адкрыць для сябе новае захапленне або проста атрымаць задавальненне ад зносін з творчымі і таленавітымі людзьмі. Майстэрства Наталлі Махавіковай, якая працуе ў тэхніцы дэкупажу, квілінгу, пляцення з папяровай лазы, настолькі ўразіла наведвальнікаў выстаўкі «Музыка душы», што ў хуткім часе была арганізавана новая экспазіцыя, дзе былі паказаны ўжо работы яе вучняў з аматарскага аб'яднання «Майстрыха», створанага пры бібліятэцы.

Нікога не пакінула раўнадушным выстаўка «Выпраменьваць цеплыню». Прадстаўленыя на ёй работы ў тэхніцы арыгамі, бісера- і саломапляцення зразілі тонкім майстэрствам выканання. Таямнічае марское дно, цудоўныя кветкавыя кампазіцыі, вытанчаныя дрэвы з пацерак — цяжка ўявіць, што такія адмысловыя рэчы стварылі людзі з аслабленым зрокам, пацыенты рэабілітацыйнага аддзялення Віцебскага дома-інтэрната для састарэлых і інвалідаў.

Казачныя выцінанкі — сапраўдны навагодні падарунак для наведвальнікаў нашай бібліятэкі. Аўтар работ, народны майстар, член Беларускага саюза майстроў народнай творчасці Вольга Арасланава, працуе ў тэхніцы каляровай выцінанкі. Створаныя ёю ілюстрацыі да вядомых казак напаўняюць гледачоў святлом і радасцю. І нагадваюць пра тое, што казкі дазваляюць дзецям перамагаць страхі і няўпэўненасць, вучаць адрозніваць праўду ад хлусні, умацоўваюць веру ў людзей і сябе.

**Алена БАГАЦЁНАК,**
**загадчык аддзела бібліямаркетынгу Віцебскай цэнтральнай гарадской бібліятэкі імя М. Горкага**

# Без клічнікаў

У Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа адбылася творчая сустрэча з нагоды 70-годдзя беларускага пісьменніка, лаўрэата Літаратурнай прэміі БССР імя А. Куляшова (1989), уладальніка «Залатога Купідона» Казіміра Камейшы.

Зайздросны юбілей! Далёка не ўсе творчыя асобы, як і «звычайныя» людзі, могуць дазволіць сабе годна паўстаць перад сябрамі, калегамі і шчыра засведчыць: «Мне — 70!» Гэта значыць: «Я шчаслівы, што вы сабраліся дзеля мяне, ёсць што сказаць, можна адкрыта глядзець адно аднаму ў вочы і... яшчэ шмат у нас наперадзе». Сапраўды, такі чалавек шчаслівы, і шчаслівы Паэт, чые радкі і вобразы становяцца неад'емнай часткай карціны свету яго шматлікіх прыхільнікаў.

Казімір Вікенцьевіч — паэт і філолаг (скончыў філалагічны факультэт БДУ ў 1970-м). Таму яго творчасць — не толькі паэтычныя кнігі (з 1969 года іх — каля дзесяці), але і крытычныя нарысы. Нядаўна аўтар стварыў манаграфію «Колер дабрыні» (2012) пра жыццё і творчасць свайго сябра — паэта, празаіка, дзіцячага пісьменніка Ганада Чарказяна. З апошнім звязаная і перакладчыцкая дзейнасць К. Камейшы. Віншуючы сябра з юбілеем, Г. Чарказян «ад імя чатырох мільёнаў курдаў свету» выказаў яму падзяку «за ўнёсак у курдскую літаратуру». Свой перакладчыцкі «ўнёсак» юбіляр, дарэчы, зрабіў таксама ў рускую, славацкую, украінскую літаратуры.

Паэт Мікола Маляўка засяродзіў увагу на адметнасцях «почырку» свайго земляка са Стаўбцоўшчыны. Яго шчыры лірызм гучыць «ціха, без клічнікаў». Ён здатны на яскрававытанчаныя і разам з тым кранальныя вобразы («Укленчу толькі перад ягадай лясной…»). Назіральнасць у перажыванні прыроднага ўлоння — беспрэцэдэнтная. Як прыклад — нізка «52 тыдні», якая ўключае 52 «фотавершы»: паэтычныя ілюстрацыі да фотавыяў, зафіксаваных у розныя тыдні розных месяцаў. Да таго ж у паэтычным досведзе К. Камейшы выдатна прасочваецца сувязь «рэгіянальнага», «мясцовага», быццам «вузкага» светапогляду з досведам планетарнага маштабу. Няма нічога ў «вялікім» свеце, чаго не было б у пушчанскім краі: сонца, месяц і зоры, поры года і гадзіны сутак, рэчкі і лугавіны, кустоўе і дрэвы, дажджы, туманы, птушкі, жывёлы, людзі... «З Малых Навікоў ён — і гэтым вялікі», — у радках верша Казіміра Камейшы гучыць не пахвальба, але разуменне высокай дыялектыкі ўнікальнага і ўніверсальнага пачаткаў быцця.

«Дзякуй за чыстую, празрыстую Паэзію, за выдатнае словаўтварэнне, за радасць, якую дорыш людзям», — віншаваў паэта ў доме свайго бацькі Міхась Канстанцінавіч Міцкевіч. Прагучалі не менш шчырыя словы Генрыха Далідовіча, Алеся Марціновіча, Міхася Пазнякова, Сяргея Давідовіча, Юліі Зарэцкай ды іншых.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

**Аксана Аракчэева, мастачка:**

— Лічба 13 заўжды была для мяне вельмі шчаслівай. А 2013 год для мяне аказаўся вартым цэлага жыцця, у якім, як вядома, бываюць дні і вясёлыя, і самотныя. Упершыню ў гэтым годзе я выправілася ў дужа вялікую вандроўку: з сябрамі дабраліся ажно да Цюрыха. Шмат было цікавых сустрэч з мастакамі розных краін. Адным з самых значных стаў для мяне літоўскі пленэр, прысвечаны 150-годдзю паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Менавіта падчас яго я знайшла якраз тое фота Кастуся, якое адпавядала майму пра яго ўсведамленню, і зрабіла два партрэты Каліноўскага: адзін пакінула ў Музеі паўстання, а другі падарыла кіраўніку пленэру.

Да таго ж, гэта быў мой юбілейны год, таму я адпачатку рыхтавала шмат уласных выставак, у тым ліку і сумесных з бацькам, слынным айчынным мастаком Барысам Аракчэевым. 22 сакавіка планавалася выстаўка ў Музеі Янкі Купалы. Мой бацька да яе завяршаў карціну, працаваць над якой пачаў яшчэ дзесяць гадоў таму — ваенная тэма вельмі балела яму... Я ж рыхтавала партрэт і доўга не магла знайсці для яго адпаведны вобраз. Дык вось 10 сакавіка а шостай я нарэшце завяршыла працу над партрэтам, а тата ў той самы час (я пра гэта даведалася пазней!) закончыў сваю карціну «Янка Купала ў гады Вялікай Айчыннай вайны», выйшаў з дому і… сэрца яго перастала біцца.

Выстаўку ў гонар свайго 50-годдзя, якая адбылася ў Палацы мастацтва, я прысвяціла бацьку. Спадзяюся, ён, мой першы настаўнік, бачыў яе з неба… Шмат прысвечаных Барысу Аракчэеву выставак мы наладзілі ў беларускіх гарадах і нават у Празе, у Расійскім цэнтры культуры!

У 2014 годзе планую праехаць з выстаўкамі па Чэхіі. Вельмі люблю маляваць дзіцячыя кніжкі. Чатыры яшчэ наперадзе. Сын збіраецца паступаць у Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў. Карацей, на наступны год планаў багата — каб усё паспець, трэба хутчэй бегчы!

## Абрысы

Заўтра а 17-й гадзіне Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь запрашае на калядны канцэрт камернага хору «Паліфоніка». Хор быў заснаваны ў 2010 годзе. Калектыў з'яўляецца пасла́м айчыннай культуры на розных еўрапейскіх сцэнах і актыўна ўдзельнічае ў творчых мерапрыемствах у Беларусі і за мяжой. У кастрычніку гэтага года хор заняў ганаровае III месца на Міжнародным фестывалі ў г. Дэры (Паўночная Ірландыя). Дырыжор — Сямён Кліманаў, стыпендыят фонду па падтрымцы таленавітай моладзі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, стыпендыят Нямецкай службы акадэмічных абменаў (DAAD), уладальнік стыпендыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь для маладых вучоных.

Адбылася цырымонія надання Гомельскай гарадской дзіцячай бібліятэцы-філіялу № 10 імя Віктара Драгунскага. У межах святкавання 100-годдзя з дня нараджэння пісьменніка бібліятэка правялі фестываль дзіцячай кнігі «Лепшы сябар дзяцінства». Былі арганізаваныя конкурсы малюнкаў па творах пра хлопчыка Дзяніску і яго сябра Мішку, водгукаў на апавяданні Віктара Драгунскага, а таксама творчы конкурс «Дзяніскавы расказы: працяг будзе», КВЗ «Героі, з якімі весела».

Першы беларускі канцэрт таленавітага расійскага піяніста Вазгена Вартаняна адбудзецца 15 красавіка 2014 года на сцэне Беларускай дзяржаўнай філармоніі. У праграме прагучаць творы Фрыдэрыка Шапэна, Ферэнца Ліста, Роберта Шумана. Вазген Вартанян нарадзіўся ў Маскве, скончыў Маскоўскую дзяржаўную кансерваторыю, стажыраваўся ў ЗША. Арганізатарамі канцэрта з'яўляюцца Беларуская дзяржаўная філармонія і ЗАТ «Імперыя музыкі».

У Беларускім дзяржаўным універсітэце зацверджаны графік правядзення Дзён адкрытых дзвярэй на 2013/2014 вучэбны год. Сёння абітурыентаў чакаюць у Інстытуце тэалогіі імя святых Мяфодзія і Кірылы, на геаграфічным і хімічным факультэтах, 28 снежня — на эканамічным. Інстытут журналістыкі БДУ, філалагічны і юрыдычны факультэты расчыняць дзверы для ўсіх жадаючых 3 студзеня. 4 студзеня эстафету прымуць гуманітарны, гістарычны факультэты, а таксама факультэты міжнародных адносін, прыкладной матэматыкі і інфарматыкі, філасофіі і сацыяльных навук, юрыдычны каледж, Дзяржаўны інстытут упраўлення і сацыяльных тэхналогій ды Інстытут бізнесу і менеджменту тэхналогій БДУ. 8 студзеня можна будзе завітаць на механіка-матэматычны і фізічны факультэты, 9 студзеня — на факультэт радыёфізікі і камп'ютарных тэхналогій. 11 студзеня — на ваенны факультэт.

## Ціт МАЛАЦЬБІТ

# Святочнае

Шаржы Аляксандра Каршакевіча

### Мікалаю Чаргінцу

*Зайздроснікаў навокал, быццам вос,*
*Сякуць, гудуць з баяззю і трывогаю.*
*А ён гружоны дэтэктыўны воз*
*Упарта коціць глейкаю дарогаю.*

*Каб прачытаў Мадрыд і Будапешт,*
*Арэ пяра нарогам прозы прэрыі.*
*А што, калі знячэўку, ў рэшце рэшт,*
*Ён атрымае Нобелеўку-прэмію.*

### Віктару Гардзею

*Маўчыць ён сціпла год ужо які,*
*Хоць ёсць яна, прычына, і расчуліцца, —*
*Даўно ягоным імем земляк і*
*Назвалі у ягонай вёсцы вуліцу.*

### Алесю Савіцкаму

*Набок, на сметнік драбязу і дрэнь,*
*Каб іх не ведаць і нідзе не бачыць!*
*Гадоў, нібыта ў скверы гожых дрэў,*
*А ён — рухавы, спрытны па-юначы!*

*Што робіць? Можа, дзесь у родны бор*
*На стрэчу з маладосцю зноў плітуе?*
*А можа, ўласных твораў поўны Збор*
*У дваццаці, не менш, тамах рыхтуе?*

### Уладзіміру Гніламёдаву

*Кожны дзень і кожны год,*
*Як пад нейкаю прысягай,*
*Піша так, як цэдзіць мёд,*
*Ды не хроніку, а сагу.*

*Творчасць — гэта не лата*
*І не лузганне вам семак!*
*Аўтар — ён не абы хто,*
*А шаноўны акадэмік.*

### Міколу Мятліцкаму

*Ён сіта змайстраваў у добры час.*
*Цяпер уміг старанна і маўкліва*
*Прасее твор пралазы, што з пралаз,*
*Адкіне ўміг пазаддзе і мякіну.*

### Уладзіміру Мазго

*Калі згадае хто Мазго,*
*Усклікнуць многія: — Ого!*
*Успамінаць дарма не стануць,*
*Ну, а хваліць яго лацвей, —*
*Мазго мазгуе дзеля сталых*
*І для малых яшчэ дзяцей.*

Вожык
Часопіс сатыры і гумару

## Павел САКОВІЧ

# Эпіграмы як рэкламы

### Год Пегаса

*Для многіх гэта год Каня,*
*Для нас жа, творцаў —*
*год Пегаса.*
*На ім гарцуючы*
*штодня,*
*Такія робім выкрутасы!*

*Каб ён з сядла не скінуў вас,*
*Вы пра адно не забывайце:*
*Павінен сытым быць Пегас,*
*А піць папросіць — налівайце!*

### Незамужнім жанчынам

*Хто не паспеў яшчэ стаць жонкай,*
*Магу параду шчыра даць:*
*Вам лепш, напэўна, амазонкай*
*Дзесь на пачатку года стаць.*

*Ласо, вядома ж, захапіце*
*І на кані ўжо — ночцу, днём —*
*Пегаса вольнага лавіце*
*З таленавітым седаком!*

### Яўген Хвалей

**Лаўрэат прэміі «Залаты Купідон»**

*З «Каралеваю тусоўкі»*
*Тусаваўся доўга ён.*
*І як вынік — у сяброўкі*
*Нарадзіўся... Купідон.*

*Яўген прызнаў дзіцятка тое:*
*Яно ж напраўду залатое!*

### Генадзь Пашкоў

*Ёсць два цікавыя дамы. Яны*
*Ў Маскве і Мінску збудаваны.*
*Маскоўскі — той вядомы з даўніны:*
*Пашкова домам ён названы.*

*Другі бы ў белай высеклі скале,*
*Які для нас любімы самы.*
*То наш Дом, літаратара, але*
*І дом Пашкова ён таксама!*

### Уладзімір Гілеп

**Старшыня Рэспубліканскага фонду культуры**

*Культуры служыць ён*
*айчыннай*
*Палову века ўжо,*
*прытым*
*У фондзе нашым*
*дабрачынным*
*І сам стаў фондам...*
*залатым!*

### Васіль Дадалка

**Старшыня Літфонду**

*Наш Дадалка — не гадалка,*
*А вучоны, рэаліст.*
*І яшчэ адно дадам-ка:*
*Доктар ён — эканаміст.*
*Эканомны, ды не сквапны,*
*І пісьменнікі таму*
*У Літфондзе самы важны*
*Пост даверылі яму.*

## Дзень добры, Новы год!

**Па гарызанталі:**
**2.** Бывае высакосным, зорным, навучальным, трапічным і — новым. **5.** На святы звычайна ідуць ці едуць у ... **6.** Кажуць, калі дзьме халодны рэзкі марозны вецер. **7.** Кіславаты напітак, які заўсёды быў у хаце на стале ў першую посную куццю (6 студзеня). **9.** Калі на Новы год ..., будзе ў гумне цясна *(прык.)*. **13.** З яго даўней вілі вяроўкі. **14.** ... мядзведзі ў адной бярлозе не жывуць *(прык.)* **15.** «І вітае ўвесь .../ Добры, мірны/ Новы год» (з верша В. Лукшы). **16.** Каб паставіць іх на ногі, трэба спачатку зняць са сваёй шыі. **18.** Свята беларускага народнага календара, якое адзначалася 31 снежня. **21.** З яе варыць кашу, якую зусім не хочацца каштаваць. **23.** «Заяц шэры,/ Заяц – зух/ Да зімы пашыў/ ...» (з верша Р. Барадуліна). **24.** Зімовая руская народная казка. **26.** Дрэва, ягадамі якога любяць зімой ласавацца снегіры. **28.** Дубільная кіслата па-навуковаму. **29.** Вечная спадарожніца Дзеда Мароза. **30.** Масленіца па-італьянску. **31.** Дзебаліць — там ..., а дзе міла — там вочка *(прык.)*. **32.** Суперповар.

**Па вертыкалі:**
**1.** Зімовы від спорту. **3.** Лісце елкі, сасны. **4.** Мастацтва выцягваць грошы з чужой кішэні без крыміналу. **8.** Выпіска з чаго-небудзь. **10.** Дзень тыдня, калі нічога не варта рабіць. **11.** Некаторыя 1 студзеня пад ёй прачынаюцца. **12.** Гульня, падчас якой «забіваюць казла». **17.** «Я ..., /Я .../ Сваім сэрцам растаплю» (з песні «Мяцеліца» на словы А. Дзеружынскага). **19.** «...А будзе йсці навука туга, /Падгоніць бацькава ...» (з паэмы «Новая зямля» Я. Коласа). **20.** Нажніцы для саду. **21.** «Мера» хлебабулачных вырабаў. **22.** Першы снег з марозам. **25.** Ні свет ні ... . **27.** Тое, што і біяполе.

**Склаў Лявон ЦЕЛЕШ,**
**г. Дзяржынск**

**Праверце, калі ласка, адказы:**

**Адказы:**
**Па гарызанталі: 2.** Год. **5.** Госці. **6.** Сіверна. **7.** Квас. **9.** Ясна. **13.** Луб. **14.** Два. **15.** Народ. **16.** Дзеці. **18.** Апанас. **21.** Бароза. **23.** Кажух. **24.** «Марозка». **26.** Арабіна. **28.** Танін. **29.** Снягурка. **30.** Карнавал. **31.** Ручка. **32.** Кулінар.
**Па вертыкалі: 1.** Бобслей. **3.** Ігліца. **4.** Бізнес. **8.** Выбарка. **10.** Нядзеля. **11.** Ялінка. **12.** Даміно. **17.** Сняжыначкі. **19.** Папруга. **20.** Секатар. **21.** Буханка. **22.** Заазімак. **25.** Зара. **27.** Аўра.

## Анатоль ЗЭКАЎ

### Навагодняе

*З трыццаць першага*
*на першае*
*згадваць нам,*
*пакуль і жыць,*
*тыя справы,*
*што завершаны,*
*тыя справы,*
*што вяршыць.*

*Быццам бы вярстою*
*межавай*
*час раскроіў каляндар,*
*і ўжо кожны з нас*
*усцешаны*
*вышынёй уласных мар.*

*Мары недзе*
*даляглядзяцца,*
*а за даляглядам тым,*
*можа,*
*нешта з іх і спраўдзіцца,*
*калі ж не —*
*то не бяды,*

*бо праз год усё паўторыцца —*
*марыць будзем зноў вось так*
*мы пра тое,*
*што не спорыцца*
*і не вершыцца ніяк.*

*Ды няма нічога грэшнага*
*ў тым,*
*што шмат не здзейсніў ты:*
*з трыццаць першага*
*на першае*
*з лішкам марыцца*
*заўжды.*

# Кацярына ХАДАСЕВІЧ-ЛІСАВАЯ

*Апавяданні*

## Навагодняя быль

Здаецца, мінулы Новы год святкавалі зусім нядаўна. Не паспелі азірнуцца, а каляндар нагадвае, што зноў надыходзіць час набываць падарункі, ставіць ёлкі і пад урачысты бой курантаў загадваць запаветнае жаданне.

Але гэта толькі каляндар падказвае. Сёлета восеньскае надвор'е зацягнулася ледзь не да канца снежня. Такога не памятаюць ні старажылы, ні сіноптыкі. Збянтэжаная прырода неяк няўпэўнена пазеляніла траву, крыху нясмела набрынялі пупышкі на дрэвах, дзе-нідзе нават кветкі-наготкі паказаліся. І ўсё гэта хараство пад самы Новы год! Вядома ж, для нас гэта нязвыкла. Душа патрабуе лёгкага марозу і рыпучага снегу. Вось тады сапраўднае свята!

Што ж, пакуль не дачакаліся падарункаў ад прыроды, трэба самастойна пачынаць падрыхтоўку да сустрэчы Новага года і ствараць адпаведны настрой. Даўно заўважана, што да гэтай ночы рыхтуешся доўга і грунтоўна, а пралятае яна ў адно імгненне. Мабыць, у прыемных клопатах, звязаных з чаканнем радасці, і заключаны галоўны сэнс.

Прыгадваюцца падзеі двухгадовай даўнасці. Да свята засталося некалькі дзён, настаў час распачаць актыўную дзейнасць. За справу ўзяліся дружна. Мама і бабуля разам з унукамі упрыгожвалі кватэры. Брат і яго жонка сабраліся ў краму, каб купіць усё і адразу. Я і тата з радасцю да іх далучыліся. Блукалі-блукалі, шмат што набылі і нарэшце выйшлі, селі ў аўтамабіль і з палёгкай уздыхнулі:

— Фух! Стаміліся, як ад цяжкай працы!

Раптам на лабавым шкле затрымцеў не заўважаны спачатку аркуш паперы.

— Што гэта? — здзівіўся брат.

— Зараз даведаемся! — бацька адчыніў дзверы і дастаў паперку. — Гэта запрашэнне набыць VIP-ёлку.

— А там пазначаны кошт ці нумар тэлефона? — запытаўся брат з усмешкай.

— Зразумела, што на «BMW» такую рэкламку варта пачапіць. Цікава, а на мае «Жыгулі» таксама б прымацавалі? — задумліва сказаў тата.

— Канечне! — вырашылі мы. — Ім толькі б пачапіць!

Нечакана бацька прапанаваў:

— Дзіма, паглядзі, калі ласка, што за рэкламку вунь на тыя «Жыгулі» прычапілі! Таксама VIP-ёлкі?

Брат выйшаў з машыны, глянуў на паперку і вярнуўся.

— Ну?! Што там? VIP-ёлкі?! — нецярпліва пацікавіўся тата.

— Не! — усміхнуўся Дзіма. — Там прапануюць дастаўку лекаў на дом!

Усе гучна рассмяяліся.

— Канечне! — махнуў рукой тата. — На «BMW» моладзь катаецца, ім і VIP-ёлкі, а на «Жыгулях» толькі пенсіянеры... А мы па сваю VIP-ёлку калі ў лес паедзем?

— Давай заўтра вечарам! — прапанаваў брат.

На наступны дзень бацька з братам сабраліся ў лес. Я, мая сястра Наташа і жонка брата Марына таксама захацелі паехаць. Гэтым разам селі ў «Жыгулі». Ссякаць лясную красуню без дазволу, зразумела, не сталі, таму накіраваліся спачатку ў лясніцтва, заплацілі і атрымалі цэтлік.

— Зараз паедзеце па гэтай дарозе ўніз, — тлумачыў ляснік, — там убачыце ўжо зрэзаныя дрэўцы. Выбірайце любое! Нават сячы не трэба!

Мы падзякавалі і паехалі. Чым даўжэй мы спускаліся ўніз па дарозе, тым больш разумелі, што назад па ёй падняцца не атрымаецца. Снегу ў той год выпала багата. Гурбы былі не менш як па калена, а тут яшчэ адліга. Снег крыху асеў, на дарогах стала вельмі слізка. Тата з Дзімам занепакоіліся. Вярнуцца назад тым самым шляхам дакладна немагчыма.

— Паедзем далей, спадзяюся, там можна выехаць на шашу, — сказаў бацька.

З'ехалі ўніз і ўбачылі перад сабой... лёд мясцовай рэчкі.

— Вось табе і VIP-ёлкі! — горка ўсміхнуўся тата. — Прыехалі!

Мужчыны вырашалі, як быць. Іх прагнозы пацвердзіліся: назад падняцца ніяк не ўдавалася. Вырашылі ехаць па беразе ўздоўж рэчкі. Праз колькі часу напаткалі леснікоў і спыталі ў іх дарогу.

— Ніяк тут не выехаць! — рашуча сказаў адзін.

— Калі толькі праз масток! — дадаў другі.

Паехалі шукаць масток. Як высветлілася, гэта была драўляная, не вельмі надзейная канструкцыя. Але іншага выйсця не было. Давялося нам выходзіць з машыны, тата паехаў праз масток. Дзякуй богу, той вытрымаў! Толькі ад'ехалі ад ракі, як...

— А пра ёлку забыліся! — раптам успомніў Дзіма.

— Вось дык паехалі! — засмяяліся мы з дзяўчатамі.

— Я назад не паеду! — сказаў тата. — Зараз самі ссячом, дазвол ёсць!

Хутка дарога зноў павярнула ў лес, а праз колькі дзясяткаў метраў аўтамабіль забуксаваў.

— Прыехалі! — абурыўся тата. — Вылазім і дружна пхаем!

Стараліся, як маглі, але нічога не атрымлівалася. Загрузлі надзейна! Пачынала цямнець.

— Людзі! — даляцела аднекуль збоку. — Людзі!

Да нас подбегам набліжаўся пажылы мужчына.

— Забуксавалі? І я таксама, толькі крыху далей. Гэта ж трэба было так! Па ёлачку з зяцем паехалі! Доўга гэты Новы год не забуду!

Спачатку мы ўсе разам пхалі іх аўтамабіль, потым яны дапамагалі нам. Калі выехалі на дарогу, было ўжо зусім цёмна. У лес па ёлачкі вярталіся пешшу. Шчыра кажу: ссеклі першую, якая трапілася! Але, трэба адзначыць, пашанцавала...

Нашы бацькі кожны раз ездзяць па ёлку ў лясніцтва, а вось мы на наступны год набылі штучную сасну.



**Кацярына ХАДАСЕВІЧ-ЛІСАВАЯ, пісьменніца, настаўніца:**

— У 2014-м у мяне, можна сказаць, будзе 10-гадовы юбілей сяброўства з газетай «Літаратура і мастацтва». Само ж знаёмства з выданнем адбылося незвычайна. Хоць упершыню я надрукавалася ў 1996 годзе (часопіс «Першацвет»), у літаратурнае грамадства пачала ўваходзіць у 2004-м. Прынесла ў «Нёман» свае апавяданні. Доўга размаўлялі з супрацоўнікамі аддзела прозы, добра памятаю, што гаворка зайшла пра аўтарскія правы. І мне сказалі:

— А вы даведайцеся, як абараняецца аўтарскае права ў нашай краіне, і зрабіце матэрыял для «ЛіМа». Вось цяпер і сходзіце ў рэдакцыю, тут недалёка…

Узяўшы лісток з адрасам «Захарава, 19», пайшла. З аддзела прозы і паэзіі, куды я трапіла, увайшоўшы ў рэдакцыю, мяне накіравалі ў аддзел публіцыстыкі. Я павіталася і выказала жаданне зрабіць матэрыял па згаданую тэму. Мяне падтрымалі...

Задаволеная, пайшла пісаць. Між тым, ніводнага разу да гэтага не пісала артыкулаў! Нават не зусім зразумела, што значыць напісаць «каля трох тысяч знакаў», як сказалі мне ў рэдакцыі, пазначыла гэта на паперцы, падумаўшы, што спытаю ў знаёмага, які вучыцца на журфаку.

Матэрыял у выніку зрабіла... «Публіцыстычную спробу» з хваляваннем здала ў рэдакцыю, а літаральна праз дзень мяне выклікалі. Я ўбачыла свой даволі пакрэмзаны тэкст.

— Гэта жах? — засаромелася я.

— Ды не, зараз дапрацуем! — зноў падтрымалі мяне. І падрабязна патлумачылі, што да чаго. Матэрыял быў зроблены. Развітваючыся, я з кволай надзеяй запыталася:

— Можа, яшчэ што напісаць? Мне спадабалася…

І мяне, пачаткоўца, не толькі не адправілі, а, наадварот, паказалі план, дазволілі выбраць тэмы. Я пачала пісаць, а са мной цярпліва і добразычліва працавалі над кожным матэрыялам. «ЛіМ» для мяне стаў патрэбнай і каштоўнай школай. Я і сёння вельмі ганаруся супрацоўніцтвам з рэдакцыяй, удзячна лімаўцам за падтрымку.

…Амаль дзесяць гадоў кожную пятніцу з задавальненнем вымаю з паштовай скрыні свежы нумар любімай газеты, з цікавасцю чытаю навіны літаратурнага і мастацкага жыцця. Асаблівае дзякуй за ільготную падпіску для нас, настаўнікаў.

## Новы год у Зарэччы

Набліжаўся Новы год. Такую значную падзею заўжды хочацца адзначыць пасаблівому, так што абмяркоўваць мы пачалі яшчэ ў лістападзе. Варыянты былі розныя, але ні адзін з іх не задавальняў усю нашу кампанію. Нехта прапаноўваў сустракаць Новы год на цэнтральнай плошчы сталіцы, але большасць варыянт не падтрымала. Пайсці да кагосьці дадому? Нічога цікавага. Замовіць столік у рэстаране? Аддадзім грошы, але ці спадабаецца?

— А давайце паедзем да маёй бабулі! — з імпэтам прапанавала Ірына.

— І што? Там хоць тэлевізар працуе? — скептычна запытаўся Мікалай.

— Тэлевізар працуе, але калі мы будзем усю ноч глядзець канцэрты, то няма ніякай розніцы, дзе збірацца! — крыху пакрыўджана адказала Іра.

— А што яшчэ можна рабіць у навагоднюю ноч у вёсцы? — не здаваўся Мікалай.

— Ды там значна весялей, чым у горадзе! — распалілася Ірынка.

Уся наша кампанія моўчкі назірала за дыялогам.

— У Зарэччы шмат моладзі! — звонкім голасам працягвала сяброўка. — Збіраюцца разам і ўсю ноч гуляюць, весяляцца! Па хатах не сядзяць!

— І сапраўды! Надакучыла сустракаць Новы год каля тэлевізара! — далучылася да гаворкі Насця.

— А я пра што?! — узрадавалася Іра. — Давайце сустрэнем свята ў лесе, там ад вёскі да лесу тры хвіліны ісці!

— Думаеш, цікава будзе? — з сумам уздыхнуў Мікалай. — Альбо спадзяешся напаткаць казачных дванаццаць месяцаў?

— Усё ж не так, як звычайна, — падтрымаў дзяўчат Раман. — Ды і ўвогуле, тое, як пройдзе свята, залежыць ад настрою.

— Я б паехала! — рашуча сказала Насця. — Зарэчча... Гучыць рамантычна!

Да яе далучылася і ўся кампанія. Пацiснуўшы плячыма, згодна кіўнуў і Мікалай.

Ірыніна бабуля Фаіна была рада гасцям. І ёлку сапраўдную паставіла, і ў хаце прапаліла, і смачных вясковых страў нагатавала.

Стары год адлічваў апошнія гадзіны. Ірынка пераапранулася ў Снягурку, а Мікалай стаў Дзедам Марозам. Яны разам пайшлі да суседзяў, каб парадаваць дзяцей ды пацікавіцца, дзе збіраецца моладзь.

Шчыра сустракалі іх дарослыя, вельмі радаваліся дзеці, асабліва смачным цукеркам, якімі частавалі казачныя госці. Дзед Мароз і Снягурачка дайшлі амаль да канца вуліцы. Каля перадапошняй хаты стаяў вялікі снегавік. Калі падышлі бліжэй, стала добра відаць, што гэта не снегавік, а снежная баба, прычым вельмі прывабная. Мабыць, аўтар шэдэўра добра пастараўся, каб вылепіць такую красуню.

— Хто тут жыве? — пацікавіўся Мікалай.

— Адзінокі стары. Дзед Лявон, — адказала Ірынка.

— Бедны... — пашкадаваў Мікалай. — Мабыць, яму так сумна было, што ён сабе снежную бабу вылепіў. Будзе з кім Новы год сустракаць...

Пастаялі, палюбаваліся і пайшлі ў апошнюю хату. А хвілін праз дзесяць, калі Дзед Мароз і Снягурачка зноў выйшлі на вуліцу, пабачылі, што снежную красуню хтось раскідаў.

— Разбурылі! — шкадаваў Мікалай.

Дзед Мароз і Снягурачка спыніліся каля гурбы снегу, якая яшчэ зусім нядаўна была прыгожай скульптурай. Усё наступнае адбылося маланкава.

З хаты борзда выскачыў дзед Лявон і ў імгненне вока апынуўся каля Мікалая і Ірыны. Яны і павітацца не паспелі, як... дзед схапіў Міколу за штучную бараду і прыпёр да плота.

— Хто гэта зрабіў?! — раз'юшана крычаў дзед Лявон. — Навошта?! Рукі паадрываю!

Ачмурэлы ад такога павароту падзей Мікола-Дзед Мароз не мог і слова вымавіць, толькі глядзеў на раззлаванага гаспадара сядзібы вялікімі вачыма і хапаў ротам марознае паветра.

Першай апомнілася Ірынка-Снягурачка.

— Дзед Лявон! Гэта не мы! Пусціце хлопца! Мы ж па хатах дзяцей віншавалі! Мы тут ні пры чым!

Дзед Лявон асцярожна адпусціў Дзеда Мароза і моўчкі азірнуўся па баках.

Відаць, такая рэакцыя немаладога адзінокага чалавека вельмі ўразіла нашага Дзеда Мароза, таму ён прапанаваў:

— Вы не хвалюйцеся так, дзед Лявон! Давайце лепш пойдзем з намі Новы год сустракаць. Аднаму, відаць, зусім сумна. Вы толькі не перажывайце, што вашу бабу разбурылі... мы заўтра новую зробім...

— Якую яшчэ бабу?! — не зразумеў дзед Лявон.

— Снеж-ж-жную... — прашаптаў Мікола, паказваючы на гурбу.

— Не мая гэта баба! — выгукнуў дзед Лявон. — Дзеці зляпілі каля майго плота, бо тут, у нізіне, снегу больш! А злаваў я з-за таго, што нейкія хулігany мне пад акно петарды кідалі, ледзь шыбы не павыбівалі, сабаку да паўсмерці напалохалі!

Першай засмяялася Ірынка-Снягурачка, потым гучна зарагатаў дзед Лявон, а за імі і да Мікалая-Дзеда Мароза дайшла камічнасць сітуацыі. А потым Ірынка і Мікалай падхапілі «адзінокага аматара снежных красунь» пад рукі і павялі да сябе ў госці.

Уся кампанія, як пачула аповед пра Міколавы прыгоды, смяялася да слёз. Сустрэча Новага года яшчэ ніколі не была такой цікавай. Бой курантаў слухалі па радыё, куфлі шампанскага падымалі ў лесе. Пакаталіся разам з вялікай гары, спявалі, танцавалі, весяліліся... Ды й адзінокім бабе Фаіне і дзеду Лявону было нашмат весялей разам. Прызналіся, што даўно адзін да аднаго прыглядаліся, толькі рашучасці неставала.

Наступным ранкам, як і абяцалі, зляпілі новую снежную бабу, праўда, атрымаўся нейкі няўклюдны снегавік. Але нічога, малым спадабалася!

— Наступны Новы год сустракаем таксама тут, у Зарэччы! — цвёрда сказаў Мікалай.

# Як адкрывалі Багдановіча

Алесь Бачыла, заслужаны дзеяч культуры БССР, пісьменнік, перакладчык, нястомны даследчык жыцця і творчасці Максіма Багдановіча, мог бы адзначыць сёлета юбілей — 85 гадоў.

Ён пачаў даследаваць жыццёвы і творчы шлях Максіма Багдановіча пасля 1965 года. Праца А. Бачылы адносіцца да другой хвалі багдановічазнаўства. Першая ж хваля «ўзнялася» ў 20-я гады XX стагоддзя. «Згасанне» яе звязана са згортваннем палітыкі беларусізацыі і арыштамі шматлікіх дзеячаў культуры і пісьменнікаў Беларусі, некаторыя з якіх былі знаёмыя з Максімам Багдановічам альбо сябравалі з ім.

Алесь Бачыла адшукаў шматлікія матэрыялы і дакументы, звязаныя з жыццём і творчасцю паэта. Свае даследаванні пісьменнік друкаваў у канцы 1960-х гг. на старонках часопіса «Маладосць», а ў 1971 годзе выдаў кнігу «Дарогамі Максіма». Пазней выданне было перапрацавана, дапоўнена пяццю новымі раздзеламі і перавыдадзена ў 1983 годзе пад назвай «Дарогамі Максіма Багдановіча».

Натуральна, А. Бачыла вельмі высока цаніў творчасць паэта, лічыў, што ён мусіць заняць належнае месца ў народнай памяці нароўні з Я. Коласам і Я. Купалам, таму ў красавіку 1972 года звярнуўся з лістом да сакратара ЦК КП Беларусі, у якім даводзіў неабходнасць адкрыцця ў Мінску мемарыяльнага музея М. Багдановіча. «Музей мог бы стаць не толькі цэнтрам збірання матэрыялаў пра жыццё і творчасць паэта, але і добрым прыкладам для выхавання ў наведвальнікаў патрыятызму, інтэрнацыяналізму…» — зазначаў ён, абураны тым фактам, што пра справу стварэння музея М. Багдановіча не паклапаціліся яго сваякі, бо «не разумелі ў поўным аб'ёме значэння М. Багдановіча для нашай і еўрапейскай культуры». У лісце Алесь Бачыла прывёў спіс людзей, якія блізка ведалі паэта, да якіх варта было б звярнуцца ў справе стварэння фондаў музея, а таксама арганізаваць запісы іх успамінаў пра творцу.

Для таго, каб сабраць матэрыялы пра літаратурную дзейнасць Максіма і яго жыццё, Алесь Бачыла вёў плённую перапіску з Зоськай Верас, якая працавала разам з М. Багдановічам у 1916 — 1917 гадах у Мінску, у камітэце Таварыства дапамогі ахвярам вайны, і сябравала з паэтам. Ліставаўся А. Бачыла таксама са сваякамі М. Багдановіча, з пляменнікамі і знаёмымі тых людзей, якія хоць чымсьці былі звязаныя з сям'ёй Багдановічаў; звязваўся з Архівам М. Горкага ў Маскве і з Дзяржаўным цэнтральным гістарычным архівам БССР; звяртаўся па дапамогу да экспертаў. Менавіта яго заслуга, што мы зараз маем фотакартку хроснай маці Максіма Вольгі Епіфанаўны Сёмавай і ведаем шматлікія акалічнасці яе жыцця і працоўнай дзейнасці як гаспадыні прыватнага вучылішча спачатку ў Мінску, а потым у Пінску (адносна невялікая плата за навучанне там давала магчымасць атрымліваць належную адукацыю дзецям сялян і рабочых). Алесь Бачыла ўсумніўся ў сцвярджэнні бацькі паэта, Адама Ягоравіча Багдановіча, наконт В. Сёмавай, нібыта «ёй былі чужыя нацыянальна-беларускія тэндэнцыі». У даследаванні ён прывёў успаміны былых вучаніц В. Сёмавай, якія аспрэчваюць словы А. Багдановіча.

У форме, блізкай да дэтэктыўнага апавядання, пісьменнік распавёў, як жа ўдалося высветліць асобу Вольгі Епіфанаўны на фотакартцы з сямейнага альбома Багдановічаў; з подпісу вынікала, што жанчына гэтая — М. А. Волжына, цешча М. Горкага і А. Багдановіча. А. Бачыла літаральна жыў сваім даследаваннем і таму шчыра дзяліўся з чытачамі ўсімі акалічнасцямі карпатлівай працы, кожным сваім меркаваннем і поспехам.

Аднойчы ён сустрэўся са стрыечнай сястрой Максіма па мацчынай лініі Ганнай Кіпрыянаўнай Гразновай і даведаўся ад яе, што ў апавяданні Марыі Багдановіч «Накануне Рождества» (адзінае апавяданне Марыі Апанасаўны, надрукаванае на старонках газеты «Гродненские губернские ведомости») апісаны лёс яе маці, бабулі Максіма Тацціяны Малевіч. Сустракаўся А. Бачыла з Паўлам Адамавічам Багдановічам (зводным братам Максіма) незадоўга перад яго смерцю; даследаваў тыя нямногія звесткі пра дзейнасць старэйшага Максімавага брата Вадзіма, якія захаваліся; вёў перапіску з Мікалаем Іванавічам Лілеевым, сынам Ганны Рафаілаўны Какуевай (Ганна — першае каханне паэта) і гэта дало яму падставы (як і дэталёвае даследаванне паэмы «Вераніка» і вывучэнне фотаздымкаў) для высноў, што ў паэме «Вераніка» апісаны вобраз менавіта Ганны Какуевай.

У цікавай для чытачоў жывой форме Алесь Бачыла пазнаёміў са сваімі даследаваннямі ўсіх неабыякавых, адкрыў прыхільнікам творчасці М. Багдановіча не вядомыя раней старонкі жыцця паэта. Алесь Бачыла зрабіў выснову, што адносіны паміж Максімам і яго бацькам Адамам Ягоравічам былі не такімі гладкімі, як, магчыма, хацеў падаць у сваіх успамінах пра сына апошні. Акрамя таго, Алесь Бачыла з'яўляецца аўтарам лібрэта оперы-паэмы «Зорка Венера», прысвечанай паэту, сцэнарыя дакументальнага фільма «Цярновы вянок паэта» пра жыццё і творчасць М. Багдановіча, а таксама паэмы «Хмары над Бухтай», эпіграфам да якой сталі апошнія радкі Максіма Багдановіча: «У краіне светлай, дзе я ўміраю…».

**Таццяна БАРАДУЛЯ**

**Яўген МАРТЫНОВІЧ, малады пісьменнік, настаўнік:**

— Была ў мяне некалі такая «хвароба» (падазраю, што не ў мяне аднаго): падводзіць напрыканцы года нейкія вынікі (як цяпер гавораць, «падбіваць рахункі»). Я рабіў доўгі спіс з усімі маімі «подзвігамі» і «дасягненнямі» за год. Туды маглі трапіць самыя розныя рэчы! Напрыклад: адолеў таўшчэзны том «Уліса» Дж. Джойса (і нават нешта там зразумеў), ці наведаў нейкія знакавыя мясціны, музеі, ці пратрымаўся год без тытуню і інш. А потым ганарыўся сабой: які малайчынка! Цяпер усё гэта здаецца смешным і не цягне на нейкія сапраўдныя дасягненні. Таму ў апошнія гады я больш не рабіў такіх спісаў.

Але ў 2013-м я ўсё ж такі вырашыў аднавіць сваю даўнюю традыцыю!

Падводзячы вынікі гэтага года, на першае месца стаўлю з'яўленне на свет дачушкі Ганулі. Ёй амаль 5 месяцаў. І з кожным днём жыццё становіцца ўсё весялейшым. З упэўненасцю магу сказаць, што гэта лепшае, што здарылася за 28 год майго жыцця.

На другім месцы — уласныя дасягненні. Гэта, у першую чаргу, публікацыі ў лепшых беларускамоўных літаратурных выданнях: «Маладосці», «ЛіМе», «Бярозцы»... Для мяне гэта САПРАЎДНЫЯ дасягненні, бо я ведаю, як нялёгка і адказна трапіць на старонкі такіх паважаных выданняў.

На трэцім месцы — атрыманне другой вышэйшай адукацыі ў БДУ (спецыяльнасць — «Літаратурна-мастацкая творчасць»). Дзякуючы такім цудоўным людзям, як Галіна Багданава, Арцём Кавалеўскі, Аксана Бязлепкіна, я пазнаёміўся з лепшымі ўзорамі айчыннай літаратуры. Яны далі мне неабходны штуршок для самастойнага дзеяння.

Не трэба саромецца сябе! Трэба спрабаваць свае сілы, паказваць, на што вы здольныя. Нават калі не атрымаецца з 1-га, 3-га, 10-га разу — не здавацца. Усё атрымаецца. Галоўнае — моцна і шчыра пажадаць і паверыць.

# У галаве серба




*Джорджа Нікаліч. Таямніца часу. Выбранае. — Мінск: Белпрынт, 2013.*

Зборнік выбраных твораў Джорджа Нікаліча «Таямніца часу» надзвычай багаты на імпульсы для роздуму і арыгінальныя мастацкія рашэнні.

Дж. Нікаліч, прадстаўнік сучаснай сербскай паэзіі, — бясспрэчна, вельмі цікавая творчая асоба. І не толькі таму, што ён раскрывае нацыянальнае светаўспрыманне і светаадлюстраванне. Цікавы і мудры яго падыход да «універсальных» каштоўнасцей, якія абавязкова суадносяцца з вечным, боскім.

Натуральна, што светапогляд паэта фарміраваўся пад моцным уплывам «лёсу, характару і духу сербства», што ён звязаны з культурна-гістарычнай памяццю народа. А «калектыўнай свядомасці і падсвядомасці сербскага этнасу — магчыма, як ніводнага іншага ў свеце — уласцівы трагізм», — слушна адзначаецца ў прадмове да кнігі. Сапраўды, сербы ідуць па гісторыі «галгофскім шляхам». Дастаткова згадаць Косаўскую бітву 1389 года і пяць стагоддзяў турэцкага іга, падзел сербскага этнасу паміж чатырма дзяржавамі, пакуты ў дзвюх сусветных войнах і падзеі 1999 года.

Ядро сербскай нацыянальнай самасвядомасці Дж. Нікаліч надзвычай ёміста адлюстраваў у адным са сваіх вершаў: «*Сербія сербіць / Вечна ў нашым сэрцы; / сербяць і сербы. / Сербіць — значыць набыць / стан «быць ці не быць»*.

Адпаведна, і самасвядомасць паэта прасякнутая трагізмам. Многія яго творы звернутыя да выключна цяжкіх перыядаў сербскай гісторыі. Аднак насуперак усяму прысутнічае вера ў трываласць і невынішчальнасць духу сербства — найперш дзякуючы самааххвярнасці, якой прысвечаны цыклы «Сербія», «Галава серба» і, у прыватнасці, наступныя радкі: «*Што скрозь на палетках нашых / акрамя касцей сербаў пагінулых / З чаго сплецены вянец сербскі / акрамя чырвоных макаў палявых / Якой песні мы навучаны / акрамя змагарскай / І што зноў нас чакае / як не бітва бітваў / як не Косава* («Сербская песня»).

Глыбока нацыянальная паводле вобразнасці, паэтычнага мыслення, кніга «Таямніца часу» звяртае ўвагу чытача да ўніверсальных пытанняў быцця, унутранага свету чалавека, гісторыі і сучаснасці, у вялікай ступені актуальных як для сербаў, так і для беларусаў, якім паэзія Дж. Нікаліча не будзе чужой.

Паводле звестак з уступнага артыкула, Дж. Нікаліч пачатковую адукацыю атрымаў у родным краі, а вышэйшую — ў Злучаных Штатах Амерыкі, дзе, дарэчы, напісаў доктарскую дысертацыю па славістыцы, займаўся перакладам з сербскай мовы на англійскую і наадварот. Між тым, і ў замежжы паэт заставаўся сынам сваёй айчыны, не страціўшы з ёю глыбінных духоўных повязей. «Усё для Сербіі» — яго жыццёвае крэда.

Пра жыццё за мяжой Дж. Нікаліч кажа: *Добра жывым — Яны не ведаюць / Што і магіла / Будзе выгнанніцай / На чужыне* (*«На прадзедавай магіле»*).

Як паэт ён сцвярджаўся і ў ЗША, выдаўшы кнігі *Three Slavic Poets* (1975) — сумесна з Іосіфам Бродскім і Тыматэушам Карповічам; *Key to Dreams according to Djordje* (1978, пераклад Чарльза Сіміча); *По старим рељефима* (Іаганесбург, 1975); *Грмови, траве* (Чыкага, 1978). Але на Радзіму вярнуўся перш за ўсё праз кнігі, выдадзеныя ў Бялградзе і Аранджалаўцы: «Галава серба» (*Српска глава*, 2001), «Нябесны сад» (*Небески врт*, 2001), «Допіс» (*Допис*, 2001), «У пагоні за Эўрыдыкай» (*У потрази за Еуридиком*, 2003), «Шумадзія» (*Шумадија*, 2006), «Вы не ад гэтага свету» ( *Ви нисте од овога света*, 2012).

Беларускамоўная кніга «Таямніца часу» падсумоўвае галоўныя творчыя дасягненні Дж. Нікаліча, выяўляе розныя бакі творчай індывідуальнасці паэта. Сэнсавым цэнтрам зборніка з'яўляецца верш «Таямніца часу» — філасофскае асэнсаванне прызначэння жыцця, у якім ставіцца анталагічныя пытанні: «*Якая гадзіна там / На вялікім гадзінніку Божым?/ Схавана ад нас гэтая / часу таямніца вялікая / Існуе бадай такі над-гадзіннік / Па якім звяраецца час наогул / Час пачатку і канца*».

У арыгінале гэты верш мае назву «Колькі часу». Але, мяркуючы па ўсім, асацыятыўная насычанасць яго дазволіла не толькі змяніць загаловак, але і выкарыстаць новы варыянт у назве ўсяго зборніка. Так ці інакш, «таямніца часу» натуральна звязваецца з тямніцамі іншымі — прыроды, адносін паміж людзьмі, культуры, духоўнасці.

Здаецца, няма такіх пытанняў, якія б не закранаў паэт. Прыкметнае месца сярод іх займаюць тыя, што датычаць прыроды творчасці, мастацтва, духоўнага росту. Яскравы прыклада — глыбока лірычная кампазіцыя «Вершкветка»: «*Не ападзіце пялёсткі зорныя / Не завянь кветка надхмарная / Вас паабірае зара / Нарачонай дня яна /У пáры яны вас чакалі / У чаканні пазасыналі / Яна першай абуджалася / Як поўнач кветкамі ўбіралася…*

Аўтар прадмовы цалкам справядліва адзначае, што ў светапоглядзе сербскага паэта нельга не заўважыць рэлігійнасці, дзякуючы якой «паслядоўна, выразна, строга размяжоўваюцца дабро і зло, праведнасць і грахоўнасць, прыгожае і брыдкае… А супрацьпастаўленне «зямное — нябеснае», дарэчы, праходзіць у творчасці Нікаліча чырвонай ніткаю. Глыбока хрысціянскі змест мае ў яго і матыў смерці, таксама скразны і, як правіла, спалучаны з матывам марнасці зямных клопатаў». Асабліва навідавоку гэта ў цыкле «Вы не ад гэтага свету».

На першы погляд, паэзія Дж. Нікаліча песімістычная. Так, у вершы «Марнасць» аўтар сцвярджае: «*Надышла марная ноч / Як працяг марнага дня /Нават раніцы не было — / Змарнавалася пры світанні*». Аднак жа час цемра і смутак адступаюць пры набліжэнні сонца — аднаго з вядучых архетыпаў зборніка. У барацьбу са змрочнымі сіламі ўступаюць і зоркі: «*Зоры не адступяць і чакаць не будуць / Бо ў іх жа таксама ёсць каму свяціць / Як няма сонца яны трэба людзям / Святло не павінна цемры саступіць*».

Паводле ўсіх асноўных прыкмет, Дж. Нікаліч належыць да традыцыяналісцкай плыні літаратуры. Але яму ўласціва і эксперыментатарства — напрыклад, з японскімі вершаванымі формамі хайку і танка. Пры гэтым, па назіраннях перакладчыка-укладальніка, «ён альбо напаўняе іх натурфіласофскім зместам […], альбо падкрэслівае, што японская стыхія падлягае спецыфічнаму «асербліванню» (цыкл «Хайку сербскія»)».

Творы Дж. Нікаліча перакладаліся на дзясятак моў, адзначаліся шматлікімі ўзнагародамі, у ліку якіх прэміі Акадэміі амерыканскіх паэтаў (Нью-Ёрк, 1977), імя Рыста Ратквавіча (Бялград, 2001), імя Душана Васілева (Бялград, 2002) і інш. Паэт узнагароджаны таксама ордэнам Вука Караджыча (2004), ордэнам Карагеоргія (2009), Залатым знакам Культурна-асветнага таварыства Сербіі (2005).

З творчасцю Дж. Нікаліча беларусаў знаёміць Іван Чарота — выдатны славіст Беларусі, акадэмік Сербскай акадэміі навук і мастацтваў, аўтарытэтны перакладчык. Ужо сама па сабе ўвага такога спецыяліста да асобы Дж. Нікаліча шмат значыць. Да таго ж, ён пераклаў абсалютную большасць твораў, што склалі зборнік. У якасці суперакладчыкаў выступілі Віктар Шніп і Людміла Рублеўская.

**Любоў ПЯРВУШЫНА**

# «Вялюгін ведае ўсё!»



*Рыгор Барадулін, Анатоль Вялюгін, Уладзімір Караткевіч.*

**На Дзяды надвор'е амаль заўсёды плачнае, з густымі перадзімовымі хмурынамі, зацяжнымі дажджамі. Такім было і гэтым разам. Я доўга не мог распаліць дзве свечкі ля помніка дачцэ, бясконца круціў колца запальнічкі. Хісткае полымя тут жа тушыў задзірлівы вецер. Урэшце на адной са свечак агеньчык акрэп, пачаў спрачацца з ветрам, і на пліце усё ярчэй акрэсліваўся сумнаваты профіль самотлівага даччынога твару.**

Наведванне Паўночных могілак заўсёды расцягваецца на дзень, а то і прыхоплівае вечар — вунь колькі родных, сяброў прынялі яны ў свае вечныя абдымкі… Праз дарогу — магіла Хведара Чэрні, а далей угору яго — Вялюгіна. Там, ля сціплага помнічка па ім, нечакана згадалася яго пахаванне. Упарцілася, чамусьці не хацела зачыняцца века труны: нейкі цеснаваты апошні дамок выбралі паэту. А калі пачалі грукаць аб века развітальныя камякі жаўтапёсу, над верхавінамі высокіх, цыбатаватых сосен з грымотлівым гулам прарэзаў нябёсы самалёт-звышгукавік. І Мікола Базаравіч, цяжка ўздыхнуўшы, ціхім голасам сказаў мне:

— Гэта, бачыш, неба развітваецца са сваім сынам.

Паэт паважаў лётчыкаў, у вайну сам вучыўся ў лётнай школе, але за штурвал яму так і не давялося сесці. Неяк позна вечарам вярталіся з ім у Каралішчавічы. За рулём таксі была вясёлая прыгажуня жанчына. І, размаўляючы з ёй, Анатоль Сцяпанавіч жартаваў:

— А ведаеце, чаму я не магу сесці за руль аўто? Мне ўвесь час будзе карцець цягнуць руль на сябе…

— Вы лётчык? — здагадліва запыталася жанчына.

— Амаль што, — загадкава кінуў паэт.

— Але паэзія яго — суцэльны вышэйшы пілатаж! — гэта ўжо я, седзячы на заднім сядзенні, уставіў, як кажуць, «свае дзве капейкі». Можа, гэта не зусім спадабалася «адміралу ад паэзіі», аднак гаспадыня таксі адразу зразумела, хто мы такія. А калі потым пры лясным доме з ёй добра развіталіся, дык развіталася яна з намі і зусім у падвышаным настроі.

Начытанасць дазваляла яму размаўляць пра авіяцыю на ўзроўні бывалага дасведчанага летуна. Памятаю, з якім гонарам расказваў ён мне пра свайго цесця па другой жонцы, ваеннага лётчыка Мікалая Кавалеўскага, а потым і пазнаёміў нас у Івянецкім грыбным барку. Можа, і гэты звышгукавы самалёт над соснамі быў не проста нейкім супадзеннем, а трагічным сімвалам развітання.

Нешта наблытана з датамі на яго помніку (яшчэ раз падкрэслю, задужа сціплым). Па ўсіх каляндарных згадках Анатоль Вялюгін нарадзіўся 28 снежня 1923 года. На помніку ж дата нараджэння пазначана 1924 годам. Радкі на пліце «Ціха, мора, чаго ты шуміш? Я і сам бушаваць умею!» змушаюць згадваць паэта маладым, часам, і праўда, крыху буйным.

У яго творчым набытку магло быць куды больш паэтычных радкоў, кніг, але шмат асабістага часу аддавалася рэдагаванню чужых твораў, цэлых кніг, усяго таго, што друкавалася ў часопісе «Полымя», дзе ён доўгія гады нёс пільную службу рэдактара аддзела паэзіі. Рэдагаванне было сур'ёзным, часта бязлітасным, аж да перапісвання, заняткам. І дзіўна — ніколі не было пакрыўджаных. Пры мне класік амаль з сусветным імем пакідаў яму свае новыя вершы і на разгляданне казаў:

— Рабі, Толя, як хочаш. Я табе давяраю!..

Я потым бачыў, як пахадзіла рука загадчыка па радках класіка. Габлянуў ён, як кажуць, на поўную стружку. Многа часу забірала ў паэта кіно. Яго кінасцэнарыі ішлі «на ўра». Кіно давала нядрэнны заробак, хоць паэзіі наўрад ці спрыяла. Адно што і ў сваіх сцэнарыях паэт заставаўся паэтам. А яшчэ шмат часу забірала чытво. Усе літаратурныя часопісы — і нашыя, і маскоўскія, нават польскія, якімі з ім шчодра дзяліўся Янка Брыль, — прачытваліся ад першага і да апошняга радка. І абавязкова — з алоўкам. Валодаў ён энцыклапедычнай дасведчанасцю, мог весці гаворку на роўных з любым спецыялістам у самай нечаканай галіне. На дапытлівы кватэрны тэлефон паэта сцякалася інфармацыя ад сяброў ды блізкіх, дзе ў падрабязнасцях падсумоўваліся і мясцовыя самыя гарачыя навіны. Задоўга да славутага інтэрнэту ўсімі яго магчымасцямі валодаў Вялюгін. Сябры казалі праўду: «Вялюгін ведае ўсё!»

Яго лепш было слухаць, чым расказваць нешта самому. А гаварыць ён мог цэлую ноч, без спачыну, смакуючы цыгарку за цыгаркай ды зрэдку прыгубляючы чарку. Я памятаю такія ночы ў яго рабочым пакоі насупраць цырка па вуліцы Купалы. Адмысловы дах цырка нагадваў яму старую каску пажарніка. І гэты вобраз ён выкарыстаў у сваіх творах. Слухаючы яго начны голас, бывала, і задрэмлеш, дзеўбанеш носам, але тут жа сарамліва падхопішся, штурхануты нейкім нечаканым словам з доўгай, але заўсёды шчырай і разумнай гаворкі. Світанкі з-пад «каскі пажарніка» з'яўляліся гэтак жа нечакана і хутка, як і паэтавы госці.

Ён цаніў у чалавеку талент, эрудыцыю, памяць. З захапленнем выказваўся пра дасведчанасць і інтэлігентнасць Пятра Глебкі, дакладнасць у памяці Піліпа Пестрака, моўную падкаванасць Максіма Лужаніна. Часта паўтараў: «Адзін Лужанін варты ўсяго Інстытута мовазнаўства». Скупаваты на пахвальбу, хваліў ён тое, да чаго сам імкнуўся.

Усе, хто яго паважаў, ведаюць, што меў ён шмат сяброў, многія напрошваліся яму ў сябры. Але метода сяброўскага адбору ў «адмірала» была свая, вялюгінская. Сябры правяраліся ў першую чаргу на сумленнасць. Нават у тым жа застоллі. Многія адразу, як сухі ліст, асыпаліся. Часта пасля доўгага застолля ён выбіраў аднаго, хто павінен праводзіць яго да самай хаты вядомым шляхам: праз парк Горкага да вуліцы Купалы і да самага ліфта. Сёння гэта мог быць я, заўтра — нехта іншы. Скажу шчыра, праводзіны гэтыя заўсёды былі і не такімі простымі, нібыта на вытрымку. Тыя некалькі соцень метраў ад Дома літаратараў да цырка, якія можна было прайсці за некалькі хвілін, выліваліся ў цэлыя гадзіны. Ступіць Анатоль Сцяпанавіч паўкроку, потым спыніцца, зацягнецца цыгаркай — і пачынаецца зацягнуты «маналог». Я згадваю саваё, бо неадноўчы меў шчасце быць у ролі таго самага праважатага. Дык вось крочым мы, пасмоктваючы цыгаркі, даходзім да ўзбярэжжа Свіслачы. Тут крок надоўга прыпыняецца. «А пасля вайны на гэтым месцы мы з Сашкам…» — пачынаецца новы прыпамін. Сашка — гэта вядомы наш пісьменнік-марыніст Аляксандр Міронаў. Пакуль ідзе згадка «пра Сашку», я спрабую ўявіць, што ў мяне дзеецца дома. Недзе даўно турбуецца жонка, бо час ужо амаль начны. Але вось пройдзена яшчэ некалькі крокаў, зноў прыпынак, і цяпер гамонка ў нас ідзе ўжо пра Кастуся, нашага агульнага з паэтам на той час рэдакцыйнага начальніка. «Косця — чэсны камуніст», — кажа Анатоль Сцяпанавіч, а я паглядаю на гадзіннік. Ён паказвае, што пайшла першая гадзіна ночы. А мы яшчэ не прайшлі і палову шляху. «Урэшце, чаго я хвалююся? — супакойваю сябе, — нідзе не дзенецца мой дом. Але сёння я вярнуся дамоў намнога багацейшым». І сапраўды, час, праведзены разам з мудрым чалавекам, якім быў незабыўны Анатоль Вялюгін, каштаваў многага.

Згадваючы той самы парк Горкага, абавязковы пры вяртанні паэта на яго вуліцу Купалы, не магу не прыгадаць і адзін вясёлы выпадак, які неяк пераказваў мне Павел Дубашынскі, з якім мы былі ў добрым сяброўстве:

— Пазнаваты быў ужо час. Я адыграў у тэатры свой спектакль і вяртаўся дамоў. Ішоў праз парк Горкага, каб выйсці да плошчы Перамогі. Непадалёку ад Свіслачы ценямі азначыліся дзве постаці, і калі я падышоў бліжэй, то разгледзеў, што гэта былі мужчына і жанчына. Можна было здагадацца, што паміж імі ідзе нейкая няпростая спрэчка. Мужчына штосьці даказвае, а жанчына з ім не згаджаецца. Калі я падышоў яшчэ бліжэй, то ў мужчыну распазнаў Анатоля Вялюгіна. Надта блізка мы з ім знаёмыя не былі. Пару разоў сустракаліся ў нейкіх кампаніях. І вось чую, басавіты голас, дужа ўзбуджаны, даводзіць, нават пераконвае: «Вось зараз спынім першага сустрэчнага і запытаем… Гэй, шаноўны!» — кліча ён, значыцца, мяне. Я падыходжу, вітаюся. Сімпатычная жанчына гадоў трыццаці ўсмешліва, але дапытліва пазірае на мяне. Паэт спрабуе нешта гаварыць, але жанчына яго перабівае: «Нет, позвольте мне… Скажите, вы знаете этого человека? У нас зашёл спор…» Я не даў ёй дагаварыць, адразу ўцяміўшы, што тут да чаго. «Гэта вядомы наш паэт Анатоль Вялюгін!»— узнёсла выпаліў я. Толькі сёння раніцой на Беларускім радыё я запісваў у сваім выкананні паэтаў верш «Прызнанне ў любві» і ў падтрымку сказанаму пальнуў радкамі:

*Я заўсёды баюся напышлівых*
*выцвілых слоў,*
*Што звіняць, як жабрацкая медзь…*

Каб вы бачылі, што там рабілася!.. Вочы жанчыны адразу пакругглелі, сталі вялікімі, мову ёй адняло. А паэт (бачна было, што ён падвеселены не скупой чаркай) задаволена ўсміхаўся і ўсё паўтараў: «А што я казаў? Так вось…» Я разумеў, што гэта яго перамога. Якраз перад гэтым Анатоль Сцяпанавіч даказваў жанчыне, што ён — вядомы паэт, што кожны яго ведае ў твар і толькі яна адна не ведае. Развітваючыся, жанчына паабяцала схадзіць у бібліятэку і прачытаць там усё, што напісаў Вялюгін. А мы з паэтам пайшлі ў «Мутнае вока» добра адзначылі перамогу.

Ён быў выдатным майстрам і такім жа настаўнікам. Майстэрству можна вучыцца і на ягоных, залатарнай пробы, дакладных радках. Шкада, што сённяшнія маладыя творцы мала цікавяцца сваімі папярэднікамі. Гэта бяда не часу, гэта — іх уласная бяда.

На схіле жыцця свайго, гартаючы старонкі пражытага, Вялюгін гляне на ўсё строга і бязлітасна: «З агідаю чытаючы жыццё маё, перабіраю ўсё па каліву, жахаюся: столькі непатрэбшчыны ў падарожным набытку». Гэта — не адчай, а суровае прамаўленне жыццёвай праўды. Майстра ведаў кошт зробленаму. Шкадаваў пра нязробленае. А ў вершах апошніх прамовіцца, нават пракрычыцца і такое: «Жыцця ў жыцці мне мала. Мала!»

Калі крычаць вусны — гэта адно, калі крычыць душа — гэта зусім іншае. На крык душы азіраецца сама вечнасць.

**Казімір КАМЕЙША**

---

**Алесь СУША,**
**намеснік дырэктара НББ:**

— Для мяне як чалавека, які займаецца пытаннямі вывучэння, захавання і папулярызацыі кніжнай спадчыны нашай краіны, найважнейшым дасягненнем 2013 года з'яўляецца пашырэнне яе ролі ў грамадскім і культурным жыцці Беларусі. Беларусы, а таксама шматлікія замежныя госці і партнёры сёння ведаюць значна больш пра кніжныя багацці і традыцыі, створаныя нашымі продкамі.

І сыходзячы год быў багатым. Сам яго пачатак стаўся вельмі сімвалічным: калектыў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі атрымаў Спецыяльную прэмію Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва за комплекс мерапрыемстваў па захаванні і папулярызацыі кніжнай спадчыны Беларусі.

Варта прывесці толькі адзін прыклад. Яшчэ літаральна два гады таму ў Беларусі не было ніводнага выдання знакамітай працы нашага суайчынніка Казіміра Семяновіча «Вялікае мастацтва артылерыі», якая стаіць ля вытокаў сусветнай ракетнай балістыкі і касманаўтыкі. У канцы 2012 г. Нацыянальная бібліятэка Беларусі атрымала першыя два прыжыццёвыя выданні гэтай працы, надрукаваныя ў Амстэрдаме на лацінскай і французскай мовах у 1650 і 1651 гг. Сёлета фонд Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі папоўніўся нямецкамоўным выданнем працы Казіміра Семяновіча 1676 г., а таксама больш познімі выданнямі на іншых еўрапейскіх мовах.

Самым важным дасягненнем апошняга часу стала далучэнне да гэтага працэсу камерцыйных структур і прадстаўнікоў беларускага бізнесу. Тыя ж выданні Казіміра Семяновіча былі набыты за мяжой пры падтрымцы ААТ «БПС-Сбербанк» і таварыства «БелАВМ».

Яшчэ адно дасягненне — адным з асноўных напрамкаў дзейнасці многіх установ Беларусі стала правядзенне сацыякультурных акцый і іншых мерапрыемстваў з мэтай прыцягнення ўвагі грамадства да пытанняў захавання і выкарыстання нацыянальнай кніжнай спадчыны. Шматлікія прэзентацыі, культурныя вечарыны, выстаўкі, семінары, круглыя сталы і іншыя мерапрыемствы ўжо даўно сталі істотнай часткай працы бібліятэк у гэтым напрамку.

Яркай з'явай апошняга часу сталі таксама падрыхтоўка і выпуск факсімільных выданняў, якія ўзнаўляюць найбольш каштоўныя кніжныя помнікі Беларусі. Першай вялікай падзеяй 2013 г. у гэтым напрамку стаў выхад факсімільнага выдання знакамітага Полацкага Евангелля канца XII — пачатку XIII ст., якое часта называюць першакнігай беларускага народа. Нарэшце, самай важнай падзеяй гэтага года магу смела назваць афіцыйны запуск праекта факсімільнага перавыдання кніжнай спадчыны нашага першадрукара Францыска Скарыны, якая ніколі раней не выходзіла ў поўным аб'ёме і ў цудоўным паліграфічным выкананні. Выдавецкі праект разлічаны на перыяд 2013 — 2017 гг. і прымеркаваны да 500-годдзя айчыннага кнігадрукавання. Такім чынам, магу ўпэўнена сцвярджаць, што кніжная спадчына мінулых стагоддзяў і кніжная культура сучаснасці заслужылі таго, каб адыгрываць ключавую ролю ў культурным жыцці нашай краіны. Неабходна цяпер, каб імпэт і дасягненні гэтага года захаваліся на бліжэйшую перспектыву і мы годна адзначылі 500-годдзе беларускага кнігадрукавання ў 2017 годзе, здолелі атрымаць для Мінска званне сусветнай кніжнай сталіцы і засведчылі перад усім светам свой статус нацыі кнігі.

# Рэкі з вытокамі і без




На дзіва выбітным атрымаўся празаічны блок лістападаўскага нумара «Полымя». Першая частка рамана Зінаіды Дудзюк «Гонды» — узор класічнага эпічнага аповеду. Перадусім — экспазіцыя: яна нібы ўцягвае ў сябе чытача, і вось ён ужо сярод палескіх краявідаў, жыве палескім побытам, а з цягам развіцця дзеі — мясцовымі забабонамі, хоць часам і ставіцца да іх крытычна. Чытач спачувае маладой жанчыне, якая прыехала сюды за мужам (сама — з Магілёўшчыны). Яе лёс — тыпова жаночы ў пару «позняй» патрыярхальнай вёскі, інакш кажучы — напярэдадні больш ці менш актыўнай калгаснай «эмансіпацыі» жанчыны: робячы які-ніякі ўнёсак у агульную працу, яна будзе пачувацца хоць крыху асобай. Не тое на самым, лагодным яшчэ пачатку калектывізацыі і тым больш не тое — на Палессі. Таіса, па ўяўленнях мужа, свякрухі і аднавяскоўцаў, павінна быць пакорлівай і бясслоўнай працоўнай скацінкай. Павінна, але не хоча. Што рыхтуе лёс ёй і яе дзецям, распавядзе, напэўна, другая частка — чакаю яе з нецярплівасцю.

Падборкі «апавяданняў» (хутчэй — фрагментаў, прытчаў, абразкоў) Уладзіміра Сцяпана і Ганада Чарказяна надаюць нумару філасофскі характар. Першы піша пра рыбалку, але якая ж яна адрозная ад «традыцыйнай» («Ну, за <што-небудзь>!..»). Рака і рыбалка ў беларускага пісьменніка — і анталогія, і этыка-эстэтыка, і сімволіка чалавечага досведу. «Думаеш, я пра рыбу? Не, гэта пра звычайнае шчасце».

Адносна творчасці Г. Чарказяна кажуць пра «ўсходнюю мудрасць» — звычайна не ўдакладняючы, што маецца на ўвазе. Але ўсё-такі — што? Напэўна — звышпростасць (не спрошчанасць!): здаровы сэнс і прыродна-народнае ўспрыманне рэчаіснасці. Ганад Бадрыевіч і яго героі захоўваюць такое светабачанне і ва ўрбаністычным, прагматызаванарацыяналізаваным свеце.

Паэтычныя старонкі прэзентуюць вершы Анатоля Зэкава і Алены Багамолавай. Яны таксама, як і празаікі, выдатна дапаўняюць адно аднаго: падкрэслена простае вершаванне, пераважна простыя сэнсы быцця (А. Зэкаў) і вытанчана-арыгінальны, «філалагічны», але вельмі нязмушаны вершасклад твораў пра каханне мінскай паэтэсы.

Багатае гэтым разам і літаратурна-крытычнае напаўненне нумара. Тут я мушу зрабіць тое, што так негатыўна ўспрымаў калісьці Леў Талстой: маўляў, чаго толькі не пішуць замест мастацкага, адзіна патрэбнага пісьма — панапісвалі крытыкі, крытыкі на крытыку, крытыкі на крытыку крытыкі!.. Размова датычыць артыкула Валянціны Локун «Птахі з падрэзанымі крыламі (Фрэдэрык Стэндаль і Змітрок Бядуля: да праблемы свабоды і чалавека)». Калі мы параўноўваем такія далёкія па часе, прасторы і жанры асобы, трэба прынцыпова тлумачыць, што істотнае (г. зн. невыпадковае) іх злучае. Напрыклад, падобныя гістарычныя ўмовы творчасці аўтараў або той ці іншы літаратурны прыём, жанр, метад (у выпадку, калі нас цікавіць яго сутнасць і эвалюцыя). Калі ж за «лакмусавую паперку» параўнання мы абіраем абстрактныя рэчы («свабода і чалавек»), не можа не ўзнікнуць пытанне: няўжо толькі абраныя пісьменнікі пісалі пра свабоду і чалавека? У чым сэнс такога параўнання? Ці не гэта якраз і завецца «гульнёй са шклянымі перлінамі»? І, канечне, нікуды далей такое «параўнанне» не ідзе, як толькі па сцежках кшталту: «Ф. Стэндаль мастацтва ставіў вышэй за жыццё. <…> З. Бядуля таксама ставіў мастацтва вышэй за жыццё...»

Адразу два матэрыялы ўспамінаў прысвечаныя памяці Яўгеніі Янішчыц: успаміны яе школьных настаўнікаў і сяброў (падборка Тамары Аўсяннікавай) і «калегі па цэху» Раісы Баравіковай. Чытач можа ўявіць сабе аб'ёмны, пераканаўчы вобраз легендарнай паэтэсы, зноў задумацца над прыродай паэтычнага таленту і асобы мастака, пра таямніцы натхнення, жыцця і смерці.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

# Востраў несмяротнасці на Палессі ёсць




Пачнём з пачатку. У лістападаўскага «Нёмана» надзвычай удалая вокладка. Само слова «Нёман» асацыіруецца ў нас з сінім колерам, так што танальнасць і плаўныя выгіны карціны Надзі Бука «Снілася», фрагмент з якой выкарыстаны, упісваюцца арганічна. Трохі псуе ўражанне анонс: ён выглядае так, быццам трапіў сюды выпадкова, быццам дызайнер мусіў нешта з ім зрабіць, ды забыўся. Дробязь — але дробязь значная.

«У чым сэнс жыцця?» — пытаецца ў нас Фёдар Конеў, аўтар аповесці «Дзьмухавец». Не спяшайцеся кідаць камяні і незадаволена тупаць нагамі, маўляў, колькі можна пра гэтыя вашыя сэнсы. Калі б аўтар задаў такое пытанне наўпрост, мы мелі б права на чытацкае абурэнне. Але ён прапануе нам цікавую гульню.

Да сэнсу аповесці — і разам з тым сэнсу жыцця — мы прасоўваемся па двух паралельных рэйках: адна пракладзеная праз рэальнасць, якую апісвае аўтар, другая — праз мару галоўнага героя, нясправджанага генія Сямёна Лістападава. Крок тут, крок там — паступова пракладаецца шлях да галоўнага.

Цікава, што галоўны герой не мае адназначнай ацэнкі. Жанчыны, захопленыя людзьмі мастацтва, гэткія ўздыхальшчыцы па-за магутнымі творчымі спінамі, бачаць у ім генія, «маладога ільва». Сябар героя, у пэўнай ступені яго антыпод (той няўдачнік — гэты шанцавіты), бачыць іншае — «дзьмухавец». Тыповага безабароннага летуценніка, якіх у нас хоць гаць гаці. Услед за гэтай паўстае другая дылема, больш сур'ёзная: галоўны герой сапраўды геній — ці так, пустазелле, што буяе пышным кветам?

Уся соль хаваецца ў геніяльнай (на яго думку) кінаідэі Лістападава: недзе на Палессі існуе востраў сярод балот, і на востраве гэтым няма ні часу, ні гора. Няма смерці. Цягам некалькіх стагоддзяў туды трапляюць астролаг, вайсковы трыбун і падпаручнік. Няцяжка здагадацца, што востраў сімвалізуе мастацтва, якое быццам бы існуе тут, на зямлі, але разам з тым яно адасобленае, дасяжнае не для ўсіх. Мастацтва як паратунак — ідэя не новая, але заўжды актуальная. Перадусім таму, што чалавек заўжды будзе марыць пра вечнае жыццё.

Спачатку ўсе захапляюцца ідэяй Лістападава. Але з часам яна пачынае назаляць, раздражняць, і ўрэшце незадаволенасць выліваецца ў сполах гневу. Рэакцыя такая падаецца натуральнай: калі вам па сто разоў распавядаюць адзін і той жа анекдот, вы міжволі схочаце прыдушыць суразмоўцу, што ж тут дзіўнага. Але ці толькі ў гэтым справа? Людзі, захопленыя ідэяй несмяротнасці праз мастацтва, урэшце зразумелі, што песня — не пра іх.

Апагей наступае, калі Лістападаў, спіты і занядбаны, становіцца вахцёрам на той самай кінастудыі. Калі ён, вартаўнік прыўкрасная, не прапускае рэжысёра пладавітага, шанаванага і бяздарнага: «У вас пропуск несапраўдны», — кажа ён. — Тут няма пазнакі «таленавіты рэжысёр». З вашымі здольнасцямі трэба працаваць <…> у грамадскай прыбіральні». Не прапускае і дырэктара кінастудыі. Іншая справа, ці меў на гэта права менавіта Лістападаў.

Чытач тым часам радасна пацірае далоні: я разгадаў задуму аўтара! Але высвятляецца, што ў няспраўджанага фільма іншы канец: адзін з трох шчаслівых палонных, падпаручнік, пакінуў востраў. І — падумаць толькі — дзеля шараговага кахання. Фёдар Конеў становіцца не «жрацом мастацтва», а прапаведнікам любові.

У цэлым аповесць удалася, але не варта было завяршаць яе адкрытай, нават непрыхаванай мараллю, маўляў, толькі любоў надае жыццю сэнс і г. д. Нейкія тры абзацы псуюць уражанне ад усяго твора.

Як ні дзіўна (ці зусім не дзіўна), беларуская паэзія, перакладзеная на рускую мову (аўтапераклады Васіля Макарэвіча і вершы Яўгеніі Янішчыц у перакладзе Ізяслава Катлярова) у гэтым нумары мацнейшая за паэзію рускамоўную. Што зноў вяртае нас да пытання, ці можа пісьменнік паўнавартасна існаваць па-за роднай, «генетычнай» мовай.

Лістападаўскі «Нёман» проста-такі прапісаны страсным прыхільнікам Вячаслава Адамчыка. Да яго 80-годдзя рэдакцыя падрыхтавала цэлы блок матэрыялаў: партрэт пісьменніка, выпісаны Алесем Бадаком светлымі фарбамі, лёгка і старанна; успаміны Адама Глобуса, часам кранальныя, па-сыноўняму цёплыя, часам — жорсткія, але так і павінна быць; успаміны Віктара Шніпа, аздобленыя «Баладай Вячаслава Адамчыка». Аднак калі вы заўзяты адамчыкафіл, усё гэта ўжо можа быць вам вядома. Большай навізною вылучаецца размова Алены Мальчэўскай з рэжысёрам Валерыем Рыбаровым, які экранізаваў творы пісьменніка.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

# Сюжэтаў бракуе?




Адным з асноўных недахопаў сучаснай беларускай прозы часта называюць адсутнасць цікавых сюжэтаў. Такое ўяўленне адлюстравана і ў апытанцы «Маладосці». А. Кузьмінова і С. Календа канкрэтызуюць свае пажаданні праз жанравыя вызначэнні. Аднак перавага аддаецца трылеру і дэтэктыву — менавіта з-за асаблівасцей сюжэта.

Пры гэтым трэцюю частку нумара займае якраз проза «пакручастая». Аповесць Святланы Бязлепкінай «Лінія Дзюранда» нагадвае даволі заблытаны дэтэктыў. Наталля Туміловіч, відаць, таксама з захапленнем распрацоўвала сюжэты сваіх апавяданняў («Поллі», «Мамзэля»), у якіх скрыжоўваюцца гісторыі блізкіх людзей, раз'яднаных адлегласцю і часам. Твораў з цікавай фабулай насамрэч нямала, праблема ў тым, што іх аўтары часта забываюцца на стыль, не паспяваюць раскрыць герояў, а галоўнае — імкнуцца расказаць пра штосьці іншае акрамя падзей, якія адбываюцца з галоўным персанажам, хай сабе побач Кастрычніцкая рэвалюцыя, Афганістан, вайна з Напалеонам… Сюжэт павінен захапляць чытача, але не аўтара, бо сюжэт — гэта толькі каркас, аснова.

У азначаных творах можна было чакаць большага і ад герояў-замежнікаў, якія ўпершыню наведваюць Беларусь, і ад тэмы афганскай вайны, бясспрэчна, актуальнай для нашай літаратуры. Але пісьменніцы, верагодна, імкнуліся здзівіць чытача: «Ого, як бывае ў жыцці!»; хацця за калізіямі і дзіўным збегам абставін хацелася б бачыць большае — новую ідэю, адмысловую інтэрпрэтацыю. Тым не менш публікацыя Н. Туміловіч, напэўна, лепшы дэбют нумара, а ў аповесці С. Бязлепкінай нямала цікавых дыялогаў і удалых вобразаў. Праўда, сувязь паміж прыгодамі афіцэра Аседача і салдацкім лёсам Івана Кацубы падаецца даволі цьмянай.

Ці не лепш было замест кругаверці прозвішчаў і падзей засяродзіцца на тэме інфармацыйнай вайны альбо на вобразе прывабнай і супярэчлівай Алены Кавалеўскай?

Вылучаецца апавяданне «Саша» Міколы Адама — сумнае, але гарманічнае. Калі аўтар піша «амаль пра сябе», то звычайна кранае больш, чым калі назірае за падзеямі збоку ці зверху і абірае эмацыянальна-нейтральны тон. У гэтым творы пра каханне Я-герой распавядае пра сябе "як ёсць", ён не схільны да эпатажу, не цешыць эратычнымі замалёўкамі і проста дзеліцца гісторыяй пра тое, як два чалавекі маглі быць шчаслівымі разам, але не паразумеліся, заблыталіся, разышліся… Здаецца, яшчэ магчыма пераадолець адлегласць і час, але ці праўда, што «усё ў нас наперадзе»?

Сакрэт «Сашы» не ў сюжэце, а ў кампазіцыі. Аўтар не спяшаецца на першай старонцы выкладаць усё істотнае пра герояў і нюансы іх стасункаў, ён паказвае, апісвае, прымушае персанажаў дзейнічаць і разважаць, а пасля ўжо абагульняе, звяртаецца да мінулага. Героі паводзяць сябе непасрэдна, часам непрадказальна, але натуральна — без прадвызначанасці і зададзенасці, прычым анёлападобная знешнасць Сашы напачатку ўводзіць у зман і чытача.

Проза нумара прадстаўлена таксама апавяданнямі Арцёма Аблажэя і Хітошы Танака, «Жыровіцкім дыярыушам» а. Яўстафія, паэзія — творамі Яны Явіч, Дзмітрыя Пятровіча, Анастасіі Хмель, санетамі Фёдара Ястраба. Гэта добрыя вершы пра каханне і адзіноту, мроі і існасць, парасоны і навальніцу, напісаныя не толькі на традыцыйныя рыфмы (крыві — любві, слёзы — бярозы), але і на больш выкшталцоныя (сон — ва ўнісон), якія дзіўным чынам сустракаюцца адразу ў двух аўтараў. На фоне лірыкі звяртае на сябе ўвагу чарговая перапрацоўка знакамітай оды «Exegi monumentum» — «Наследаванне» Анатоля Трафімчыка, дзе аўтар жартам услаўляе неўміручасць творцы ў віртуальным свеце.

Даследаванне У. Агіевіча прысвечана філасофскім ідэям у творчасці Янкі Купалы, рубрыка «Асабістае» змяшчае заканчэнне «сентыментальнай хронікі» Навума Гальпяровіча, у «Эпісталярыі» апублікаваны лісты Язэпа Драздовіча. Але самая запамінальная публікацыя нумара — безумоўна, нарыс Віялеты Рычага «Зусім іншы цэх», галоўны герой якога — майстар-трунар.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

### Форум-2014

# Верыць у маладых

Падчас Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу выдавецтва «Мастацкая літаратура» прапануе наведвальнікам форуму традыцыйна шырокую і багатую праграму прэзентацый уласных выданняў. І чарговы кірмаш, што пройдзе ў сталіцы ў лютым, — не выключэнне.

— Сёлета ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» пабачыла свет досыць шмат цікавых і адметных кніг, — распавядае галоўны рэдактар гэтага выдавецтва Віктар Шніп. — Па сутнасці, усё мы і паспрабуем прадставіць падчас XXI Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу. Натуральна, шырокія прэзентацыі для кожнага з выданняў зладзіць не атрымаецца, але хоць словам, хоць адным радком яны так ці інакш будуць згаданыя.

Так, зацікаўлены беларускай класікай чытач падчас форуму зможа наведаць прэзентацыю першых 5 тамоў Збору твораў Уладзіміра Караткевіча (напярэдадні кніжнага кірмашу плануецца выпуск і 3-га тома, што раней быў «прапушчаны»), 17 тамоў Збору твораў Івана Шамякіна, першых 2 кніг Збору твораў Івана Навуменкі. Не застанецца без увагі і адметная серыя «Залатая калекцыя беларускай літаратуры». У выставачным комплексе «БелЭкспа» плануецца прэзентацыя першых 5 тамоў гэтага праекта.

Не застануцца без падарункаў і аматары паэзіі. «Мастацкая літаратура» прадставіць чытачам новыя кнігі Валянціны Паліканінай, Віктара Гардзея, а таксама зборнікі вершаў Пятра Глебкі, Васіля Зуёнка. Як заўсёды, шмат увагі будзе звернута і на дзіцячую літаратуру. Падчас форуму будзе прэзентавана, у прыватнасці, адмысловая серыя «Нашым дзеткам», а таксама зусім новая кніга латышскіх народных казак «Добрыя лекі», укладзеная вядомым паэтам і публіцыстам Сяргеем Панізнікам.

Яркім момантам прэзентацыйнай праграмы выдавецтва павінна стаць прэм'ера кнігі мастацтвазнаўцы Барыса Крэпака «Вяртанне імёнаў», дзе прыводзяцца расповеды пра прыкладна пра паўсотню мастакоў, якія нарадзіліся ў Беларусі, але іх творчы лёс склаўся далёка за межамі нашай краіны.

Апроч прэзентацыі традыцыйных выданняў і прадстаўлення творчасці ўжо знаных майстроў слова выдавецтва «Мастацкая літаратура» плануе падтрымліваць творцаў, якія толькі пачынаюць свой шлях. Так, у межах XXI Мінскай міжнароднай выстаўкі-кірмашу адбудзецца прэм'ера серыі «Маладзік», а таксама асобнага адмысловага выдання «Кахаць і верыць».

Гэты зборнік апавяданняў маладых пісьменнікаў пасвойму ўнікальны, нават нягледзячы на яго недахопы: адсутнасць інфармацыі пра творцаў, падзелу тэкстаў па жанравай, тэматычнай, моўнай (тут можна пабачыць апавяданні, напісаныя пабеларуску і па-руску) ці нейкай іншай прыкмеце, досыць сціплае і, я сказала б, аскетычнае афармленне. Аднак пры пераліку вартасцей выданне ўсё роўна атрымаецца «ў плюсе».

Па-першае, кніга прадстаўляе выдатны зрэз творчасці маладых празаікаў, якія працуюць у жанры апавядання. Пільны чытач, даследчык, аналітык можа прасачыць па гэтым зборніку агульныя рысы функцыянавання жанраў кароткай прозы ў сучаснай беларускай літаратуры і вызначыць адметныя творчыя падыходы і прыёмы кожнага з аўтараў. Па-другое, пры больш падрабязным аналізе тэкстаў і асноўных заняткаў іх аўтараў (а для гэтага патрэбны будуць іншыя крыніцы) можна даведацца крыху больш пра сацыяльнае становішча маладога пісьменніка, яго асноўную прафесію, а значыць, зразумець вытокі творчай індывідуальнасці кожнага з аўтараў. Па-трэцяе, і гэта




асабліва прыемна, кніга падкажа асаблівасці трансфармацыі міфалагічных уяўленняў беларусаў у светапоглядзе сучасных творцаў. Тэндэнцыя звароту да міфалогіі нашых продкаў асабліва ярка акрэсліваецца ў творчасці маладых празаікаў, прадстаўленай у межах зборніка.

**Чэслава ПАЛУЯН**

### Унікальны праект

# Сам-насам з Цімохавым

У многіх рэгіёнах Беларусі захавалася традыцыя падчас каляднай куцці ставіць на стол дадатковую талерку — для памерлых продкаў. У адпаведнасці з народным павер'ем душы колішніх насельнікаў хаты, як і на Дзяды, могуць завітаць у сваё жытло напярэдадні Каляд.

У творчасці мастака Сержука Цімохава, які летась заўчасна пайшоў з жыцця, досыць добра заўважаюцца матывы знітаванасці з народам, амаль язычніцкае разуменне месца чалавека ў жыцці, гармоніі з прыродай. Напэўна, менавіта таму падчас прэзентацыі альбома работ мастака, што не так даўно пабачыў свет у Выдавецкім доме «Звязда», такім гарманічным было гучанне беларускай дуды, на якой граў аспірант Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Вячка Красулін. А сама імпрэза ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь была больш падобная да ціхай сустрэчы сяброў і блізкіх, чым да афіцыйнага мерапрыемства.

Па сутнасці, так яно і было. Каб пазнаёміцца з новымі выданнямі, аддаць даніну памяці мастаку, у музеі сабраліся сваякі, сябры, паплечнікі Сержука Цімохава. Менавіта яны сталі аўтарамі і ініцыятарамі ідэі стварэння гэтага выдатнага альбома. Гучалі шчырыя словы захаплення талентам мастака, яго жыццёвай энергіяй, адметным стылем і творчай няўрымслівасцю.

Гісторыю стварэння кнігі распавяла намеснік дырэктара Выдавецкага дома «Звязда» Ала Корбут:

— Гэта не першы наш досвед працы над мастацкім альбомам. Але гэтае выданне адметнае. Калі да нас у выдавецтва завітала мастачка Рыта Цімохава, яго дачка Вольга, якая пазней і стала дызайнерам новага альбома, яго сябар, мастак



Фота Наталлі Купрэвіч

*Аўтар ідэі календара Аляксандра Цярэшчанка і ўдава мастака Рыта Цімохава.*

Генадзь Мацур, то адразу ж зніклі ўсе сумневы ў патрэбнасці працы над такой кнігай. Мы вельмі рады, што яна атрымалася. Імя Сержука Цімохава добра ведаюць за мяжой, вельмі хочацца, каб мастака ведалі ў Беларусі, краіне, дзе ён жыў і працаваў.

Адметнасць альбома «Сяржук Цімохаў» у тым, што ў якасці яго дызайнера і ўкладальніка выступіла дачка мастака Вольга Арцюхова. А ў працэсе падрыхтоўкі кнігі ні выдаўцы, ні мастацкія рэдактары ніякім чынам не ўмешваліся ў яе працу над кампазіцыяй, дызайнам, творчым рашэннем. Нібыта інтуітыўна ўсе адчувалі тонкасць густу, асаблівую глыбіню разумення дачкой творчасці бацькі. Менавіта на гэты аспект выдання звярнуў увагу кансультант упраўлення выдавецкай дзейнасці і кніжнага гандлю Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, старшыня мастацка-экспертнай камісіі Нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі» Валерый Рагалевіч. Ён падкрэсліў:

— Перад намі — кніга ўнікальная. У гэтым альбоме прадстаўлена творчасць вельмі моцнага беларускага мастака, тут бачыцца жаданне зрабіць якасны выдавецкі праект, ды і сам макет выдання таксама адметны: малады дызайнер вельмі густоўна распрацавала і вытрымала архітэктоніку кнігі. Штогод мы праводзім Нацыянальны конкурс «Мастацтва кнігі», ён пройдзе зусім хутка, у студзені, напярэдадні XXI Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу. У межах конкурсу штогод вылучаецца асобная намінацыя, прысвечаная кнігам пра мастацтва, — «Арткніга». На мой погляд, альбом «Сяржук Цімохаў» — адно з выданняў, вартых высокай узнагароды ў гэтай намінацыі. Думаю, яго стваральнікі гэтага заслугоўваюць.

Гэты альбом для многіх стане адкрыццём вялікага мастацкага таленту Сержука Цімохава. Кніга — выдатны падручнік і дапаможнік для маладых творцаў, а таксама матэрыял для навукоўцаў, якія вывучаюць адметнасці сучаснага выяўленчага мастацтва.

Але не толькі альбом, грунтоўны і якасны, будзе нам нагадваць пра выдатнага мастака Сержука Цімохава. Дзякуючы ініцыятыве яго сябра, доктара Аляксандра Цярэшчанкі, у друкарні *Novik* абмежаваным накладам сёлета пабачыў свет адметны каляндар на 2014 год «Сяржук Цімохаў. Адкрыцці». Аўтарамі дызайну сталі Андрэй Салата і Кацярына Цярэшчанка. У чым асаблівасць гэтага праекта? А ў тым, што на 12 старонках выдання змешчана 12 карцін Цімохава з яго знакамітай серыі «Ню» — па адной на кожны месяц года. Уладальнік календара можа яго выкарыстоўваць па наўпростым прызначэнні, а можа ператварыць у маленькі альбом і застацца адзін на адзін з работамі майстра. Варта толькі адкінуць празрыстую бакавую палоску-старонку з тонкага пластыку, дзе надрукаваны непасрэдна каляндар.

Выданне «Сяржук Цімохаў. Адкрыцці» выконвае яшчэ адну функцыю — мемарыяльную. Тут асаблівым чынам выдзелена дата нараджэння мастака. Каб памяталі.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

**Уладзімір Даўгяла, мастак, кніжны графік:**

— Гэты год быў даcтаткова цікавым і ўдалым для мяне ў творчым сэнсе. Знайшоў новыя прыёмы, устанавіў новыя кантакты з беларускімі і замежнымі выдаўцамі. Мне вельмі прыемна, што сёлета па выніках Нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі» я быў названы лепшым ілюстратарам года ў персанальнай намінацыі «Майстэрства». Гэта значная падзея, важны этап майго жыцця.

Не менш важнымі падзеямі сталі і новыя кнігі. У адным з расійскіх выдавецтваў выйшаў збор твораў Оскара Уайльда з маімі ілюстрацыямі, а кніга Алены Масла «Каляды з хроснай», над афармленнем якой я працаваў, сёлета была перакладзена на рускую і ўкраінскую мовы і амаль адначасова пабачыла свет у Расіі і ва Украіне.

Што да мастацкіх пошукаў, то менавіта сёлета я пачаў рабіць тое, што хачу. Без аніякіх заказаў. Набыў колькі рамак і палатно, узяў алей і нібыта акунуўся ў дзяцінства: з вялікім задавальненнем заняўся эцюдамі на палатне. Гэта для мяне сапраўдныя моманты шчасця. Нават баюся лічыць, колькі гадоў прайшло без працы на эцюдах.

# З новым Караткевічам!




Здаецца, зусім нядаўна распачалося новае выданне шматтомнага Збору твораў славутага беларускага пісьменніка У. Караткевіча. Гэтая грандыёзная задума сабрала вакол сябе нераўнадушных да творчай спадчыны пісьменніка і ўвогуле нашай культуры навукоўцаў Беларусі. Дзякуючы іх працы, калекцыя шанавальнікаў таленту У. Караткевіча папаўняецца ўсё новымі зборнікамі. Арганічна, як кавалачак літаратурнай мазаікі, увайшоў у гэту калекцыю новы, пяты том, што выйшаў у выдавецтве «Літаратура і Мастацтва». Выданне змяшчае творы пісьменніка 1960 — 1972 гг.: «Сівую легенду» (1961), «Легенду аб бедным д'ябле і аб адвакатах Сатаны» (1961), навелу «Ладдзя Роспачы» (1964), паэму (пазней аповесць) «Чазенія» (1966) і аповесць «Лісце каштанаў» (1972).

Легенды, навела і аповесці, якія склалі пяты том, маюць вялікае значэнне для станаўлення і развіцця думкі пісьменніка, бо кожны твор выяўляе сваю канцэпцыю і непаўторны светапогляд У. Караткевіча. Аднак не ўсе яны адразу і ў належным выглядзе дайшлі да чытача. Некаторыя, прыкладам, «Легенда аб бедным д'ябле і аб адвакатах Сатаны», не друкаваліся пры жыцці пісьменніка, навела «Ладдзя Роспачы» ўпершыню была апублікавана ў перакладзе на рускую мову, а ў 2010 г. журналістам Г. Лабадзенкам было падрыхтавана першае непадцэнзурнае выданне навелы з аналізам аўтарскіх і цэнзарска-рэдактарскіх правак. Гісторыя пра лёс гэтых твораў, а таксама рукапісныя і машынапісныя варыянты, дата першай публікацыі, крыніцы, паводле якой яны друкуюцца, падаюцца ў разгорнутых каментарыях да кнігі, якія сталі своеасаблівым ключом да разгадкі таленту У. Караткевіча яшчэ з першых тамоў. Не менш цікавымі з'яўляюцца іншыя рэдакцыі і варыянты кожнага з твораў, таксама змешчаныя ў канцы тома. У іх падрабязна і даволі дакладна падаюцца адрозненні рукапісных ці машынапісных кніжных варыянтаў ад рэдакцый пэўных гадоў. Апрача ўсяго, выдаўцы палічылі неабходным друкаваць творы з улікам матываваных рэдактарскіх ці аўтарскіх правак, выключаючы нематываваныя праўкі, і ўдакладніць раней зменены ці ліквідаваныя падзагалоўкі. Гэта сведчыць пра найскладанейшую працу навукоўцаў, натхнёную іх жаданнем вярнуць да чытача мастацкія творы ў найлепш апрацаваным, адпаведным аўтарскай задуме выглядзе.

«Сівая легенда», якая пачынае пяты том, сцвярджае цікавасць пісьменніка да мінуўшчыны, любоў да роднага краю, уважлівасць да духоўных складнікаў асобы. Пераасэнсоўваючы ў творы падзеі XVII ст., падчас якіх адбываецца актыўная паланізацыя беларускага народа, У. Караткевіч паказвае станаўленне нацыянальнага характару ў неспрыяльных умовах, спробу герояў змагацца за незалежнасць, за волю і ахвяраваць самым дарагім дзеля высакародных мэт.

«Легенда аб бедным д'ябле і аб адвакатах Сатаны» была апублікаваная толькі ў 1994 годзе. У гэтым томе яна друкуецца з улікам стылёвых і рэдактарскіх правак. Твор, жанр якога У. Караткевіч сам вызначыў як містэрыя з інтэрмедыямі, праводзіць чытача па шляху галоўнага героя Рогача да яго ачышчэння, прымушае разам з аўтарам паразважаць над вечнымі пытаннямі жыцця і смерці, высакароднасці і подласці.

Казачна-легендарны характар мае наступная знакамітая навела Караткевіча «Ладдзя Роспачы». Невыпадковая сустрэча галоўнага героя Гервасія Вылівахі са Смерцю, гульня з ёй у шахматы за жыццё іншых людзей, непадкупнасць і мужнасць героя — «гора і няшчасця Рагачова», — як сатырычна адзначыў аўтар, прыводзяць да думкі пра ўсемагутную і неадʼемную прагу чалавека да жыцця, яго жаданне жыць, кахаць, змагацца, пра выхаванне высакароднасці асобы і яе духоўную моц.

Перапляценнем эпічнага і лірычнага вызначаецца «Чазенія», жанр якой у пазнейшых рэдакцыях пазначаны як аповесць. На фоне вырашэння маральных і навуковых праблем твор набывае яўную рамантычнасць і ўзнёсласць. Менавіта за вострую пачуццёвасць У. Караткевіч і называе «Чазенію» паэмай. Рамантычнасць дасягаецца не толькі каханнем, якое праходзіць праз увесь твор, але і колеравасветлавой гамай, меладычнасцю, увагай да дробязей, што кранае струны душы. Лірычная аповесць раскрывае перад чытачамі бескарыслівую любоў маладых людзей, шчырую і самаахвярную, як дрэва чазенія, якое «жаласніца аб слабых і аб моцных, аб усіх жывых».

Варта адзначыць, што менавіта дзякуючы «Чазеніі», якая была надрукавана ў 1969 г. у часопісе «Молодая гвардия» па рускай мове, а пазней выйшла асобнай кнігай у Маскве, У. Караткевіч стаў папулярным ва ўсім Савецкім Саюзе, бо да гісторыі кахання Севярына Будрыса і Гражыны Арсайль ніхто не застаўся раўнадушным. Караткевічу пісалі лісты з падзякамі за аповесць, задума якой, дарэчы, з'явілася ў пісьменніка падчас вайсковых збораў на Ціхаакіянскім флоце.

Апошні твор у зборніку — аповесць «Лісце каштанаў» — пабудаваны на аўтабіяграфічным матэрыяле і вызначаецца антываенным пафасам. Жыццё падлетка Васількі Стасевіча ў вызваленым Кіеве, напоўненае трагічнымі здарэннямі, яго вернае сяброўства з іншымі дзецьмі, якое праходзіць нямала маральных выпрабаванняў, іх мары пра змаганне супраць фашыстаў, чысціня першага кахання на фоне ваеннага гора ўраўжваюць уменнем У. Караткевіча паказаць адценні чалавечай душы і іх зрухі падчас складаных умоў. Праз успаміны галоўнага героя чытач перажывае ўсе драматычныя моманты, якія сфарміравалі яго гуманістычны светапогляд і далейшую дзейнасць.

Як бачым, пяты том склалі лепшыя мастацкія творы У. Караткевіча сярэдняй жанравай формы, зварот да якой дазваляў яму сцвердзіць сваю творчую індывідуальнасць, раскрыць цікавыя вобразы мінулага і сучаснасці, спалучыць паэтычна-рамантычны і драматычны настрой, а таксама пашырыць фармальна-стылявыя магчымасці беларускай прозы.

Рэдактарам пятага тома з'яўляецца Віктар Іўчанкаў, тэксты і каментарыі рыхтавалі Пётр Жаўняровіч і Анатоль Верабей. Як бачна, яны зрабілі ўсё магчымае, каб гэты том атрымаўся дасканалым і грунтоўным. Можна смела сказаць, што на Новы год беларуская культурная грамадскасць атрымала сапраўдны падарунак ад У. Караткевіча. А нам, падпісчыкам і чытачам, застаецца толькі пажадаць рэдактарам плённай працы і ў наступным годзе чакаць не менш прыемных сюрпрызаў з 25-томнага Збору твораў Уладзіміра Караткевіча.

**Ірына КАШУБА**

*100 год кнізе*

# Пілipaўская чытанка

Напярэдадні Каляд, у Піліпаўку, калі беларусы трымаюць строгі пост, духоўна рыхтуючыся да вялікага свята, у халодны зімовы час, калі, паводле Янкі Купалы, нават «воўк нема вые», вельмі добра чытаецца. Думаецца, гэтая заканамернасць зімовых вечароў была актуальная і для пачатку XX ст., калі сяляне не мелі клопату пра ўраджай (мінулы і наступны), на вакацыі з гарадоў і мястэчак у вёскі прыязджалі дзеці, распавядалі пра поспехі ў навучанні і тут жа дэманстравалі свае здольнасці да выразнага чытання. Для гэтай справы падыходзіла любая кніга. Але ў 1913 годзе віленская друкарня Марціна Кухты падрыхтавала для беларусаў адметны падарунак. Святы Мікола прынёс у мяху новае тэматычнае выданне — «Калядную пісанку». Як не набыць і не пачытаць каля ёлкі?

Гэтая кніга па сутнасці працягнула традыцыю «Круга беларускай народнай прасветы і культуры» ў Санкт-Пецярбургу, які напрыканцы 1903 года падрыхтаваў і нелегальна выдаў «Калядную пісанку на 1904 год». Яна была надрукавана лацінкаю і змяшчала творы Каруся Каганца, Янкі Лучыны, Цёткі, іншых пісьменнікаў. Выданне 1913 года лепш аформлена, надрукавана кірыліцай, але асноўная ідэя і місія папярэдняй «пісанкі» — пазнаёміць шырокае кола беларусаў са здабыткамі нашай літаратуры — захаваліся. Больш за тое, новы альманах вельмі своечасова і лагічна дапоўніў паліцу іншых зборнікаў, якія рыхтаваліся рэдакцыяй газеты «Наша ніва». Што да адметнасцей гэтага выдання, у адрозненне, да прыкладу, ад штогадовых «Беларускіх календароў» і «Зборнікаў «Нашай нівы», то ў іх ліку варта перш за ўсё згадаць тэматычна-святочную скіраванасць. Каляды — адно з самых любімых і шануемых беларусамі свят, таму ўжо назва кнігі гарантуе якаснасць і значнасць прапануемых твораў.

Што ж рэкамендавалі чытаць беларусам у Піліпаўку 100 гадоў таму?

Варта падкрэсліць, што ў кантэксце гэтага зборніка вершы, апавяданні, артыкулы, якія раней ужо друкаваліся на старонках «Нашай нівы», набываюць зусім новы пафас. Суседства з іншымі, такімі ж важнымі тэкстамі, а таксама часовая прымеркаванасць выдання (альманах калядны, таму ён нібыта падводзіць вынікі года і закладае план наступнага) ўздымаюць іх на ўзровень, так бы мовіць, праграмных: што маем, чаго няма і што хацелася б.

Добрымі ўводзінамі да «Каляднай пісанкі» служыць невялікі артыкул пра Францыска Скарыну. Аўтар коратка распавядае пра жыццёвы шлях нашага першадрукара, а таксама звяртае ўвагу, што праз колькі год, у 1917-м, беларусы будуць адзначаць 400-годдзе нацыянальнай літаратуры і кнігавыдання. Далейшы ж змест альманаха падкрэслівае, што ўвесь гэты час беларусы не «спалі ў шапку», а прадаўжалі справу нашага слаўнага земляка з Полацка. Асабліва ж актыўным працэс развіцця нацыянальнай літаратуры і культуры стаў менавіта ў апошнія гады.

Так, пра развіццё літаратуры ў артыкуле «За тры гады (агляд беларускай краснай пісьменнасці 1911 — 13)», працягваючы традыцыю напісання гадавых аглядаў, закладзеную яго настаўнікам і сябрам Сяргеем Палуянам, распавядае малады пісьменнік і крытык Максім Багдановіч. Ён зазначае, што «беларуская пісьменнасць расце»: замест адной выходзяць чатыры газеты, з'явілася тры зборнікі «Маладой Беларусі» (дзе друкуюцца буйнейшыя творы), выдадзена многа новых кніжак, з'явілася выдавецтва, а таксама пачала працаваць беларуская кнігарня ў Вільні. У ліку важкага аргумента Багдановіч прыводзіць тыраж беларускага календара — 20 тысяч асобнікаў. Знаёміць беларусаў малады крытык і з імёнамі самых адметных пісьменнікаў, акрэслівае яркія рысы іх стылю і тэматыку творчасці. Цяпер нават чытач, якому «пісанка» трапіла ў рукі выпадкова (што цалкам верагодна), зайшоўшы ў тую самую беларускую кнігарню (а раптам!), будзе ведаць, на якіх аўтараў звярнуць увагу.

Добрым дадаткам да тэмы якасці літаратуры і прызначэння кніг становіцца «Апокрыф» самога крытыка Максіма Багдановіча, дзе сцвярджаецца: «добра быць коласам; але шчаслі̇ў той, каму давялося быць васільком». Гэтым жа творам, як мне падаецца, падводзіцца вынік літаратурнай дыскусіі 1913 года. Да радасці Вацлава Ластоўскага, пісьменнікі і выдаўцы падтрымалі яго бок і прызналі слушнасць заўвагі і пажадання звяртаць увагу на светлы, прыгожы і радасны бок жыцця.

З кніжкамі нібыта зразумела. Амаль 400 год беларусы іх друкуюць, а цяпер пісьменства наша становіцца ўсё больш якасным, запатрабаваным, развіваецца літаратурная мова. Радасна! Ды на фоне такіх поспехаў у літаратуры




тэатральнае жыццё выглядае досыць бедна. У артыкуле «Наш тэатр» Максім Гарэцкі піша: «Беларусу дужа любіць прадстаўленне, і тэатр яму замянялі «вярцепы», хадня з мядзведзем, жоравам ды казою, хадня на Каляды ў масках, улетку карагоды, узімку ігрышчы ды шмат чаго іншага». Роля ж тэатра, на думку аўтара, не абмяжоўваецца проста забаўкай. Са сцэны можна прамаўляць гучныя рэчы, выносіць на шырокае абмеркаванне актуальныя пытанні беларускага руху. Але, на жаль, аўтары зусім не глядзяць у гэты бок, не клапоцяцца пра забеспячэнне тэатраў разнастайным і актуальным матэрыялам — п'есамі. Тым самым яны не задавальняюць спрадвечную патрэбу нашага народа ў відовішчах і, як мяркуе Гарэцкі, вельмі памыляюцца.

Яшчэ больш суму дадае наступнае апавяданне Змітрака Бядулі «На Каляды к сыну» (сёння ўжо хрэстаматыйнае). Не будзем надоўга на ім прыпыняцца, а лепш звернем увагу на досыць рэдкі тэкст. Думаю, гэта адзін з, як цяпер сказалі б, «топавых» матэрыялаў, «разынка» альманаха, які не абышоў увагай ніводзін чытач. Сумна-смешную гісторыю з уласнага жыцця распавядае нехта Аўрэйцэвіч. Апавяданне мае назву «Першы доляр». Гісторыя сумная, бо звяртае ўвагу на тое, як сам аўтар, а раней яго брат вымушаныя цяжка працаваць у амерыканскіх шахтах, каб зарабіць крыху грошай (па апісаннях шахты апавяданне нагадвае раман «Жэрміналь» Эміля Заля). Але гісторыя пра тое, як усё ж такі быў зароблены першы «доляр», больш вясёлая, чым сумная. І атрымаў аўтар яго не за працу ў шахце, а за майстэрства быць… тыграм у цырку.

Падаецца, што пры адборы тэкстаў для празаічна-публіцыстычнай часткі «пісанкі» ўкладальнікі пастараліся лепей, чым пры складанні паэтычнай. Шматжанравасць і шматтэмнасць першай відавочна супрацьпастаўляецца сумнасці і тэматычнай аднастайнасці другой. З ліку сумна-крыўдлівых вершаў Купалы, Коласа, Гаруна, Журбы і загадкавага К — а. сціпла вылучаецца твор Ф. Чарнышэвіча «Белае царства», прысвечаны прыгажосці зімовых краявідаў.

А можа, так і трэба? Можа, «пісанка» мае на мэце падштурхнуць чытача да ўласных назіранняў за прыродай узімку і складання вершаў, напісання апавяданняў? Хоць і кажуць, што паэзія хутчэй адгукаецца на асноўныя падзеі ў свеце, ды ўсё ж «галоўны тэмп» задае публіцыстыка. Таму пройдзе час — пабачым.

Варта падкрэсліць, што «Калядная пісанка 1913 год» была добрым падарункам для нашых землякоў не толькі 100 гадоў таму. Выданне можа парадаваць аматараў беларушчыны і цяпер, але ў факсімільным выглядзе. Гэты адметны праект быў ажыццёўлены сёлета ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі пры падтрымцы ААТ «Белзнешэканамбанк».

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# «Утешение» от Толкина

Создатель знаменитого «Властелина колец» умер в 1973-м, однако, судя по успеху его книг, мифы живут вечно.




Джон Рональд Руэл Толкин родился в 1892 г. в Южной Африке (Оранжевой Республике), в семье англичан. Была такая традиция: посылать сыновей становиться на ноги в колониальные страны, когда в метрополии перспектив не предвиделось. После смерти отца мать с маленьким Джоном Рональдом и его младшим братом Хилари Артуром жили в Англии (с 1896 года) — скромно, но красиво: за городом, у реки, близ дороги на Стратфорд-на-Эйвоне. Мать, приняв католичество, в том же духе воспитала детей. Кроме того, блестяще подготовила их к школе, заинтересовала изучением языков. Умерла она, к сожалению, очень рано (Джону было 12 лет), поручив детей своему духовнику, который стал заботливым и строгим опекуном.

…Юный Толкин играл в языки и с языками. Изучив основные «живые», углубился в древние (готский, древнеанглийский, древнеисландский и т. д.). Ощутив нехватку лексики, додумывал слова, обороты и речевые конструкции, составлял из них тексты, а в качестве их предыстории просто вынужден был создавать праисторию и прамифологию. Таковы биографические и филологические предпосылки «Хоббита», «Властелина колец», «Сильмариллиона», «Детей Хурина» — **«Полной Истории Средиземья в одном томе»,** с которой может теперь ознакомиться русскоязычный читатель. Конечно, если наберётся терпения: книга содержит около 1500 страниц.

Вместо того чтобы «анализировать» сюжет всемирно известных произведений, попробуем понять философские истоки их замысла. Они тесно связаны со взглядами Толкина на современное общество. В культурном багаже, накопленном нашей цивилизацией, он видит и плюсы, и минусы. Писатель уверен, что одной из основных проблем XX столетия является пресыщенность искусством, культурой, действительностью в целом. Пресыщенность ведёт к явлению, которое Толкин назвал «присвоением»: «Всё, что стало банальным или слишком хорошо знакомым, мы некогда мысленно присвоили». Освободиться от «собственнических притязаний» возможно, лишь восстановив душевное равновесие. Как? Посредством активизации воображения. «Пусть нас заново поразят (но не ослепят) синий, жёлтый, красный цвета... Восстановить душевное равновесие хорошо помогают волшебные сказки. И только любовь к сказкам может сохранить в нас или вернуть нам детство, то есть детский взгляд на мир».

Творчество Толкина стало следствием такой «сверхзадачи». Вчитываясь в саги и хроники, эпические песни и предания, он стремился различить в них, между строк, облик некоего сказочно-мифологического целого, чтобы затем, подключив чутьё и воображение, воссоздать его современным языком, современными словами, «слив в одно широкое и ясное лазорье мировидение, присущее англосаксонскому, кельтскому, исландскому, норвежскому, финскому эпосам».

Оригинальность этого замысла мы оценим вполне, если вспомним, что относится он ко времени Первой мировой войны. Толкин явно не считал себя представителем «потерянного поколения», хотя война не прошла мимо него. В составе батальона Ланкаширских стрелков он участвовал в кровопролитных боях на территории Франции, чудом уцелел в «мясорубке» на Сомме. Герой «Властелина колец» Сэм Скромби, признавался автор, «целиком срисован с тех рядовых войны 14-го года, моих сотоварищей, до которых мне по человеческому счету было куда как далеко».

Одно из наиболее часто употреблявшихся Толкином понятий, трактовавших его творчество, — «утешение». Оно адресовалось и «потерянному поколению», и, позднее, современникам Второй мировой войны, и не может утратить значения в нашу эпоху, когда всякого рода «присвоение-потребительство», как кажется, достигло пика.

**Лея ХАШИМБА**

# Что наша жизнь?..




Андрей Левицкий и Алексей Бобл представляют проект **«[Я — СТАЛКЕР] Осознание».** На этот раз фоном сталкерского мира становится Зона Отчуждения — гигантское, незримо отравленное Чернобыльское урочище.

Особенность этой книги в том, что она совмещает сталкерский и виртуальный миры, и совмещает мастерски. Талант создателей романа, думается, и в том, что острый сюжет не заслоняет связанную с ним проблематику. Что такое феномен сталкерства? Кто такой сталкер? Что делает человека сталкером и, за нехваткой и отдалённостью реальных соответствующих пространств, гонит его в мир виртуального сталкерства? Каковы плюсы и минусы этого мутированного целого? Кто-то удивится, что речь вообще зашла о плюсах, но очевидно, что виртуальное пространство для людей с ограниченными физическими возможностями — один из способов ощутить полноценную и полнокровную... ну да, жизнь.

Еще одна особенность книги в том, что она повествует о виртуальности, так сказать, второго поколения (т. е. перед нами ещё и фантастический роман). Её можно не только видеть, в ней участвовать и её преобразовывать, но и ощущать на всех сенсорных уровнях, для чего игроки обзаводятся специальными очень дорогими «костюмами-оболочками». Игра захватывает безумно, так что необычайно востребованными становятся и хакеры нового поколения — те, кто предлагает игрокам разного рода приспособления, позволяющие получить в игре преимущества. С ними жёстко борются представители официальных производителей онлайн-оборудования и обмундирования. Именно такая интрига лежит в основе сюжета «Осознания».

Инвалид Егор Атилов под ником Атила — сталкер-хакер — пытается сбыть клиенту прямо в игре уникальную незаметную Линзу-обзор, но клиент оказывается подставным лицом. Удастся ли Атиле вовремя вернуться в реальность или виртуальные приключения окончатся для него вполне реальными сверхнеприятностями?..

**Татьяна СТУДЕНКО**

# Классика жанра




Автор боевика **«Спецназовец. За безупречную службу»** Андрей Воронин известен читателям по нашумевшим в своё время романам «Комбат», «Панкрат», «Атаман», «Демон войны» и другим. Сюжет нового проекта разворачивается в российском городке Мокшанске. Здесь происходит рейдерский захват местного объединения «Точмаш», головной офис которого находится в Москве. Задержан директор филиала, взяты в заложники его жена и дочь. Интригу составляют причины и цели захвата. Классический сюжет классического боевика в классическом исполнении — приятный подарок к новогодним праздникам для поклонников остросюжетной литературы.

**Лея ХАШИМБА**

# Ближе к телу. И к делу!

Что ближе к телу и делу в период новогодних праздников? Конечно, вкусная еда! Если у вас нет ещё универсального кулинарного пособия, стоит обратить внимание на **«Аэрогриль и блюда из духовки» —** оно идеально по целому ряду причин.




Первая, очевидная, — оформление. Как вы записываете рецепты, которыми с вами делится кто-то? Слева в столбик — ингредиенты, справа — последовательность «операций» с ними. Где-то вкрапляете информацию о количестве порций, времени приготовления, температуре духовки. Именно так — наглядно и доступно — преподнесено 60 иллюстрированных рецептов первых, вторых, закусочных и десертных блюд в этой книге.

Другое основание её пользы и универсальности — диетичность блюд, приготовляемых на аэрогриле или в духовке. Они готовятся быстро, значит, позволяют сохранить в продуктах максимум питательных веществ, а кроме того, не требуют много жира (если требуют вообще). И, конечно, запечённые блюда — самое настоящее произведение искусства с точки зрения внешнего вида.

В Новый год, как и в обычные дни, мы часто стоим перед одним из самых популярных человеческих вопросов: наряду со «Что делать?», «Кто виноват?», «Быть или не быть?» человечество так же часто (гораздо чаще!) спрашивает себя: «Что приготовить?» И вот — идеи! К новогоднему столу наверняка подойдет запеканка из индейки с помидорами, телятина с чесноком и специями, куриные окорочка с апельсинами и картофелем, стейк из лосося под брусничным соусом... Для повседневного меню — запеканка из макарон с овощами, отбивные под грибным соусом, запечённые баклажаны с помидорами и сыром... А идеи оформления стандартных и, кажется, приевшихся блюд — сосиски с сыром и беконом — это надо видеть!.. Можно, наконец, научиться готовить знаменитые классические блюда вроде курника и расстегаев.

С Новым годом, гурманы!

**Анна СКОЛЬЦОВА**





# Вандроўкі не аднаго Міколкі

Павел Саковіч добра вядомы як празаік, гумарыст, сатырык, а да ўсяго — і арыгінальны дзіцячы пісьменнік. Прытым у розных жанрах творца выступае аднолькава паспяхова. Што гэта і сапраўды так, пераконвае яго новая кніга «Вандроўкі машыніста Міколкі», выпушчаная выдавецтвам «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі». Асноўнае месца тут займае казачная аповесць, што і дала назву кнізе. Мімволі ўзнікае асацыяцыя са знакамітай аповесцю народнага пісьменніка Беларусі Міхася Лынькова «Міколка-паравоз». Згадванне гэтага вядомага твора беларускай дзіцячай літаратуры, як высветліцца, невыпадковае. Аднак Міколка-паравоз з'явіцца крыху пазней, а пакуль…




Пачатак аповесці лаканічны і пададзены ў духу традыцыйнай народнай казкі: «Жыла-была адна сям'я: бацька, маці, сынок Пеця і бабуля». Але паколькі П. Саковіч напісаў не проста казачную аповесць, а сучасную, то сям'я, пра якую ён расказвае, як і шмат якія сучасныя сем'і, згаданымі насельнікамі не абмяжоўваецца: «А яшчэ ў іх доме жылі хамяк, вавёрка і папугай. У акварыуме плавалі залатыя рыбкі. Гэтых «малодшых братоў» Пеця атрымаў у падарунак ад бацькоў». Ды не толькі мама з татам клапаціліся пра яго: «А нядаўна на чарговы дзень нараджэння бабуля прынесла ўнуку дзвюх белых мышак». Неўзабаве ж з'явілася яшчэ адна нагода для падарунка: «хлопчык паспяхова закончыў другі клас». Пеця доўга не думаў: папрасіў дзіцячую чыгунку. Бацька ягоны працаваў машыністам. Дый жыла іхняя сям'я недалёка ад станцыі.

Падарунак спадабаўся не толькі Пецю, а і хамяку, вавёрцы, папугаю і мышкам... Але радасць апынулася нядоўгай, бо хлопчык неўзабаве паехаў з бацькамі да мора. Усе вельмі сумавалі без сябра. А яшчэ хацелася пакатацца. Толькі як гэта зрабіць, калі няма «машыніста»?..

З гэтага моманту, уласна кажучы, і пачынаецца асноўнае дзеянне ў казачнай аповесці. Думаюць-гадаюць сябры, як ім быць, заклапочана азіраюцца, «нібыта машыніст знаходзіцца недзе побач». І тут адбылося неверагоднае: «Раптам у цішыні пачуўся шолах. Адна з кніжак на паліцы раскрылася, і прагучаў чыйсці вясёлы голас:

— Я магу быць машыністам!»

Аказваецца, гэта з кніжкі вылез… Так, сам Міколка-паравоз! Удалы сюжэтны паварот у творы, нічога не скажаш. П. Саковіч аказаўся добрым знаўцам дзіцячай псіхалогіі. Каб заахвоціць хлопчыкаў і дзяўчынак да знаёмства з гэтай гісторыяй, абавязкова неабходна знайсці нешта такое, што б абавязкова заінтрыгавала іх. Міколка як добры знаёмы вельмі да месца ў ролі галоўнага героя гэтай казачнай аповесці. Хоць не лішнім было б невялічкае ўдакладненне, што ён з вядомага твора М. Лынькова. Магчыма, хтосьці з дзяцей і не знаёмы пакуль з аповесцю «Міколка-паравоз».

Міколка, пагадзіўшыся стаць машыністам, узяў сабе ў памочнікі хамяка Хомку, і сябры пачалі рыхтавацца да падарожжа. Толькі зноў неспадзеўка з'явілася: «А хто рэйкі пракладваць будзе?» Ды Міколка здагадлівым аказаўся і паклікаў на падмогу... залатых рыбак. Самая прыгожая з іх і падказала выйсце з гэтага становішча. Паслухаўся яе Міколка. Толькі прамовіў: «Чыгунка, чыгунка, будзь нам падарункам. Сцяліся прад намі гладкімі пуцямі!», як «рэйкі, якія ляжалі на падлозе і ўтваралі круг, раптам пачалі падымацца, пераўтварыліся ў кола, падобнае на вавёрчына. Як толькі паравоз крануўся з месца, яно павольна пакацілася наперад, а з ім і цягнік».

Цудоўнае падарожжа пачалося. Такое незвычайнае, якое можна напаткаць толькі, канечне, у казцы. У рэшце рэшт П. Саковіч і браўся за пяро з намерам упэўніць хлопчыкаў і дзяўчынак у тым, што дзівосы можна напаткаць не толькі седзячы за камп'ютарам, але і ў захапляльнай кніжцы.

Падарожнікі трапляюць на «смачныя» станцыі, сярод якіх кожны сустракае сабе па гусце: Арэха-Жалудовая, Маркоўная, станцыя «Марожанае». А яшчэ трапляюць у краіну Гномландыю, дзе ад саміх гномаў даведваюцца пра іх гісторыю, перамагаюць гномакрадаў і вызваляюць гномаў, якія трапілі ў палон.

Адбываецца яшчэ шмат такога, што магчыма толькі ў таленавіта напісанай казцы, — «Вандроўкі машыніста Міколкі» належаць акурат да такіх твораў! Змешчаны ў кніжцы арыгінальныя (не менш, чым аповесць!), займальныя казкі, адны ўжо назвы якіх — «Цып-цып і Жоўцік», «Ком-блін і вожык», «Скразняк і Наста» — так і «падштурхоўваюць» да хутчэйшага знаёмства з творамі. Дый раздзел «Вершаваны каляндар» дае нямала пазнавальнай інфармацыі пра кожны з месяцаў года.

А яшчэ ў кнізе змешчаны загадкі, якія напісаны так, што пашыраюць кругагляд дзяцей, вучаць іх назіральнасці, спрыяюць развіццю вобразнага мыслення, а разам з іншымі творамі кнігі запрашаюць у вандроўку ў свет цудаў.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# Дзе дымок размаўляе з комінам

Казкі — душа народа. І калі вам замінецца адкрыць для сябе нейкі народ, пачытайце ягоныя казкі. Наіўныя і безабаронныя, шчырыя і добрыя, яны даверліва ўпускаюць кожнага ў свой свет. У казках народ падсвядома стварае ўласны вобраз, непаўторны і непадробны, як... адбіткі пальцаў чалавека. Адлюстроўвае маральныя арыенціры, шкалу каштоўнасцей, бачанне свету і ўсведамленне свайго месца ў ім. Кожнае з пакаленняў атрымлівала гэты «класічны багаж», дапаўняючы ўласнай творчасцю. І хоць сучасныя беларускія казкі — аўтарскія, аднак каларыт народа ўсё ж моцна адбіваецца ў іх.

І гэта цалкам заканамерна і апраўдана. Бо, нягледзячы ні на што, хочам мы ці не, беларуская душа жыве ў нас і будзе жыць у нашых нашчадках. Так сталася і з гэтай кнігаю. Я маю на ўвазе «Куды блінок закаціўся», зборнік аўтарскіх казак ва ўкладанні Вольгі Аляксеевай з новай серыі «Казачны куфэрак» РВУ Выдавецкі дом «Звязда».

Пачнём з таго, што кніга складзена гэткім чынам, каб задаволіць густ нават самага патрабавальнага дзіцёнка. Ёсць тут казкі і складаныя, з багатай, «карункавай» моваю, з выразным гістарычным фонам, і працейшыя, адрасаваныя дзеткам малодшага ўзросту.

Цікавыя і займальныя гісторыі з такімі рознымі жывымі і няўрымслівымі героямі дыхаюць і рознай эмацыянальнай атмасферай, нясуць розныя сэнсавыя пасылы аўтараў.

Так, гісторыі Генадзя Аўласенкі можна назваць казкамі-легендамі, Алесь Бадак вучыць любіць родную зямлю, казкі Раісы Баравіковай напоўнены лірычнай пяшчотай, а Анатоль Бензярук, без сумневу, палоніць усіх дасціпнасцю і гумарам, разняволенай мовай і займальнасцю сюжэта, пацешаць кожнага малога і вершы Расціслава Бензерука. Спрычынімся да турбот чароўных і непараўнальных герояў Віктара Гардзея, паслухаем павучальныя гісторыі Анатоля Зэкава і павандруем разам з разважлівым Шубуршуном Алеся Карлюкевіча. Казка Валерыя Кастручына напоўненая трапяткой і ціхай музыкай зямлі. Беларускі волат Уладзіміра Мазго, зубрадзінец, вартуе свой народ і край ад воўчае навалы, а ў незвычайнай гісторыі Галіны Пшонік мы трапім у дзіўны і загадкавы горад Хлуск.

Калі ж падрабязней... Да казкаразынак, на маю думку, можна аднесці «Кірмаш у Смургонях» Пятра Васючэнкі. Два пацешныя шалапуты-паны бясконца трапляюць у самыя нечаканыя мітрэнгі, але праз адсутнасць дастатковай кемлівасці праяўляюцца ў іх няўцямлівымі недарэкамі, тым самым выклікаючы ў чытача шчыры смех і непадробную цікаўнасць да незвычайных прыгод наіўных, але ўсё ж мілых і прывабных герояў.

Адным сказам апісваецца і сам кірмаш: «На рынку народу, як заўжды, што селядцоў у бочцы, і сядзельцаў больш, чым пакупнікоў, і кожны патрабуе: «Купі смалы гарачай! Купі чорта лысага! Купі дзірку ад бубліка! Купі леташні снег! Купі, купі, купі!» І адразу апынаешся ў віры кірмашовага натоўпу, слухаеш ягоную гаману, адчуваеш яго атмасферу. Аўтару ўдалося адлюстраваць гістарычныя, народны, больш за тое, нацыянальны каларыт. Пятро Васючэнка супастаўляе мінулае і сучаснасць («Зорны ровар»), злучаючы іх у адно і гуляючы на гэтым, іскрыць дасціпным народным гумарам, тонка і ненавязліва прапаноўвае мараль. З гэтай казкаю не засумуюць не толькі дзеці, але і дарослыя.

Сучаснасць і прырода, нязменныя вечныя каштоўнасці і свет новых тэхналогій высвятляюць адносіны між сабой у казцы Валерыя Кастручына «Падарунак дзікай ружы», пададзенай у перакладзе Вольгі Аляксеевай. Ці не развучыліся мы, звыклыя да штодзённай мітусні і клопатаў, да жыцця ў камфортных умовах гарадскога асяроддзя, слухаць голас прыроды, чуць музыку яе кветак і траў ці хаця б проста заўважаць іх пад нагамі. Тое, што цешыла сэрца нашых продкаў, ці не будзе пустым гукам для нашых нашчадкаў? Казка Валерыя Кастручына спрэс напоўнена паэзіяй і вытанчанай прыгажосцю, што дапаўняецца цікавым зместам, паглыбленасцю і завершанасцю думкі.




Ну і, канечне, «Куды блінок закаціўся» Анатоля Бензерука. Караценькая казка-гумарэска, з якой нельга выкінуць і слова, каб не змарнаваць яе. У творы моцна адлюстроўваецца дух народа, яго мікрасвет, інструменты і стыль гумару. Калі б не стаяла імя аўтара, можна было б падумаць, што гэта народная казка ў таленавітай апрацоўцы. Гэта тое, з чаго будуць смяяцца ўсе беларусы, якія б розныя ні былі.

Думаецца, дзеці застануцца задаволеныя творчасцю Марыі Каратаевай, мастака выдання. Яе героі добрыя і наіўныя, разважлівыя і кемлівыя, спагадлівыя і шчырыя, як дзеці, якія будуць чытаць гэтую кніжку, разглядаць малюнкі і пазнаваць у іх сябе. Чытач трапляе ў яскравы і фантастычны свет штохвілінных цудаў, дзе само па сабе зразумела: сняжынка лунае над зямлёю для таго, каб паслухаць гісторыю пра Соф'ю Гальшанскую, беленькі дымок размаўляе з комінам, а дзікая ружа дорыць хлопчыку таямнічую музыку кветак.

Аўтарам і ўкладальніцы застаецца толькі падзякаваць за добрую працу, пажадаць плёну, натхнення і, канечне, новых і новых кніг.

**Марыся МІЛЮЦЬ**

**Марыя ДУБРОЎСКАЯ, радыёжурналістка:**

— Кожны год у снежні міжволі ўзгадваеш радкі з песні: «А сегодня что для завтра сделал я?» — і падсумоўваеш спіс уласных «дасягненняў». Нібыта Дзед Мароз прыйдзе 31-га і сурова запытаецца, ці варты ты падарунка і шчаслівага наступнага года. Вось і сядзіш напярэдадні з алоўкам, каб занатаваць самае важкае са здзейсненага за 2013-ы. Здаецца, «мой» год (змяіны) прынёс прадстаўніку свайго знака самае каштоўнае, што толькі можа быць: новыя знаёмствы, адданых сяброў і крыху творчай самарэалізацыі. Сёлета давялося перамясціцца з групы «былыя студэнты» ў ганаровы шэраг «калегі». І выступіць на прэзентацыі кнігі свайго любімага Настаўніка і нязменнага навуковага кіраўніка, літаратуразнаўцы, пісьменніка Пятра Васючэнкі. Цяпер як ніколі хочацца адпавядаць званню «калега», «журналіст», каб даць хоць якую магчымасць Настаўніку з гонарам прызнаць далучанасць да твайго творчага росту.

Своеасаблівай падзеяй года стала публікацыя эсэ «Alter ipse: «на мяжы няпэўнай сноў і слоў» [Ігар + Арцём]» у літаратурна-мастацкім альманаху «ТЭКСТЫ». Ідэя настраёвага, эмацыянальнага, літаратурнага, тэматычнага падабенства лірыкі двух абсалютна розных паэтаў Ігара Севяраніна і Арцёма Кавалеўскага выспела на маім трэцім курсе, а тэкстава афармілася і адбылася на паперы толькі сёлета.

Яшчэ вялікім шчасцем стала магчымасць супрацоўніцтва з блізкімі па духу выданнямі: гродзенскім маладзёжным праваслаўным часопісам «Поколение» і маладзёжным часопісам «Маладосць». Гэтая праца падарыла мне цікавыя і дарагія знаёмствы з графікам Паўлам Татарнікавым, настаяцелем храма Успення Прасвятой Багародзіцы (Капцёўка, Гродна), стваральнікам часопіса «Поколение» айцом Антоніем (Семілетам), акцёрамі Аляксандрам Ждановічам і Васіліем Грачухіным, маладымі пісьменнікамі Кацярынай Зыкавай, Кірылам Дубоўскім, Алесем Емяльянавым і многімі іншымі.

У любое надвор'е саграваe тое, што рэдакцыя газеты «ЛіМ» не толькі забяспечыць культурнымі ведамі, свежай інфармацыяй, а галоўнае — сяброўскай, шчырай атмасферай разам з кубкам гарачай гарбаты. За што велізарная падзяка любімаму галоўнаму рэдактару! У 2014-м мне вельмі хочацца, каб кожны знайшоў занятак, што прынесці бы ў першую чаргу эмацыянальнае задавальненне, каб побач былі адданыя, светлыя людзі, якія вераць у лепшае і тым самым ствараюць навокал сонечнасць і добразычлівасць.

# Яе «Крыж»



**Ці ведаеце вы, што такое дасканаласць? Гэта — новы беларускі прыватны тэатр, які адкрыўся намаганнямі рэжысёра Наталлі-Разаліі Родзінай. Як узнікла ідэя стварыць уласны тэатр? Чаму ён атрымаў менавіта такую назву? Пра гэтае і многае іншае наш карэспандэнт даведалася ў гутарцы з яго стваральніцай.**

— Ідэя ўзнікла пятнаццаць гадоў таму, і адразу прыйшла назва «Дасканаласць». Адкрыліся мы 11 лістапада спектаклем «Крыж», але фактычна адкрыццё «здарылася» раней: яшчэ пяць гадоў таму перад Вялікаднем у Касцёле Сымона і Алены гэты спектакль быў паказаны ўпершыню.

«Дасканаласць» — вельмі ёмістая назва, адказная. Абавязвае да многага і мяне, і тых людзей, якія будуць несці гэту нялёгкую, але ўдзячную місію. У Бібліі ёсць наступныя словы Ісуса Хрыста: «...будзьце дасканалы, як дасканалы Айцец ваш Нябесны». Калі існуе такое пасланне, значыць, мы павінны імкнуцца дасягнуць гэтага. Кожны ўдзельнік тэатра ўкладвае душу ў сваю працу, час, сілы, ідэю, а ўсё астатняе прапануецца з вышыні Богам. Уся паўната, уся дасканаласць — у Яго.

**— Чаму менавіта цяпер вы рэалізавалі ідэю?**

— Нейкія рэчы я ўбачыла адразу, нейкія напрацоўвала гадамі. Перш чым пачаць рабіць першыя крокі ў прафесіі, трэба было закончыць вучобу ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Лічу, што мы нават паспяшаліся адкрыцца. Трэба было яшчэ набрацца досведу, але не давала спакою ідэя. І, вядома, драматургія Аляксея Дударава (спектакль «Крыж»). Аднак стварыць тэатр без прафесійнай базы, натуральна, не атрымалася б.

**— З чаго яна складаецца?**

— Калі да мяне прыйшла ідэя тэатра, я нават не вучылася ў БДАМ, мела зусім іншую прафесію. Але захапленне існавала яшчэ са школьных гадоў. Агонь усё больш разгараўся! *(Смяецца.)* У Акадэміі мастацтваў былі студэнцкія працы — мая тэатральная скарбонка пачала запаўняцца. Абарону дыплома я рабіла ў Касцёле Сымона і Алены спектаклем «Крыж». Потым ставіла «Графіню Шардэн» у Гродзенскім абласным драматычным тэатры, «Дзюймовачку» — у Тэатры юнага гледача, «Шэрыбрэндзі, анёл мой...» — у РТБД. Невялікі спіс спектакляў для паўнавартаснага мастацкага кіраўніцтва...

**— Вам цікава было супрацоўнічаць з дзяржаўнымі тэатрамі?**

— Вельмі! Гродзенскі драматычны даў мне вялікі досвед. Пастаноўка стваралася адразу пасля заканчэння вучобы ў БДАМ, удзел бралі васямнаццаць акцёраў. Спектакль меў даволі цікавую форму: у стылі танца мадэрн. Трупа была гатова да эксперымента і наватарства. Сёння я вельмі задаволена тым, што тэатр «Дасканаласць» адкрыўся не адразу — за плячыма ў мяне назапасіўся карысны багаж! Планаў і матэрыялаў шмат. Наколькі яны будуць здзяйсняцца, сказаць складана, бо ва ўласным тэатры часта ўзнікае праблема фінансавання.

**— Важна, каб добра прадаваліся квіткі?**

— Гэта постфактум, калі спектакль ужо гатовы. Фінансаванне пастаноўкі — ганарар і рэжысёра, і мастака, і акцёраў. Добра, калі ў адной асобе закладзена адразу некалькі здольнасцей. Вось, напрыклад, я рэжысёр, да таго ж сама музычна афармляю спектаклі, стаўлю пластыку і харэаграфію. Магу зрабіць рэквізіт, касцюмы і на гэтым сэканоміць. Але ж часам здараюцца і непад'ёмныя выдаткі для тэатра.

Спектакль «Крыж» — студэнцкая, акадэмічная работа, для якой усё куплялася і збіралася паступова. А дзе ўзяць сродкі на іншыя спектаклі? Дапамогуць выручаныя з «Крыжа» квіткі? Цяжка сказаць! Гэта камерны спектакль, не для вялікай аўдыторыі. Ды і завоблачныя цэны на квіткі не паставіць. Людзі павінны мець магчымасць прыйсці ў наш тэатр…

**— А спансіраванне?**

— Тэатр прыватны, створаны нядаўна, пра яго мала хто ведае. Пакуль мы паказалі толькі адзін спектакль, таму пра дапамогу казаць рана. Калі ж адгукнуцца мецэнаты ці падтрымаюць дзяржструктуры, будзем вельмі ўдзячныя.

**— Прыватных тэатраў у нас не так шмат...**

— Але шмат таленавітых рэжысёраў. І я ўпэўнена, што кожны з іх у думках выношвае ўласны тэатр, дзе зможа цалкам творча ўвасобіць свае ідэі. Калі ў дзяржтэатры яго спектакль па розных прычынах могуць не прыняць, то дзеля ўласнай справы ён зробіць усё. Галоўнае — энтузіязм!

**— А ў вашым тэатры ёсць такі энтузіязм?**

— Безумоўна! Мы кажам: «Нашы акцёры». Вядома, яны працуюць у іншых тэатрах, і не я «гадавала» іх з самага пачатку. Прапанаваны матэрыял падштурхнуў іх да ўдзелу ў працы.

**— Як вы падбіраеце акцёраў?**

— Дапамагаюць сувязі яшчэ са студэнцкіх часоў. Чытаеш драматургію і, накшталт таго, як мадэльер прымярае сукенку на мадэль, «апранаеш» ролю на акцёра. А пасля чакаеш, як ён выканае пастаўленыя табой задачы, ці стане больш інтэнсіўным. Праца ўзбагачае кожнага з нас.

**— Але ёсць яшчэ і пытанне памяшкання…**

— Гэта заўсёды дастаткова складана. Калі я абараняла дыпломную пастаноўку, то, натуральна, дапамагалі сцены Акадэміі мастацтваў. Калі Касцёл Сымона і Алены прапанаваў паставіць спектакль на «Вербны кірмаш», то мы рэпеціравалі ў храме «Усіх Смуткуючых Радасць»: там ёсць невялікая зала, зімовы сад. Цяпер дапамог Палац мастацтва. Калі арандуеш нейкае памяшканне, то, натуральна, за яго трэба плаціць.

**— Як вы плануеце прыцягваць гледачоў?**

— Вядома, сваімі сіламі. У нас ёсць своеасаблівыя «піяршчыкі»: Алесь Сухадолаў, Алена Чарняўская і інш. Дазволіць сабе дарагую рэкламу мы не можам. У асноўным распаўсюджваем інфармацыю праз інтэрнэт. Нашыя спектаклі павінны быць цікавымі, каб гледачы і сваім знаёмым раілі тэатр «Дасканаласць». Наш прадукт — гэта наша рэклама. Тэатр створаны для шырокага кола людзей. Узроставая група нашага прэм'ернага спектакля — ад пятнаццаці і вышэй.

**— Якія пастаноўкі плануеце?**

— Мне вельмі падабаецца творчасць Льва Талстога, таму ёсць жаданне паказаць «Ганну Карэніну», «Уваскрасенне». Акрамя таго хочацца паставіць спектаклі з вялікім складам акцёраў: «Павел Першы», «Царэвіч Аляксей» Дзмітрыя Мережкоўскага (гэта мара яшчэ з Акадэміі). Цікавяць таксама Эрнэст Хемінгуэй, Іён Друцэ і іншыя... Яшчэ аднавіла б «Шэрыбрэндзі, анёл мой...» нашага беларускага пісьменніка Юрыя Станкевіча. У творы ўздымаюцца сур'ёзныя праблемы наркаманіі, СНІДу, барацьбы за жыццё. Складаная тэматыка, але цікавы аўтарскі почырк. Хацелася б, каб у 1/3 нашага рэпертуару складалі творы беларускіх аўтараў, 2/3 — замежная і руская класіка.

**— На ваш погляд, чаго цяпер бракуе беларускаму прыватнаму тэатру?**

— Грошай. Вельмі шмат энтузіязму, агню, праектаў, ідэй. Усе пытанні ўпіраюцца ў фінансы. Магчыма, яшчэ патрэбна дапамога з боку адміністравання. Але гэта вырашальна. А вось дзе ўзяць грошы, каб стварыць спектакль і прарэкламаваць яго шматгранна? Дзе ўзяць грошы, каб выехаць са спектаклямі на гастролі і займець, так бы мовіць, сваю пляцоўку...

**— Якім вы бачыце свой будучы дасканалы тэатр?**

— Перш за ўсё, дасканалы тэатр — гэта калі я гляджу спектакль і ён змяняе мяне саму знутры. А калі не, то ён не зменіць і гледача.

**Паліна ПЛАТАВА**

**Даведка «ЛіМа»**

*22 снежня ў Рэспубліканскай мастацкай галерэі «Палац мастацтва» адбудзецца прэм'ерны паказ спектакля «Крыж» новага прыватнага тэатра «Дасканаласць». Пастаноўка зроблена па п'есе класіка беларускай драматургіі Аляксея Дударава.*

# Дэбют на «Дэбюце»

**Беларускі драматург Дзмітрый Багаслаўскі стаў лаўрэатам расійскай Незалежнай літаратурнай прэміі «Дэбют».**

Вынікі прэміі традыцыйна падвялі ў Маскве ў снежні. Журы, старшынёй якога гэтым разам быў Павел Санаеў (аўтар аповесці «Пахавайце мяне за плінтусам»), выбрала лепшых маладых літаратараў у шасці намінацыях: «Буйная проза», «Малая проза», «Паэзія», «Драматургія», «Эсэістыка» і «Фантастыка». Лаўрэатам у намінацыі «Драматургія» стаў беларускі аўтар Дзмітрый Багаслаўскі. Прэмія прысуджана за п'есы «Знешнія пабочныя» і «Дзеўкі». Дарэчы, у мінулым годзе Дзмітрый Багаслаўскі таксама адзначыўся на «Дэбюце», увайшоўшы ў шорт-ліст прэміі з п'есамі «Любоў людзей» і «Ціхі шэпат сыходзячых крокаў».

«Дэбют» — адна з самых прэстыжных прэмій для маладых літаратараў, якая створана ў 2000 годзе Міжнародным фондам «Пакаленне». Сёлета яна была ўручана ў 14-ы раз. Нагадаем, што ў намінацыі «Драматургія» яе ў розныя гады атрымалі вядомыя расійскія драматургі Васіль Сігараў і Яраслава Пуліновіч.

Імя Дзмітрыя Багаслаўскага таксама вядомае расійскім тэатралам. Драматург неаднаразова ўваходзіў у шорт-лісты самых прэстыжных конкурсаў: «Еўразія», «Любімаўка», «Конкурс конкурсаў» расійскай Нацыянальнай прэміі «Залатая Маска». Шмат увагі прыцягнула і пастаноўка яго п'есы «Любоў людзей» на малой сцэне Маскоўскага акадэмічнага тэатра імя У. Маякоўскага (рэжысёр Мікіта Кобелеў).

Паглядзець спектаклі па п'есах Дзмітрыя Багаслаўскага ў Мінску можна ў Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі, дзе кыргызскі рэжысёр Шаміль Дыйканбаеў паставіў спектакль «Ціхі шэпат сыходзячых крокаў» (сумесны праект з Міжнароднай канфедэрацыяй тэатральных саюзаў). А яшчэ — у Новым драматычным тэатры, дзе дзякуючы Цэнтру візуальных і выканаўчых мастацтваў і фестывалю «ТЕАРТ» час ад часу ідзе дакументальны спектакль «PATRIS», створаны Студыяй альтэрнатыўнай драмы, адным з арганізатараў якой з'яўляецца Дзмітрый Багаслаўскі.

**Алена ГАЛАЙ**



**Вячаслаў Калацэй, загадчык кафедры этналогіі і фальклору БДУКіМ, лідар гурта «Ветах»:**

— 2013 год для мяне асабіста і для спраў, у арбіту якіх я «ўкручаны» (этнамастацкая адукацыя, навуковы аналіз смыковай і дударскай музыкі, фальклорна-фестывальны рух), цалкам адпавядаў прагнозам Усходняга календара: відавочная плыннасць, няспынная змена падзей, але выключна ў адпаведнасці са схаванымі касмічна-глыбокімі агульнымі вектарамі, прыярытэтамі і працэсамі жыцця навакολля.

Ужо веснавая канферэнцыя ўніверсітэта культуры і мастацтваў «Аўтэнтычны фальклор» сёлета была адзначана еўрапейскай сенсацыяй — уводзінамі ў навуковы зварот відэазапісу дуэта аўтэнтычных падзвінскіх дудароў 1939 года. І мне прыемна, што гонар гэтай падзеі з рэктарам Інстытута культуры Беларусі Канстанцінам Рэмішэўскім падзяляю я.

13 чэрвеня, на Ушэсце, па месяцовым календары ў вёсках Веткаўскага раёна адбылося Ваджэнне і пахаванне Стралы. Культ продкаў і ўрадлівасці, які ўшаноўваецца яго абрадавымі дзеяннямі, скіраваны на духоўнае і фізічнае здароўе народа і падтрыманне раўнавагі і парадку ў свеце. Сёлета апранутыя ў непаўторна прыгожыя неглыбскія строі выкладчыкі і студэнткі кафедры этналогіі і фальклору БДУКіМ аказалі даволі моцную і яскную падтрымку шаноўным мясцовым выканальніцам абраду.

Высветліць пытанне пра асаблівасці стаўлення да ўласнай этнакультуры літоўцаў і беларусаў дапамагло наведванне ў верасні двух фэстаў: «Вяртанне да вытокаў» на Гродзеншчыне і «Tautų mugė» ў Вільнюсе. На маштабны экатурыстычна-камерцыйны віленскі «Кірмаш нацый» быў запрошаны «Ветах», які мы з Таццянай Пладуновай стварылі яшчэ ў 1997 годзе.

Пасля кастрычніцкіх конкурсаў «Як на рэчцы было на Фантанцы» і «Містар ЭТНА» я павіншаваў прызёраў — сваіх студэнтаў — і адзначыў, што іх узнагароды абумоўленыя арыенцірам на каранёвыя формы культуры Беларусі, інтэграваным у вучэбны працэс. Удзельнікамі конкурсу ў Санкт-Пецярбургу былі прадстаўнікі рэгіянальных школ рускага песеннага мастацтва, майстры фальклору з Марый Эл, Удмуртыі, піцерскія фальклорныя калектывы. Аднак Гран-пры звёз у Мінск (упершыню ў гісторыі конкурсу) ансамбль «Талака» БДУКіМ. На ўльянаўскім конкурсе наш зямляк атрымаў другое месца — «містар Творчасць».

Варта адзначыць, што канцэптуальныя асновы, закладзеныя калектывам кафедры ў этнакультурнае выхаванне і этнамастацкую адукацыю Беларусі на працягу апошніх год, прыносяць адчувальныя плён. І калі ў пачатку стагоддзя нашыя дасягненні адзначаліся знешнімі структурамі (дыплом Нацыянальнай камісіі па справах ЮНЕСКА за «Захаванне нематэрыяльнай культурнай спадчыны» для спецыялізацыі «Этнафоназнаўства»), то цяпер і новы рэктар універсітэта Юрый Бондар нам шмат дапамагае. Таму не дзіва, што ўвесь выпуск гэтай спецыялізацыі 2013 года — магістранты Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, а яе выпускнік Вячаслаў Красулін — ужо аспірант БДУКіМ.

І ўзімку, дарэчы, навуковыя справы кафедры, якая сёлета адзначыла 10-годдзе, не «перакрываюць» творчыя: 11 — 14 снежня «Талаку» запрасілі ў Рыгу, на імпрэзу «Laiksne — 20 gadu jubileja» — фестываль, прысвечаны заснавальнікам фальклорнага руху Латвіі, адкуль наш гурт (згодна з акрэсленай сёлета традыцыяй) прывёз дыплом за першае месца.

# Кнігі ад Настаўніка

**Пасля смерці Анатоля Вялюгіна ў 1994 годзе нашчадкі ў дар перадалі архіўныя матэрыялы творцы і яго бібліятэку аддзелу рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.**

Бібліятэка А. Вялюгіна — гэта пераважна выданні ХХ ст. Усім багаццем сваёй творчасці прадстаўлены такія майстры беларускай літаратуры, як Янка Брыль, Рыгор Барадулін, Сяргей Грахоўскі, Юрка Гаўрук, Пятрусь Броўка, Максім Лужанін, Міхаіл Дудзін, Кастусь Кірэенка, Ян Скрыган, Пімен Панчанка, Уладзімір Карызна, Анатоль Астрэйка і інш. Кожная кніга тым больш каштоўная, бо мае памятны надпіс ці аўтограф.

Збор налічвае каля 400 выданняў і дазваляе даследчыкам зразумець не толькі Вялюгіна-чытача, але і Вялюгіна-мастака, пранікнуць у яго творчую майстэрню. Яна дазваляе сучаснікам убачыць паэта ў рэальным жыцці, у яго сувязях і стасунках з нацыянальнай культурай, гісторыяй, асновамі народнай творчасці, рускай і беларускай мастацкай літаратурамі. Тут шмат кніг і на ўкраінскай, польскай, армянскай, балгарскай, сербахарвацкай. Пераважна гэта мастацкая літаратура, але ёсць і дапаможнікі па мовазнаўстве, слоўнікі па розных галінах ведаў.

Пра Анатоля Вялюгіна гаварылі, што ён валодаў да зайздрасці рэдкім сярод літаратараў дарам радавацца чужой удачы, чужой знаходцы і чужому поспеху болей, чым сваім. У паэта было шмат сяброў. Колькі ён падтрымаў талентаў, блаславіўшы на нялёгкую дарогу ў літаратуры! Любіў дарыць рыфмы, радкі і строфы, каб верш загучаў, набыў крылы. Быў «хросным бацькам» першых зборнікаў маладых аўтараў. Здзіўляе ўмельства, з якім ён адбіраў вершы, ставіў іх у кнізе так, каб не забівалі паўторамі адзін аднаго, а падкрэслівалі, выцягвалі, што называецца, агульную думку.

У 1946 — 1984 гг. А. Вялюгін працаваў рэдактарам аддзела паэзіі часопіса «Полымя». Часопіс, як казалі літаратары, паважаны, нават крыху акадэмічны, як па сваім узросце і памеры, так і па абсягу і ахопу тэм. Але ў аддзел паэзіі, які з 1946 года з невялікімі перапынкамі ўзначальваў Анатоль Вялюгін, заўсёды ішлі маладыя. Ды па добрай традыцыі не запісвалі ў чаргу. Найперш друкавалася лепшае, свежае, новае.

У прадмове да Поўнага збору твораў А. Вялюгіна Рыгор Барадулін распавядае, што першы часопіс, у якім ён надрукаваўся, быў «Полымя». «Помню на старонках рукапісу свайго вялюгінскія поўныя плюсы (там, дзе верш цалкам падабаўся яму) і, калі можна так сказаць, паўмінусы (дзе трэба было яшчэ такі папацець, памеркаваць, памазгаваць). Быў у мяне верш пра цаліну, які пачынаўся радкамі: «Стэпавы ўчотчык — перакаці-поле», стаяў супроць яго паўмінус, два разы прыносіў, але ў «Полымі» ён свету так і не пабачыў. Пазней дайшло, на які паварот вобраза далікатна, але рашуча накіроўваў мяне *настаўнік*. У мяне перакаціполе параўноўвалася з учотчыкам, а Анатолю Вялюгіну хацелася, каб верш быў пра землеўпарадчыка, пра першаадкрывальніка стэпавых гектараў, а не пра экзатычную расліну, якая даўно гуляе па старонках паэтычных кніг і падборак». Далей Р. Барадулін успамінае: «Як цяпер помніцца красавіцкае ранне, калі чытаў Аркадзь Куляшоў канчатковы варыянт «Хамуціуса» Анатолю Вялюгіну, а той, па-змоўніцку ўсміхнуўшыся, зазначыў: на мне ўсе, як на сабаку, вершы правяраюць…»

Разам з А. Вялюгіным працаваў у «Полымі» Ян Скрыган. Яго падарунак сябру — кніга «Некалькі хвілін чужога жыцця. Літаратурныя ўспаміны, сустрэчы, шляхі» з дарчым надпісам: «Анатолю Вялюгіну. Дарагі Толя, я заўсёды з прыемнасцю ўспамінаю, калі разам з табою працаваў у «Полымі». Няхай гэты надпіс будзе таму добрым напамінкам. Сардэчна Ян Скрыган. 6.7.79 г.»

У творцы было шмат вучняў. У нашай калекцыі ёсць кніга Таісы Бондар «Чырвоны месяц года. Вершы. Паэма». На форзацы дарчы надпіс: «Анатолю Сцяпанавічу з глыбокай удзячнасцю за разуменне і падтрымку. Таіса. 12.04.85». Маем і зборнік вершаў «…І голас набыла душа. Вершы і паэмы» з дарчым надпісам: «Анатолю Сцяпанавічу замест прызнання ў любві. З удзячнасцю Таіса. 26.02.80 г.»

Нельга абмінуць цікавы надпіс на кнізе апавяданняў Янкі Брыля «Надпіс на зрубе»: «Анатолю Вялюгіну. Сябру, паэту, рэдактару і сабутыльніку па чаю і малаку. 15.09.58. Янка Брыль». У калекцыі шмат выданняў Петруся Броўкі: зборнікі вершаў «Далёка ад дому», «Пахне чабор», «Між чырвоных рабін».






Цікавы тэкст дарчага надпісу ў аўтабіяграфічнай кнізе Пімена Панчанкі: «Дарагому сябру Анатолю Вялюгіну, з якім мы разам пражылі ў Менску, а потым у Мінску тысячу гадоў. Паглядзі на здымкі і ўспомні, што мы ў тыя гады пілі, што пісалі, чым захапляліся. Ад усяго сэрца — Пімен Панчанка. А «Спелы бор» — і я так не здолеў прыдумаць. 27.8.87».

Рэдка прадстаўляючы ў афіцыйных дэлегацыях беларускую паэзію, Анатоль Вялюгін заўсёды выступаў паўнамоцным паўпрэдам ва ўсіх анталогіях. І сам ён, дарэчы, быў найлепшым укладальнікам анталогій беларускай паэзіі і рэдактарам анталогій замежных творцаў. Ён шчыра сябраваў з Міхаілам Дудзіным і Міколам Нагнібедай, Платонам Варанько і Вадзімам Шэфнерам, Якавам Ухсаем і Якавам Хелемскім. Моцныя повязі былі з Міхаілам Луконіным, песняром Волгі. Пачалося ўсё з першага пасляваеннага зборнічка «Дни свиданий», на вокладцы якога накрэслена друкаванымі літарамі: «Родному спутнику в дальней дороге Анатолию Велюгину от друга его поэзии. С любовью Михаил Луконин».

У вялюгінскай бібліятэцы захоўваюцца кнігі Міхаіла Дудзіна, сярод іх — «Ландыш на минном поле. Стихотворения и поэмы», з дарчым надпісам: «Анатолию Велюгину, по солдатской судьбе побратиму. Сердечно М. Дудин. Ленинград-Минск. 19.XII.80»; Міколы Нагнібеды — «День побачення», «Пригорщ землі», «Мое серце в степах»; Якава Хелемскага — зборнікі «Из года в год», «В начале седьмого», «Листва»; Платона Варанько — «Вибране»; Вадзіма Шэфнера — «Облака над дорогой», «Московское шоссе»; Якава Ухсая — «Дед Кельбук. Поэма» і інш.

Як паэт, кінадраматург, перакладчык А. Вялюгін зрабіў значны ўнёсак у айчынную культуру. Яго паэзія атрымала шырокае прызнанне не толькі на Радзіме, але і далёка за межамі. Вялюгінская манера, вялюгінскі радок, вялюгінская рыфма, вялюгінская школа перакладу — гэта і літаратуразнаўчыя тэрміны, і паўсядзённая практыка нашай паэзіі. Творца пераклаў паэмы Міхаіла Лермантава і Лесі Украінкі, дапамог загаварыць па-беларуску Эдуардасу Межэлайцісу і Пабла Нэруда, Уладзіславу Бранеўскаму і Назыму Хікмету, Мікалаю Ціханаву і Юліяну Тувіму… Эпіграма, экспромт, пародыя — з імі А. Вялюгін не развітваўся. «Яму на зуб баяцца патрапіць безнадзейна ўбранзавелыя літаратурныя пыхліўцы і калегі, што часам хочуць спачыць на ўяўных лаўрах», — успамінаў Рыгор Барадулін.

Каго ў свой час не ўразілі дакументальныя кінастужкі, знятыя па сцэнарыях Вялюгіна, — «Генерал Пушча», «Дарога без прывалу», «Вуліца машыністаў» і добры дзясятак іншых! У іх таксама адчуваецца шчодрае дыханне паэзіі, почырк сталасці паэта. Аднак гэта цікавейшая сфера яго творчасці патрабуе асобнай увагі і чакае, як кажуць, свайго даследчыка.

Вывучэнне бібліятэкі А. Вялюгіна дае каласальны матэрыял для ўдакладнення фактаў біяграфіі майстра, яго стасункаў з аўтарамі розных пакаленняў і спецыяльнасцей. Гэта неацэнны матэрыял для больш глыбокага разумення асобы паэта, які дапамагае глыбей пранікнуць у яго творчую майстэрню, лепш зразумець шляхі фарміравання поглядаў, падказвае, як нараджаліся творчыя ідэі Вялюгіна-мастака, складваліся эстэтычныя погляды, якія знайшлі адлюстраванне не толькі ў мастацкім досведзе паэта, але і ў яго тэарэтычных артыкулах і выступленнях.

**Алена ДЗЕНІСЕНКА,
навуковы супрацоўнік
аддзела рэдкіх кніг
і рукапісаў Цэнтральнай
навуковай бібліятэкі імя
Я. Коласа НАН Беларусі**

**Людміла САЯНКОВА, загадчык кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі Інстытута журналістыкі БДУ, кінакрытык:**

— Дамінуючае пачуццё на сыходзе мінулага года — стомленасць і жаданне душэўнага камфорту. Як быццам спыняецца бег і трэба хоць на імгненне перайсці на павольны крок. У кожным годзе ёсць свае імгненні смутку, расчараванняў, а іншым часам — і сапраўднага болю. Але чалавечая памяць выстаўляе свае ахоўныя заслоны: нашы поспехі, прыемныя сустрэчы, радасныя падзеі.

Дзве культурныя з'явы мінулага года — гэта і падзеі, і сустрэчы, і адкрыцці, якія стасуюцца з адным пачуццём — сапраўднага шчасця. Шчасце — гэта не толькі тады, «калі цябе разумеюць», але і тады, калі ты пачынаеш па-новаму разумець сусвет, калі ты адкрываеш новыя зместы і новыя сэнсы. Міжнародны тэатральны форум «ТЕАРТ» і Мінскі міжнародны кінафестываль «Лістапад» — менавіта такія з'явы. Гэта не проста тэатральныя відовішчы і кінапрагляды. За кожным спектаклем, фільмам бачыцца менавіта тое, што называецца "аўтарскі месэдж", кожны твор можна разглядаць як асобнае "пасланне да чалавека". Падзеі падобнага міжнароднага ўзроўню — яшчэ і сапраўдны гонар, паколькі годна ўводзіць краіну ў міжнародны культурны кантэкст. Добра, калі ў гэтым кантэксце заўважаецца і сваё. Але, на жаль, гэта не заўсёды атрымліваецца.

У па-сапраўднаму культурным асяроддзі ёсць пэўныя знакі. Іх наяўнасць важная, таму што яны сведчаць пра працяг — традыцый, руху, жыцця. Адным з такіх знакаў з'яўляецца «ЛіМ». Газета не толькі пашырае наш досвед, а па-сапраўднаму ўзбагачае асэнсаваннем культурнай прасторы. На старонках штотыднёвіка інфармацыйнае натуральна спалучаецца з культуралагічным, журналісцкае з мастацтвазнаўчым, папулярнае з філасофскім, нацыянальнае з агульнасусветным.

Творчая падзея ў маім жыцці — кніга, якая пісалася больш як дваццаць год: "Минский международный кинофестиваль «Лістапад»: 20 лет спустя". Спадзяюся, што гэта не вынік, а пачатак. Пачатак новых фестывальных дзесяцігоддзяў, а можа, і штуршок для кагосьці іншага стварыць свой кіналетапіс. Не менш прыемным, чым выхад самой кнігі, былі і надрукаваныя ў розных газетах рэцэнзіі альбо водгукі. Штосьці ў гэтым ёсць — магчымасць паглядзець на створанае табой вачыма іншых аўтараў. Вялікі дзякуй першым маім рэцэнзентам — Людміле Рублеўскай і Марыі Войцік.

# Год пачынаецца… з «Нацыяналкі»!

Каб адчуць атмасферу сапраўднага свята ды правесці вольны час у цікавым, спакойным і ўтульным месцы, раю адразу пасля ёлачных карагодаў і катання на каньках накіравацца ў Нацыянальную бібліятэку Беларусі! Галоўная кніжная скарбніца краіны рыхтуе да Новага года і Каляд шэраг разнастайных мерапрыемстваў.

### ЧАКАННЕ ЦУДАЎ

Кніжная выстаўка «Навагодні серпанцін», якая пачалася ў снежні, мае права называцца самай чарадзейнай. Яркая і маляўнічая экспазіцыя прадстаўляе ўвесь цырыманіял, звязаны з сустрэчай Новага года і Каляд, распавядае пра гісторыю і традыцыі любімых свят. Тут можна пабачыць выданні, прысвечаныя святочным звычаям розных народаў, прыкметам і павер'ям, даведацца, як упрыгожыць свой дом, арыгінальна аформіць падарункі, здзівіць родных кулінарным майстэрствам. Цэнтральнае месца займаюць сучасныя выданні, але ёсць і помнікі даўніны.

Другая цалкам навагодняя выстаўка «У чаканні цуду» падцвердзіць, што Каляды — час весялосці, надзей і мрояў. Дзякуючы ёй можна лёгка вырвацца са штодзённай мітусні і патрапіць у казку мастацтва разам з кампаніяй вясёлых снегавікоў, Дзядоў Марозаў, фей, Снягурак і іншых герояў. У аснове экспазіцыі выяўленчыя дакументы з фондаў Нацыянальнай бібліятэкі, сярод якіх — рэдкія замежныя і айчынныя паштоўкі мінулага стагоддзя і сучаснага перыяду, навагоднія плакаты 1960 — 1980 гадоў.

— Нацыянальная бібліятэка перавыдала шэраг калядных і навагодніх паштовак, якія ўбачылі свет у розныя часы ў іншых краінах свету, і, крыху адаптаваўшы іх да сучаснасці, актыўна прапануе наведвальнікам, — распавёў намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі па навуковай справе і выдавецкай дзейнасці Алесь Суша.

### ДЗІЦЯЧЫЯ РАДАСЦІ

Падчас свят бацькі могуць крыху адпачыць, бо ранішнікі для дзяцей пачынаюцца ў Нацыянальнай бібліятэцы ў снежні і праходзяць амаль кожны дзень. Хлопчыкі і дзяўчынкі збіраюцца ля ёлкі, каб пазнаёміцца з казачнымі персанажамі, паўдзельнічаць у гульнях, конкурсах і віктарынах. Кніжніца традыцыйна супрацоўнічае з дзіцячымі дамамі Беларусі. Кожны год акурат пад святы яе супрацоўнікі праводзяць дабрачынную акцыю з падарункамі — «Здзейсні дзіцячую мару». Нельга не ўспомніць і дабрачынны калядны баль кніг, які другі год запар рыхтуюць Нацыянальная бібліятэка і Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Падчас імпрэзы адбыўся вялікі кніжны аўкцыён, а сродкі ад рэалізаваных кніг пайшлі на дапамогу выхаванцам дома-інтэрната.

### СПАДЧЫНА ПЕРШАДРУКАРА

Напярэдадні свят у Нацыянальнай бібліятэцы праходзяць «круглыя сталы», урачыстыя сустрэчы, на якіх падводзяцца вынікі года. Учора стартаваў вялікі пяцігадовы праект па факсімільным узнаўленні ўсёй кніжнай спадчыны Францыска Скарыны — як пражскіх, так і віленскіх выданняў.

— Падчас агульнарэспубліканскай акцыі творы першадрукара, больш як 20 кніг, будуць перададзены ў бібліятэкі, музеі ды іншыя ўстановы культуры і адукацыі краіны, а таксама замежжа, — удакладніў Алесь Суша. Гэта мерапрыемства становіцца яшчэ больш каштоўным, калі ўзгадаць, што наперадзе — святкаванне 500-годдзя беларускага кнігадрукавання і плануецца, што Мінск можа прэтэндаваць на званне сусветнай кніжнай сталіцы.

### ТРАДЫЦЫЙНА ПРА ВАЖНАЕ

Святочную атмасферу ў бібліятэцы падтрымаюць не толькі навагоднія, але і традыцыйныя кніжныя выстаўкі, большасць з якіх прысвечана юбілярам. Добра вядома, што ў Калядны вечар нарадзіўся Адам Міцкевіч, таму ў снежні ў бібліятэцы прайшоў вялікі літаратурны фэст і адкрылася выстаўка «Перачытаць Міцкевіча ўсяго...», прысвечаная 215-годдзю паэта. Экспазіцыя акрамя польскамоўнага збору твораў у 17 тамах і рускамоўнага пяцітомніка ўключае тэматычныя падборкі выбраных вершаў, балад, санетаў і баек, публіцыстыку, партрэты Адама Міцкевіча, даследаванні яго жыцця і творчасці.

Дарэчы, калі прагуляцца па калідорах бібліятэкі, можна даведацца і пра іншых цікавых асоб беларускай культуры — кампазітара, народнага артыста Яўгена Цікоцкага, пісьменніка Казіміра Камейшу, этнамузыколага, кінематаграфіста Зінаіду Мажэйка, паэта, кінадраматурга Анатоля Вялюгіна.

Па словах Алеся Сушы, адразу пасля Новага года ў бібліятэцы пройдуць новыя імпрэзы, звязаныя з не менш знакамітымі асобамі — Тарасам Шаўчэнкам і Уільямам Шэкспірам.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Першыя крокі ў нязведаны край

Варона, Лісіца і Воўк, Дзед Мароз ды іншыя казачныя героі напярэдадні Новага года завіталі ў сталічную дзіцячую бібліятэку № 4, каб расказаць маленькім чытачам казкі, праверыць іх эрудыцыю і вызначыць самых уважлівых і кемлівых.

Дзеці з задавальненнем акунуліся ў незвычайнае дзейства, якое прапанавалі ім супрацоўнікі кніжніцы і студэнты бібліятэчнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў. Маленькія чытачы стараліся запомніць усё, бо актыўных удзельнікаў чакалі не толькі шчырыя апладысменты, але і ўзнагароды.

У будучым годзе, 1 верасня, што вельмі сімвалічна, дзіцячая бібліятэка № 4 г. Мінска адзначыць шасцідзесяцігоддзе з дня адкрыцця. Сёння ўстанову наведваюць больш як 6300 чытачоў, пераважная большасць — дзеці да 15 гадоў. Заходзяць сюды і дарослыя: сучасныя бацькі цікавяцца выданнямі нават для… сямімесячных дзяцей.

— Апошнім часам бацькі сталі куды часцей прыходзіць па кнігі, — распавяла загадчыца дзіцячай бібліятэкі № 4 Людміла Бусел. — Атрымліваецца, што наша ўстанова неўпрыкметку ператварылася ў бібліятэку сямейнага чытання.

На працягу мінулых шасці гадоў папулярызацыя беларускай літаратуры і роднай мовы стала прыярытэтам у дзейнасці бібліятэкі. У гэтым рэчышчы працавалі і раней, але з прыходам на пасаду загадчыцы Людмілы Бусел, якая да гэтага некалькі дзесяцігоддзяў кіравала аддзелам абслугоўвання ў Мінскай Цэнтральнай гарадской дзіцячай бібліятэцы імя М. Астроўскага, прапаганда нацыянальнай літаратуры, гісторыі, культуры, прыроды роднага краю выйшла на першае месца. А 4-я дзіцячая Людміле Станіславаўне не чужая — сюды трапіла яна ў 1978 годзе па размеркаванні пасля заканчэння Інстытута культуры.

Праводзячы мерапрыемствы з чытачамі малодшага ўзросту, прыйшлі да высновы: для таго, каб яны ведалі сваю гісторыю і традыцыі, патрэбны шэраг мерапрыемстваў пачынаючы з першага класа ці нават з дзіцячага садка. Таму распрацавалі адпаведны цыкл «Наш дом — Беларусь», які працягваецца і сёння.

У «нязведаны» край запрасіў маленькіх чытачоў клуб «Рамонак». Спачатку яго членамі былі ў асноўным вучні 2 — 3 класаў. З 2010 года ўдзельнікаў прыбавілася, і аўдыторыя крыху змянілася. Цяпер бібліятэка працуе ў цесным кантакце з выхаванцамі дзіцячага садка № 131. Тры групы (адна — кожны аўторак, дзве іншыя — кожную сераду) наведваюць бібліятэку. Малыя пры дапамозе яе супрацоўнікаў вучацца размаўляць пабеларуску, знаёмяцца з новымі словамі, вучаць на памяць вершы айчынных паэтаў, удзельнічаюць у віктарынах, конкурсах, святах.

— Каб зрок і слых дзяцей былі бліжэй да беларускага, — працягвае свой расповед загадчыца, — вырашылі стварыць этнаграфічны куток «Беларуская хатка», дзе сабралі рэчы сялянскага побыту пачатку ХХ стагоддзя. Адзін ручнік, а яму больш як сто гадоў, прынесла наша супрацоўніца. Я аддала ў музей яшчэ «старэйшы» ручнік родам з Астравецкага раёна, які выткала мая прабабка. Ёсць у нас прас, калаўрот, станочак для вырабу нітак, чыгунок, патэльня і іншыя цікавыя рарытэты. Гэты куточак мы назвалі «Сядзіба, або хата з матчынай душою» і аформілі кніжную выстаўку з такой самай назвай. Менавіта тут праходзяць мерапрыемствы клуба «Рамонак».

Ужо некалькі гадоў многія хлопчыкі і дзяўчынкі завітваюць у бібліятэку не толькі па кнігі, але і на экскурсію ў «Беларускую хатку». Трэба бачыць, з якім задавальненнем яны слухаюць аповед пра тое, як раней выраблялі і прасавалі адзенне, пяклі хлеб! Зразумела, старэйшыя дзеці больш цікавяцца камп'ютарамі. Але калі іх запрашаюць на майстар-клас, напрыклад, па саломапляценні ці на прэзентацыю беларускага народнага касцюма, гэта таксама захапляе.


Фота Кастуся Дробава

Наталля Отчэская знаёміць юных чытачоў з побытам продкаў.

— Дзеці так непасрэдна рэагуюць, задаюць шмат пытанняў, што хочацца яшчэ цікавей распавесці ім пра многія рэчы, — зазначае загадчыца сектара аддзела абслугоўвання дзіцячай бібліятэкі № 4 Наталля Отчэская. — Дзеля юных чытачоў і ёлачкі рабілі, і снегавікоў «ляпілі». Праводзім майстар-класы па вырабу куватак — народных лялек. Да мерапрыемстваў, якія ладзяцца ў нас, рыхтуемся не толькі мы, але і юныя чытачы: яны вучаць на памяць вершы, прыходзяць у беларускіх нацыянальных строях. Мы цесна супрацоўнічаем з Цэнтрам дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі «Ветразь» і дзіцячым клубам «Спадарожнік», які працуе пры ЖЭСе № 50.

На рахунку бібліятэкараў — больш як 100 мультымедыйных прэзентацый, якія распавядаюць пра творчасць пісьменнікаў ці прысвечаны нейкай канкрэтнай тэме. З апошніх напрацовак — рознакаляровая электронная кніга з прыгожымі малюнкамі, вершамі і загадкамі на беларускай мове. Калі Дзеда Мароза ведаюць усе, то з яе дапамогаю можна бліжэй пазнаёміцца з Зюзем, Ляляй, Жыценем, Сварогам… Зразумела, чаму настаўнікі навакольных школ не мінаюць бібліятэку № 4 і часта прыходзяць сюды з вучнямі для ўдзелу ў шматлікіх мерапрыемствах.

Кніжніца брала ўдзел у некалькіх творчых спаборніцтвах. У выніку — перамогі: першае месца ў намінацыі «За значны ўклад у выхаваўчую работу з падрастаючым пакаленнем» рэспубліканскага конкурсу «Бібліятэка — асяродак нацыянальнай культуры» і трэцяе месца сярод дзіцячых бібліятэк г. Мінска ў конкурсе «Перачытаем класіку», які праводзіўся да 130-годдзя Якуба Коласа і Янкі Купалы.

— Часта завітваюць у бібліятэку беларускія творцы, — паведаміла Людміла Бусел. — Юныя чытачы добра знаёмы з творчасцю Міхася Пазнякова, Міхася Башлакова, Георгія Марчука, Уладзіміра Мазго, Валерыя Кастручына, Генадзя Аўласенкі, Міколы Чарняўскага ды іншых. Выданні з дарчымі надпісамі можна ўбачыць у міні-музеі аўтографаў, які знаходзіцца ў чытальнай зале.

**Раіса МАРЧУК**



**Маргарыта ЛАТЫШКЕВІЧ, пісьменніца:**

— Калі б папрасілі даць гэтаму году адно нейкае азначэнне, я б, відаць, выбрала «энергічны». Шмат падзей, новых месцаў, новых знаёмстваў, новых перажыванняў, новых вопытаў і новых выклікаў. Усё — дзівоснае, усяго — шмат, а таму ёсць за што падзякаваць старому году.

Выбітнай і папраўдзе знакавай падзеяй для мяне была, канечне, перамога ў конкурсе «Мост Дружбы». Пабачыць свой твор апублікаваным, пазнаёміцца з маладымі калегамі — што можа быць лепей? Асабліва прыемна, што дыплом атрымала менавіта за фантастычнае апавяданне. Люблю фантастыку — і чытаць, і пісаць. Далібог, люблю нават болей за дранікі.

Год быў чароўны і загадкавы, дарыў сюрпрызы. Таму, відаць, давялося таксама выступіць у трохі нязвыклай для мяне ролі — мастака-ілюстратара для кнігі майго любімага навуковага кіраўніка Рымы Кавалёвай «Курочка Ряба и другие: что-то вроде уроков воспитания». Малявалась мне дужа падабаецца, таму працавалася лёгка і прыемна. І, што самае галоўнае, аўтар кнігі ілюстрацыямі задаволены.

А яшчэ было шмат працы ў аспірантуры, некалькі канферэнцый і навуковых семінараў, штудыі з групай студэнтаў на летняй фальклорнай практыцы, падарожжа ў Маскву і там — о радасць! — візіт у кватэру-музей Булгакава, выступленні з вершамі на паэтычных вечарах і сустрэчах у школах. І нават самы-самы першы візіт на тэлебачанне — цікава было пабачыць усю гэтую кухню знутры, паглядзець уважліва, адчуць на сабе.

Адным словам, год быў надзвычай насычаным, яркім, з салодкім прысмакам інтрыгі. Але надыходзіць новы, і я шчыра спадзяюся, што ён будзе не менш цікавым, светлым і шчодрым. Спадзяюся, што радасці і шчасця ў яго хопіць для ўсіх — далёкіх і блізкіх, дарослых і маленькіх.

# Фабержэ па-ўкраінску


Фота Кастуся Дробава

Карона скрутка Торы. Сярэдзіна XIX ст. Украіна, Камянец-Падольскі.

**Больш як сотню экспанатаў з золата, срэбра, фарфору і фаянсу ў Мінску прадстаўляе выстаўка «Скарбы Украіны». Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь сумесна з Нацыянальным музеем гісторыі Украіны і яго філіялам — Музеем гістарычных каштоўнасцей Украіны прэзентуюць экспазіцыю украінскіх майстроў XVI — пачатку XX стст. Гэта ювелірныя ўпрыгажэнні, посуд, паясы і цырыманіяльныя прадметы высокапастаўленых асоб.**

Сярод іх вылучаецца панагія першай паловы XVIII ст., упрыгожаны эмалевымі медальёнамі пацір знакамітага кіеўскага майстра Івана Равіча (30-40-я гг. XVIII ст.), дэкарыраваныя вытанчанымі ўзорамі шаты абраза «Адзігітрыя» (20 — 30-я гг. XVIII ст.), а таксама блаславёныя крыжы з цудоўнай драўлянай разьбою ў срэбных, па-майстэрску выкананых шатах. Вырабы XIX ст. прадстаўлены кубкам 1852 г. і падшклянікам з серыі «Дракон» знакамітай кіеўскай фірмы Іосіфа Маршака (канец XIX ст.), якога называлі «украінскім Фабержэ».

Вялікую цікавасць ўяўляе калекцыя яўрэйскага цырыманіяльнага срэбра XVIII — пачатку XX ст., а таксама вырабы крымска-татарскіх, армянскіх, грузінскіх, сярэднеазіяцкіх майстроў.

Даволі значная калекцыя рэчаў XVII — XX стст., выробленых у ювелірных цэнтрах Расійскай імперыі. Найбольш ранняй і ўнікальнай з'яўляецца наўгародская двухбаковая панагія XVI ст. з разьбой на маржовай косці, яе срэбная аправа дэкаравана раслінным узорам, выкананым у папулярнай сярод рускіх майстроў тэхніцы эмалі па скані. Знакамітыя рускія жывапісныя эмалі з евангельскімі сюжэтамі прадстаўлены мініяцюрамі маскоўскіх і растоўскіх майстроў XVIII — XIX стст.

На выстаўцы таксама экспануюцца творы заходнееўрапейскага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва XV — пачатку XX ст., сярод іх — кубкі нямецкіх майстроў у выглядзе птушак і жывёл. Таксама наведвальнікі пазнаёмяцца з аўтарскай


Фота Кастуся Дробава

Скульптура «Арфей», другая палова XIX ст. Саксонія, Мейсен.

скульптурай, посудам Мейсенскай фарфоравай фабрыкі другой паловы XIX ст., вядучых фарфоравых заводаў Вены, Берліна.

Шырока прадстаўлены вырабы Імператарскай Кіева-Межыгорскай фарфоравай фабрыкі, а таксама знакамітых фабрык Міклашэўскага, Гарднера і інш. Гэта сталовыя сервізы, вазы, скульптуры. Уражлівае фарфор заходнееўрапейскай вытворчасці канца XVIII — другой паловы XIX ст., у тым ліку скульптура «Тры грацыі», выкананая па мадэлі вядомага італьянскага скульптара Антоніа Кановы.

Выстаўка прадстаўляе творы мастацтва, выкананыя ў розных агульнаеўрапейскіх стылях: барока, класіцызм з прыўнесенымі рысамі нацыянальных выяўленчых традыцый Украіны. У Беларусі «Скарбы Украіны» выстаўляюцца ўпершыню.

**Таццяна ШЫМУК**

**Таццяна Гаўрылава, лаўрэат міжнародных конкурсаў, салістка Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь:**

— 2013 год запомніўся мне ў першую чаргу гастролямі ў Талін, у Нацыянальную оперу «Эстонія». Менавіта там я ўпершыню выканала партыю Чыа-Чыа-сан у оперы «Мадам Батэрфляй». Гэтыя лютаўскія гастролі былі цудоўнымі па духу, прынеслі шмат уражанняў і цікавых знаёмстваў.

Калі гаварыць непасрэдна пра Вялікі тэатр, то мне было вельмі прыемна браць удзел ва ўрачыстасцях, прысвечаных яго 80-годдзю. Сезон 2012/2013 — юбілейны для нашага тэатра, у ім было шмат розных яркіх падзей, а ў маі адбылася кульмінацыя свята: мае калегі і я спявалі ў грандыёзным юбілейным гала-канцэрце, які прадставіў усё лепшае з нашага вялікага рэпертуару.

Я вельмі рада, што ў афішу тэатра вярнулася выдатная опера «Снягурка» ў пастаноўцы рэжысёра Сусанны Цырук. Лічу, што спектакль неардынарны, а музыка Мікалая Рымскага-Корсакава неверагодна прыгожая.

У гэтым годзе я запісала некалькіх барочных твораў з маладым струнным ансамблем «Партыта». Мы зрабілі запісы некалькіх арый Баха і Гендэля, і спадзяюся, што ў нашай творчай ініцыятывы будзе прыгожы працяг у 2014-м. Увогуле, я «хварэю» на барока і хачу пажадаць беларусам больш цікавіцца гэтай эпохай у гісторыі музыкі.

Яшчэ адзін праект, у якім узяла ўдзел, адбыўся ў снежні ў Акадэміі музыкі. Я спявала вакальны цыкл Сяргея Картэса на вершы Таццяны Мушынскай. І ганаруся тым, што аўтар запрасіў мяне для першага выканання свайго твора.

А самае галоўнае, што адбылося ў маім асабістым жыцці, звязана з маёй пяцігадовай дачкой. Яна пайшла ў музычную школу. Мы ўжо паўгода займаемся, спрабуем нешта іграць. Мне як музыканту вельмі цікава адкрываць сваю прафесію зноў, разам з дачкой, глядзець на ўсё вачыма дзіцяці. І я жадаю ўсім чытачам газеты «ЛіМ» ніколі не абмяжоўваць сябе рамкамі руціннага жыцця і ў любым узросце не баяцца спасцігаць мастацтва. Паверце, аддача будзе каласальнай!

Да новых сустрэч у Новым годзе!

**Уладзімір Савіцкі, мастацкі кіраўнік Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача:**

— Што адбылося ў 2013-м? На жаль, не адбылося галоўнага — пераезду тэатра ў новы будынак. Яго мы чакаем ужо ў наступным годзе: за пяць гадоў вырасла новае пакаленне гледачоў, дый акцёры зачакаліся… На новую сцэну мы прыйдзем з вялікай прэм'ерай — «Сіняй птушкай» паводле Метэрлінка — гэта будзе спектакль, які аб'яднае ўсю трупу. Для самых маленькіх у планах — казкі Каракевіча, падлеткаў чакае арыгінальная пастаноўка сусветнай класікі, а моладзь і пакаленне старэйшае, мяркую, будуць рады сустрэцца з Дон Кіхотам Сервантэса паводле п'есы Булгакава. Гэта вельмі цікавая, сур'ёзная тэма, і ў нашым тэатры ёсць акцёры, здольныя яе раскрыць. Для мяне асабіста «Дон Кіхот» — вельмі адказная праца і адначасова сімвал надзей, якія я ўскладаю на наступны год. Мы стаміліся змагацца з ветракамі і ў наступным годзе спадзяёмся нарэшце знайсці свой дом.

З пераездам звязаны і планы правесці ўласны тэатральны форум, адкрыць Цэнтр беларускай драматургіі для дзяцей, дзе з'явіцца магчымасць «вырошчваць» сваіх аўтараў. Разам з тым мы не збіраемся замыкацца ў сабе: рэпертуарны тэатр мусіць арганізоўваць абменныя гастролі, праводзіць майстар-класы, ладзіць сумесныя праекты з іншымі тэатрамі…

А пакуль мы працуем дзеля таго, каб у хуткім часе іншыя маглі раўняцца на нас!

# Сустрэча на Каляды

Добразычлівая атмасфера і пазітыўны настрой панавалі ў зале Мінскай бібліятэкі № 1 імя Талстога, дзе ладзілі Каляды Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры і Цэнтр «Інстытута нямецкіх даследаванняў» БДУ. На гэтым цудоўным свяце гучалі беларуская і нямецкая мовы. Вялі імпрэзу супрацоўнікі згаданых устаноў Лідзія Шагойка, Вольга Курбачова і Карстэн Мюнхаф.

Дырэктар Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Лідзія Макарэвіч і дырэктар Цэнтра «Інстытута нямецкіх даследаванняў» Уладзімір Ціханаў у сваіх выступленнях адзначылі, што калядныя сустрэчы, якія ўжо сталі традыцыйнымі, узмацняюць двухбаковыя культурныя сувязі. Пасля ўсе прысутныя спявалі разам нямецкія калядныя песні, тэксты якіх на нямецкай і беларускай мовах былі загадзя прадстаўлены гледачам клапатлівымі арганізатарамі імпрэзы. Шмат цёплых слоў віншавання прагучала ад пасла ФРГ у Беларусі Вальфрама Мааса.

Арганічна ўпісаўся ў праграму абрад «Жаніцьба Цярэшкі» — выступленне студэнтаў кафедры этналогіі і фальклору Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў. Гэта дыпломная праца студэнтаў старшага выкладчыка згаданай кафедры Таццяны Пладуновай. Упрыгожылі свята і дзяўчаты-студэнткі Беларускага дзяржаўнага політэхнічнага ўніверсітэта, якія выканалі харэаграфічны нумар «Зіма».

У праграме калядных сустрэч — конкурс Каляднага верша і кінаролікаў. У склад журы, якое ацэньвала паэтычныя здольнасці канкурсантаў, уваходзілі сакратар СПБ Георгій Марчук, супрацоўнік Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Іна Фралова.

Час праляцеў незаўважна, і нават пасля трох гадзін, а менавіта столькі доўжылася імпрэза, прысутныя доўга не разыходзіліся — усе дзяліліся ўражаннямі і шчырымі ўсмешкамі.

**Ганна СТАРАДУБ**


Лім

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**





**Юрыдычны адрас:** 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:** 220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by





Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:** Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства** «Выдавецтва «Беларускі Дом друку» г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2602.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 26.12.2013 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 5333.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686
9 770024 468001 13051